*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 6 лістапада 1987 г. № 45 (3403) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.



Мінск, 5 лістапада 1987 года. Урачыстае пасяджэнне ЦК КП Беларусі, Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, Мінскіх абкома і гаркома КПБ, абласнога і гарадскога Саветаў народных дэпутатаў, прысвечанае 70-й гадавіне Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

# ВЕРНАСЦЬ ВЯЛІКАЙ СПРАВЕ ЛЕНІНА

## Урачыстае пасяджэнне ў Мінску, прысвечанае 70-годдзю Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі

У абстаноўцы высокага духоўнага ўздыму сустракаюць савецкія людзі слаўны юбілей Вялікага Кастрычніка. Працоўныя Беларусі горача ўспрынялі планы партыі па паскарэнню сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны, па паглыбленню сацыялістычнай дэмакратыі. Атмасфера вялікага ўсенароднага свята панавала 5 лістапада ў Палацы спорту ў Мінску, дзе сабраліся ўдзельнікі ўрачыстага пасяджэння Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі, Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, Мінскіх абкома і гаркома партыі, абласнога і гарадскога Саветаў народных дэпутатаў. На сход былі запрошаны прадстаўнікі калектываў працоўных і воінаў Савецкай Арміі.

Да пачатку сходу яго ўдзельнікі разам з тысячамі мінчан і гасцей беларускай сталіцы сталі сведкамі маляўнічага тэатралізаванага прадстаўлення перад Палацам спорту.

13.00. Цёпла сустракаюць прысутныя ў зале паяўленне ў прэзідыуме таварышаў **Я. Я. Сакалова, Г. С. Таразевіча, М. В. Кавалёва, В. Г. Балуева, В. І. Борыса, М. І. Дземянцея, У. Г. Еўтуха, М. С. Ігрунова, В. Ф. Кебіча, М. І. Лагіра, У. А. Ляпёшкіна, А. А. Малафеева, В. А. Пячэннікава, Ю. М. Хусаінава, У. М. Шуралёва, У. І. Ганчарыка, В. В. Гурына.**

У прэзідыуме знаходзіліся таксама Старшыня і намеснікі Старшыні Вярхоўнага Савета БССР, члены Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, намеснікі Старшыні Савета Міністраў БССР, першыя сакратары абкомаў партыі і старшыні аблвыканкомаў, члены і кандыдаты ў члены бюро Мінскага абкома КПБ, члены бюро Мінскага гаркома КПБ, выканкомаў Мінскага абласнога і гарадскога Савета народных дэпутатаў, военачальнікі, ветэраны партыі, ўдзельнікі Кастрычніцкай рэвалюцыі, грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў, перадавікі і наватары вытворчасці, прадстаўнікі творчай і навуковай інтэлігенцыі, ганаровыя грамадзяне горада Мінска, зарубежныя дэлегацыі.

Разам з імі былі Генеральны консул ПНР у Мінску **М. Абядзіньскі,** Генеральны консул ГДР у Мінску **В. Янда.**

Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР **Г. С. Таразевіч** звяртаецца да ўдзельнікаў сходу з кароткай прамовай. Ён гаворыць:

Дарагія таварышы!

Паважаныя зарубежныя госці!

Кастрычніцкая рэвалюцыя — самая выдатная падзея XX стагоддзя. Наш сход прысвечан яе слаўнаму юбілею, яе 70-годдзю. У гэты час усе мы ў думках вяртаемся да ўрачыстага пасяджэння ў Маскве. У дакладзе Генеральнага сакратара ЦК КПСС Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова з пазіцый ленінскай праўды і рэалізму раскрыт гістарычны шлях нашай партыі і Радзімы, напоўнены барацьбой і стварэннем, нялёгкімі перамогамі і здзяйсненнямі ў будаўніцтве новага грамадства.

Вялікі Кастрычнік — гэта Ленін і партыя, рэвалюцыя і Савецкая ўлада, сацыялізм і прагрэс чалавецтва.

Мы з поўнай падставай ганарымся заваёвамі рэвалюцыі, дасягненнямі Савецкай Радзімы ў палітычным, эканамічным, сацыяльным і духоўным развіцці. Савецкі Саюз сёння — гэта магутная сацыялістычная дзяржава з надзвычай багатым чалавечым, вытворчым і навукова-тэхнічным патэнцыялам. У аснове нашых дасягненняў — працоўная доблесць і талент, рэвалюцыйная стойкасць і гераізм рабочага класа, калгаснага сялянства, народнай інтэлігенцыі.

Красавіцкі (1985 г.) Пленум ЦК КПСС сфармуляваў канцэпцыю паскарэння сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны. Курс на абнаўленне сацыялізму атрымаў далейшае развіццё ў рашэннях XXVII з'езда партыі, наступных Пленумаў ЦК КПСС. Цяперашняя гіганцкая па маштабах і рэвалюцыйная па сваёй сутнасці перабудова грамадскага жыцця — прамое прадаўжэнне справы Кастрычніка. Гэта лінія поўнасцю выражае волю і інтарэсы савецкіх людзей.

Адзначаючы слаўны юбілей рэвалюцыі, мы зноў і зноў пацвярджаем вернасць прынцыпам сацыялістычнага інтэрнацыяналізму, нашу салідарнасць з барацьбітамі супраць імперыялізму і прыгнёту, за свабоду і незалежнасць народаў.

Сімвалічна, што разам з намі ў сённяшнім свяце ўдзельнічаюць нашы зарубежныя сябры — дэлегацыі:

Плоцкага ваяводства Польскай Народнай Рэспублікі на чале са старшынёй ваяводскай кантрольна-рэвізійнай камісіі Польскай аб'яднанай рабочай партыі таварышам **Антоні Урубелем,**

Акругі Патсдам Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі на чале з другім сакратаром Патсдамскага акруговага камітэта Сацыялістычнай адзінай партыі Германіі таварышам **Ульрыхам Шлаакам,**

Правінцыі Кунар Дэмакратычнай Рэспублікі Афганістан на чале з загадчыкам аддзела правінцыяльнага камітэта партыі таварышам **Мафадам.**

Мы ад усёй душы вітаем нашых братоў па класу, баявых сяратнікаў і таварышаў па агульнай барацьбе.

Са святам вас, дарагія таварышы і нашы паважаныя госці, з вялікім і светлым святам Кастрычніка!

Г. С. Таразевіч аб'яўляе ўрачыстае пасяджэнне Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі, Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, Мінскіх абкома і гаркома партыі, абласнога і гарадскога Саветаў народных дэпутатаў, прысвечанае 70-й гадавіне Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, адкрытым.

Велічна гучаць пад зводамі Палаца Дзяржаўныя гімны СССР і БССР.

Пад бурныя апладысменты выбіраецца ганаровы прэзідыум урачыстага пасяджэння ў саставе Палітбюро ЦК КПСС. Уносяцца сцягі Беларускай ССР, Мінскай вобласці, горада-героя Мінска і Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі; Памятныя сцягі ЦК КПСС, Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, Савета Міністраў СССР і ВЦСПС — імі ўзнагароджана рэспубліка і Мінская вобласць; Чырвоныя сцягі ЦК КПСС, Савета Міністраў СССР, ВЦСПС і ЦК ВЛКСМ, якімі ўзнагароджана рэспубліка; Чырвоныя сцягі ЦК КПБ, Савета Міністраў БССР і Белсаўпрофа, якімі ўзнагароджан горад Мінск.

(Заканчэнне на стар. 8).

# ЛЕНІНСКІМ КУРСАМ КАСТРЫЧНІКА

## *Урачыстае пасяджэнне ў Крамлёўскім Палацы з'ездаў*

Самай выдатнай падзеяй XX стагоддзя, якая абвясціла пачатак новай эры ў жыцці чалавецтва, увайшла ў гісторыю Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя. Яна стала беспрыкладным узлётам гістарычнай творчасці мас, якія разарвалі ланцугі прыгнёту і эксплуатацыі.

70-годдзю Вялікага Кастрычніка прысвечана сумеснае ўрачыстае пасяджэнне Цэнтральнага Камітэта КПСС, Вярхоўнага Савета СССР і Вярхоўнага Савета РСФСР, якое адкрылася ў Маскве 2 лістапада. У Крамлёўскім Палацы з'ездаў сабраліся члены і кандыдаты ў члены ЦК КПСС, члены Цэнтральнай рэвізійнай камісіі КПСС, дэпутаты Вярхоўных Саветаў Саюза ССР і Расійскай Федэрацыі, пасланцы прафсаюзаў і камсамола, ветэраны партыі, удзельнікі грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў, ударнікі дванаццатай пяцігодкі, шматлікія зарубежныя госці, якія прыбылі ў нашу краіну на юбілейныя ўрачыстасці, дыпламатычны корпус, прадстаўнікі прэсы.

Дзесяць гадзін раніцы. Апладысментамі сустрэлі прысутныя таварышаў **Гарбачова М. С., Варатнікова В. І., Грамыку А. А., Зайкова Л. М., Лігачова Я. К., Ніканава В. П., Рыжкова М. І., Слюнькова М. М., Саломенцава М. С., Чэбрыкава В. М., Шэварднадзе Э. А., Шчарбіцкага У. В., Якаўлева А. М., Дземічава П. Н., Далгіх У. І., Ельцына Б. М., Салаўёва Ю. П., Талызіна М. У., Язава Д. Ц., Бірукову А. П., Дабрыніна А. Ф., Лук'янава А. І., Мядзведзева В. А., Разумоўскага Г. П., Капітонава І. В.**

У прэзідыуме таксама — кіраўнікі саюзных рэспублік, ветэраны ленінскай партыі, удзельнікі Кастрычніцкай рэвалюцыі, героі ратных і працоўных перамог сацыялістычнай Айчыны, вядомыя вучоныя, майстры культуры, военачальнікі, вядомыя грамадскія дзеячы.

Тут жа — кіраўнікі партыйна-дзяржаўных і партыйна-ўрадавых дэлегацый сацыялістычных краін, прэзідэнты і кіраўнікі ўрадаў рада дзяржаў, кіраўнікі саюзных рэспублік, кіраўнікі камуністычных і рабочых партый, рэвалюцыйна-дэмакратычных, нацыянальна-дэмакратычных партый, вызваленчых рухаў, прадстаўнікі сацыял-дэмакратыі, выдатныя грамадскія дзеячы.

Уступным словам сумеснае ўрачыстае пасяджэнне Цэнтральнага Камітэта КПСС, Вярхоўнага Савета СССР і Вярхоўнага Савета РСФСР адкрыў член Палітбюро ЦК КПСС, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР **А. А. Грамыка.**

Адсюль, са сцен Крамля, сказаў ён, мы віншуем са святам увесь савецкі народ і кожнага грамадзяніна паасобку. У нас няма безыменных герояў. Кожны павінен ведаць, што яго праца патрэбна грамадству. Гэта праца — сумленная, з поўнай аддачай — лепшы ўклад у гістарычную справу перабудовы.

Справа Кастрычніка жыве ў нашай краіне. Але не толькі ў нашай. Яе можна бачыць у поспехах краін сацыялізму. Яна — у справах брацкіх камуністычных і рабочых партый, у нацыянальна-вызваленчай барацьбе народаў, у руху ўсіх прагрэсіўных сіл планеты за мір. Аб павазе да Савецкай дзяржавы, да нашай партыі і народа сведчыць той факт, што ў сённяшнім свяце разам з намі ўдзельнічаюць 163 дэлегацыі са 119 краін, паведаміў прамоўца.

Гучыць Дзяржаўны гімн Савецкага Саюза.

Слова для даклада «Кастрычнік і перабудова: рэвалюцыя працягваецца» прадастаўляецца Генеральнаму сакратару Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза **М. С. Гарбачову.**

Даклад таварыша Гарбачова М. С., выслуханы з вялікай увагай, суправаджаўся працяглымі апладысментамі.

Затым на ўрачыстым пасяджэнні пачаліся выступленні і прывітанні.

Што адчувае чалавек майго ўзросту і жыццёвага вопыту ў гэтыя ўрачыстыя і радасныя дні,—звярнуўся да ўдзельнікаў пасяджэння член КПСС з 1917 года масквіч **К. П. Сіназерскі.** Больш за ўсё — гордасць. Гордасць за стойкасць, мэтанакіраванасць і гераізм нашай ленінскай партыі і савецкага народа. Кастрычнік — гэта ўсе мы, пакаленні савецкіх людзей, жывая гісторыя краіны. Кастрычнік — гэта пераўтварэнні сённяшніх дзён.

Вывераны, правільны погляд на пройдзены краінай гістарычны шлях, сказаў удзельнік штурму Зімняга, дадзены ў дакладзе Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. С. Гарбачова. Прадэманстраван рэалізм ацэнак кожнага перыяду будаўніцтва сацыялізму. Без захвальвання, але і без прымяншэння сілы нашага грамадства. Мне, як і ўсім ветэранам партыі, радасна бачыць, што вяртаюцца ленінскі стыль кіраўніцтва, ленінскія традыцыі мэтанакіраванасці, рэалізму, апоры на творчасць мас.

Аб высокім патрыятызме савецкіх людзей, якія дапамог выстаяць у гадзіну ваенных ліхалеццяў, перамагчы разруху, голад, аднавіць народную гаспадарку, дасягнуць цяперашніх высокіх рубяжоў ва ўсіх сферах жыцця нашага грамадства, гаварылі кіраўнік брыгады слесараў-зборшчыкаў вытворчага аб'яднання «Ленінградскі металічны завод», двойчы Герой Сацыялістычнай Працы **У. С. Чычэраў,** прэзідэнт Акадэміі навук СССР **Г. І. Марчук,** брыгадзір комплекснай брыгады шахты «Маладагвардзейская» вытворчага аб'яднання «Краснадонвугаль», Герой Сацыялістычнай Працы **А. Я. Калеснікаў,** дырэктар Пляўіньскай сярэдняй школы Латвійскай ССР **Э. Я. Купча.** Прамоўцы расказалі аб тым, як захоўваюць і прымнажаюць традыцыі Вялікага Кастрычніка, удзельнічаючы ў сённяшніх рэвалюцыйных пераўтварэннях, усе пакаленні нашай многанацыянальнай Айчыны. Дэмакратызацыя, публічнасць, эканамічныя метады кіравання, адзначалі яны, вяртаюць працоўным рэальнае пачуццё гаспадара краіны.

Творчае асваенне спадчыны Кастрычніка, падкрэслівалі выступаўшыя, дазволіць лепш выкарыстоўваць невычарпальныя сілы сацыялістычнага ладу, тэарэтычнае багацце навуковага камунізму ў вырашэнні складаных задач паскарэння і перабудовы.

Удзельнікаў і гасцей урачыстага пасяджэння віталі Першы сакратар ЦК ПАРП, Старшыня Дзяржаўнага савета ПНР **В. Ярузельскі,** Генеральны сакратар ЦК САПГ, Старшыня Дзяржаўнага савета ГДР **Э. Хонекер,** Генеральны сакратар ЦК КПЧ, Прэзідэнт ЧССР **Г. Гусак,** Генеральны сакратар ЦК БКП, Старшыня Дзяржаўнага савета НРБ **Т. Жыўкаў,** Генеральны сакратар Французскай камуністычнай партыі **Ж. Маршэ.**

Віншаванні савецкаму народу перадаў Прэзідэнт Фінляндскай Рэспублікі **М. Койвіста.**

Пад гукі марша ў залу ўносяцца флаг легендарнага крэйсера «Аўрора» — свяшчэнная рэліквія нашай рэвалюцыі, сцяг Усесаюзнага Ленінскага Камуністычнага Саюза Моладзі, сцяг Усесаюзнай піянерскай арганізацыі імя У. І. Леніна, Памятныя сцягі Цэнтральнага Камітэта РКП(б) і ЦК КПСС. Удзельнікаў урачыстага пасяджэння прыйшлі вітаць прадстаўнікі савецкай моладзі і піянеры.

На трыбуне — маскоўскі рабочы, член ЦК ВЛКСМ **М. Прохараў.** Праўда партыі і праўда народа — адна, непадзельная, заявіў ён. І ніхто ўжо не згодзіцца жыць па-старому, а моладзь у прыватнасці. Жыць па-новаму — гэта навука складаная, і мы абавязаны ёю авалодаць: на вытворчасці — сумленная праца, у вучобе — стараннасць і нават апантанасць, у сям'і — маральная чысціня, любоў да дзяцей, да жонкі, да бацькоў, у грамадзянскай пазіцыі — патрыятызм, сумленнасць і смеласць.

●

3 лістапада ў Крамлёўскім Палацы з'ездаў было прадоўжана сумеснае ўрачыстае пасяджэнне Цэнтральнага Камітэта КПСС, Вярхоўнага Савета СССР і Вярхоўнага Савета РСФСР, прысвечанае 70-годдзю Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

Дзесяць гадзін раніцы. Прысутныя апладысментамі сустрэлі таварышаў **Гарбачова М. С., Варатнікова В. І., Грамыку А. А., Зайкова Л. М., Лігачова Я. К., Ніканава В. П., Рыжкова М. І., Слюнькова М. М., Саломенцава М. С., Чэбрыкава В. М., Шэварднадзе Э. А., Шчарбіцкага У. В., Якаўлева А. М., Дземічава П. Н., Далгіх У. І., Ельцына Б. М., Салаўёва Ю. П., Талызіна М. У., Язава Д. Ц., Бірукову А. П., Дабрыніна А. Ф., Лук'янава А. І., Мядзведзева В. А., Разумоўскага Г. П., Капітонава І. В.**

Самы галоўны вывад, які зробіць кожны савецкі чалавек з даклада Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. С. Гарбачова, заключаецца ў тым, што важнейшым клопатам нашай Камуністычнай партыі быў, ёсць і будзе клопат аб трывалым міры і народным дабрабыце, сказаў старшыня калгаса «Прагрэс» Гродзенскай вобласці Герой Сацыялістычнай Працы **А. І. Дубко.** І мы, працаўнікі савецкай вёскі, для якіх няма нічога даражэй за хлеб і мір, усім сэрцам падтрымліваем гэту палітыку партыі, разам з рабочым класам і інтэлігенцыяй з'яўляемся яе рашучымі прыхільнікамі, лічым яе сваёй роднай і кроўнай.

У гэтыя святочныя лістападаўскія дні надзвычай прыгожая наша беларуская зямля. І радуе яна ўдвайне таму, што ў гэтым, юбілейным годзе шчодра адплаціла за клопаты аб сабе. Па вытворчасці і закупках малака рэспубліка выйшла, а па мясу наблізілася да ўзроўню, намечанага Харчовай праграмай на 1990 год, паведаміў прамоўца. Самая цікавая, самая творчая работа разгортваецца цяпер у рабочых цэхах перабудовы. У працоўных калектывах здзяйсняецца новая, сапраўдная справа. Для людзей думаючых, ініцыятыўных, апантаных ідэяй рэвалюцыйнага абнаўлення жыцця настаў сапраўды залаты час, адкрываюцца вельмі шырокія магчымасці.

Вялікі Кастрычнік ажыццявіў перабудову чалавечай псіхалогіі, пераацэнку і ломку многіх поглядаў і маральных асноў у адносінах да жанчыны, заявіла старшыня Камітэта савецкіх жанчын Герой Сацыялістычнай Працы **З. П. Пухава.** Цяпер, праз сем дзесяцігоддзяў, усім вопытам жыцця Савецкага Саюза і іншых краін сацыялістычнай садружнасці наглядна даказана, што ўдзел жанчын у стварэнні матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей ёсць абавязковая ўмова грамадскага прагрэсу.

Ажыццяўляючы ленінскі план сацыялістычнага пераўтварэння Закаўказзя, працоўныя брацкіх рэспублік зрабілі сапраўды гіганцкі крок — ад адсталасці да прагрэсу, ад фактычнай няроўнасці народаў да іх росквіту і збліжэння, адзначыў брыгадзір Тбіліскага электравозабудаўнічага завода імя У. І. Леніна вытворчага аб'яднання «Электравозабудаўнік» **Г. А. Метанідзе.** І цяпер камуністы, працоўныя Азербайджана, Арменіі, Грузіі лічаць сваім партыйным, грамадзянскім абавязкам быць у першых радах рэвалюцыйных па сваёй сутнасці пераўтварэнняў.

Сіла нашай ленінскай партыі, нашага народа ў тым, што мы не баімся праўды, сказала звеннявая саўгаса «Малік» Сырдар'інскай вобласці **Т. Б. Кіргізбаева.** Калі ў дакладзе М. С. Гарбачова гаварылася аб такіх горкіх старонках, як культ асобы, перыяд застою, я падумала: правільна, што аб усім сказана адкрыта. Мы ва Узбекістане нямала нацярпеліся ад вынікаў культу асобы і фанабэрыі кіраўнікоў, ад марнатраўства, паказухі і несправядлівасці, ад усяго, што цяпер пераробліваем і перабудоўваем. Простым працаўнікам праматаасабліва па душы: мы ж да гэтага часу і працавалі дрэнна таму, што аб многім услых не гаварылі. Цяпер мы вучымся жыць па-іншаму, і я веру ў поспех нашай справы, бо новае жыццё мы будуем не на пустым месцы. Такой вялікай і дружнай сям'і, як Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, не страшныя ніякія выпрабаванні.

Рэвалюцыя не можа абысціся без творчай інтэлігенцыі, якая яе разумее, прымае і ўдзельнічае ў ёй. Але і інтэлігенцыя не можа жыць, развівацца, ажыццяўляць свае прагрэсіўныя ідэалы без рэвалюцыі. Гэта дыялектычнае адзінства першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў СССР Герой Савецкага Саюза **В. В. Карпаў** зусім не ўяўляе ідэалізаваным.

Развіццё нашага мастацтва, нашай літаратуры, сказаў ён, не ішло гладкай дарогаю. Але агульным «балансам» сталі вялікае новае савецкае мастацтва, новы чытач, глядач, слухач — і новы пісьменнік, мастак, кампазітар, акцёр.

Пройдзен шлях няпросты і нялёгкі, дзе гераічнае перапляталася з драматычным і трагічным. Нам прадстаіць узвесці будынак грамадства, які часам будаваўся ў ліхаманкавай спешцы. Складвалася так, што нас увесь час падганялі акалічнасці, няўмольна падціскалі тэрміны. Будынак атрымаўся, як кажуць у такіх выпадках архітэктары, далёка не ва ўсім суразмерны задуманаму. Але падмурак у яго несакрушальна трывалы. Ён вытрымаў праверку звышкрайнімі гістарычнымі нагрузкамі.

Гукі маршу запоўнілі Крамлёўскі Палац з'ездаў. Гэта прыйшлі вітаць удзельнікаў урачыстага пасяджэння прадстаўнікі Савецкіх Узброеных Сіл.

Прывітанне воінаў абвяшчае камандзір гвардзейскай мотастралковай дывізіі Герой Савецкага Саюза палкоўнік **В. Л. Нявераў.**

Пад зводамі залы гучыць воінская клятва, клятва быць у пастаяннай баявой гатоўнасці на варце міру і стваральнай працы савецкага народа, клятва вернасці пралетарскаму інтэрнацыяналізму, клятва непарушнай вернасці запаветам У. І. Леніна, справе Кастрычніка.

Слова для прывітання на ўрачыстым пасяджэнні было прадастаўлена Генеральнаму сакратару Венгерскай сацыялістычнай рабочай партыі **Я. Кадару,** Генеральнаму сакратару Італьянскай камуністычнай партыі **А. Нату,** Генеральнаму сакратару ЦК Рабочай партыі Эфіопіі, Прэзідэнту НДРЭ **М. Х. Марыяму,** Генеральнаму сакратару Румынскай камуністычнай партыі, Прэзідэнту СРР **Н. Чаушэску,** Генеральнаму сакратару ЦК Народна - дэмакратычнай партыі Афганістана, Старшыні Рэвалюцыйнага савета ДРА **Наджыбулу,** Генеральнаму сакратару ЦК Камуністычнай партыі В'етнама **Нгуен Ван Ліню,** Генеральнаму сакратару ЦК Мангольскай народна-рэвалюцыйнай партыі, Старшыні Прэзідыума Вялікага народнага хурала МНР **Ж. Батмунху,** члену Палітбюро ЦК Камуністычнай партыі Кубы, намесніку Старшыні Дзяржаўнага савета і Савета Міністраў Рэспублікі Куба **К. Р. Радрыгесу,** Генеральнаму сакратару ЦК Йеменскай сацыялістычнай партыі **А. С. Аль-Бейду,** Старшыні Прэзідыума ЦК Саюза камуністаў Югаславіі, члену Прэзідыума СФРЮ **Б. Крунічу,** Генеральнаму сакратару Партугальскай камуністычнай партыі **А. Куньялу,** Генеральнаму сакратару ЦК Народна-рэвалюцыйнай партыі Лаоса, Старшыні Савета Міністраў ЛНДР **К. Фамвіхану,** Старшыні МПЛА — партыі працы, Прэзідэнту Народнай Рэспублікі Ангола **Ж. Э. Душ Сантушу,** члену Палітбюро ЦК Працоўнай партыі Карэі, віцэ-прэзідэнту КНДР **Пак Сен Чэру,** Старшыні Германскай камуністычнай партыі **Г. Місу,** Генеральнаму сакратару ЦК Народна-рэвалюцыйнай партыі Кампучыі, Старшыні Дзяржаўнага савета НРК **Х. Самрыну,** каардынатару выканаўчай камісіі Сандзінісцкага фронту нацыянальнага вызвалення Нікарагуа, Прэзідэнту Рэспублікі Нікарагуа **Д. Артэгу,** віцэ-старшыні Сацінтэрна **К. Сорсу,** Генеральнаму сакратару Камуністычнай партыі Злучаных Штатаў Амерыкі **Г. Холу,** Старшыні Сакратарыята ЦК Камуністычнай партыі Японіі **М. Канэка,** Генеральнаму сакратару ЦК Камуністычнай партыі Уругвая **Р. Арысмендзі.**

Два дні ў Крамлёўскім Палацы з'ездаў панавала ўрачыстая і рабочая атмасфера. Гордасцю за дасягнутае, клопатам аб вырашэнні няпростых праблем перабудовы былі пранізаны выступленні рабочых і калгаснікаў, дзеячаў навукі і культуры, прадстаўнікоў брацкіх савецкіх народаў. У перапынках паміж пасяджэннямі працягваўся ажыўлены абмен меркаваннямі і ўражаннямі. У фае і холах Палаца з'ездаў таварыш Гарбачоў М. С., члены Палітбюро ЦК КПСС сардэчна, па-сяброўску гутарылі з удзельнікамі і гасцямі.

Сумеснае ўрачыстае пасяджэнне ЦК КПСС, Вярхоўнага Савета СССР і Вярхоўнага Савета РСФСР, прысвечанае 70-годдзю Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, аб'яўляецца закрытым.

М. С. Гарбачоў гаворыць: «Да сустрэчы на стагоддзі Вялікага Кастрычніка!».

Пад зводамі Крамлёўскага Палаца з'ездаў гучыць «Інтэрнацыянал».

(ТАСС).

### Урачыстае пасяджэнне ў Мінску

# ДАРОГАЙ КАСТРЫЧНІКА— ДАРОГАЙ ПОШУКУ, ЗДЗЯЙСНЕННЯЎ, ПРАГРЭСУ

## Даклад Я. Я. САКАЛОВА на ўрачыстым пасяджэнні, прысвечаным 70-годдзю Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі

Дарагія таварышы! Паважаныя госці!

Усе мы знаходзімся пад глыбокім уражаннем прайшоўшага ў Маскве ўрачыстага пасяджэння, прысвечанага 70-годдзю Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Кожны, хто слухаў, кожны, хто чытаў даклад Генеральнага сакратара ЦК КПСС Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова, зведаў пачуццё высокай гордасці за наш савецкі народ, за нашу ленінскую партыю, за нашу сацыялістычную Айчыну.

Перад намі яскрава паўсталі велічная панарама дасягненняў сацыялізму, найглыбейшыя перамены, якія адбыліся ў краіне за 70 гадоў Савецкай улады.

Бальшавіцкай прынцыповасцю, бескампраміснай праўдзівасцю прасякнуты старанна ўзважаныя ацэнкі нашай рэвалюцыйнай гісторыі, напоўненай працай і барацьбой, нялёгкімі здзяйсненнямі ў імя цяперашніх і будучых пакаленняў. Глыбіня, шматграннасць, гуманістычная накіраванасць змешчаных у дакладзе палажэнняў, іх накіраванасць на дабрабыт і шчасце савецкіх людзей даюць магутны зарад энергіі і аптымізму, натхняюць на працу і творчасць у імя перамогі ідэй і справы Кастрычніка.

У буйнамаштабнай, рэвалюцыйнай па сутнасці рабоце, якая разгарнулася пасля красавіка 1985 года, падышлі мы да 70-годдзя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

Вялікі Кастрычнік стаў самай выдатнай падзеяй XX стагоддзя. Ён пераламаў ход гісторыі, паклаў пачатак прынцыпова новаму грамадскаму ладу, азнаменаваў паварот чалавецтва да сацыялізму.

Геніяльным стратэгам і натхніцелем рэвалюцыі быў Уладзімір Ільіч Ленін. І чым далей аддаляе нас час ад тых незабыўных дзён, тым глыбейшы, больш грунтоўны, плённы ўплыў ленінскіх ідэй. Ленін стварыў партыю новага тыпу — партыю бальшавікоў, якая ідэйна і арганізацыйна згуртавала пралетарыят, усіх прыгнечаных Расіі і павяла іх на барацьбу за звяржэнне капіталізму, за сацыяльнае і нацыянальнае разняволенне працоўных мас.

Сёння мы з гордасцю ўсведамляем, што бальшавікі Беларусі, узначаліўшы рэвалюцыйны рух рабочых, сялян, салдат, ужо ў дзень кастрычніцкага штурму абвясцілі ўладу Саветаў у Мінску, а затым у Гомелі, Віцебску, Магілёве і іншых гарадах.

Беларускі народ, як і іншыя народы нашай Айчыны, зрабіў свой гістарычны выбар: рашуча і беспаваротна стаў пад сцягі Кастрычніка, пайшоў па шляху, указанаму Леніным, бальшавіцкай партыяй.

Лёс савецкіх людзей непарыўна звязан з рэвалюцыйнай біяграфіяй краіны. Усе мы родам з Кастрычніка. І ўсе мы ўспрымаем Кастрычнік як светлы выток нашага сацыялістычнага летазлічэння, як прадмет найвышэйшай гордасці народаў Краіны Саветаў.

Ад імя Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі, Вярхоўнага Савета, Савета Міністраў рэспублікі дазвольце, дарагія таварышы, горача і сардэчна павіншаваць вас, а ў вашай асобе ўсіх камуністаў, усіх працоўных Савецкай Беларусі з вялікім і светлым святам!

Новых вам поспехаў і здзяйсненняў на шляху рэвалюцыйнага стварэння і творчасці, на шляху перабудовы і паскарэння!

Шчасця і дабрабыту кожнаму дому, кожнай сям'і, кожнаму працаўніку!

## I.

Таварышы! Вялікі Кастрычнік — не толькі наша слаўная гісторыя, але і неад'емная частка сённяшняга палітычнага працэсу. Яго рэвалюцыйным духам прасякнут кожны радок дакументаў XXVII з'езда партыі, наступных рашэнняў Цэнтральнага Камітэта, якія вызначылі стратэгічны курс на перабудову, на паскарэнне.

Дарогай Кастрычніка наша партыя вядзе народ да дасягнення якасна новага стану савецкага грамадства, да найбольш поўнага раскрыцця велізарных магчымасцей і пераваг сацыялізму, яго гуманістычнага характару ва ўсіх сферах жыцця — і ў эканамічнай, і ў сацыяльна-палітычнай, і ў духоўна-маральнай.

Нам ёсць на што аперціся ў гэтай грандыёзнай рабоце. Гэта перш за ўсё неацэнны рэвалюцыйны вопыт нашага народа. Разняволіўшы энергію людзей працы, Вялікі Кастрычнік наглядна паказаў, якія сапраўды невычарпальныя сілы тояцца ў глыбінях народных мас, упершыню стаўшых гаспадарамі свайго лёсу.

Розумам, воляй і энергіяй мільёнаў савецкіх людзей паспяхова ажыццёўлен смелы і дальнабачны ленінскі план будаўніцтва сацыялізму. Індустрыялізацыя краіны і калектывізацыя сельскай гаспадаркі, культурная рэвалюцыя — такія этапныя вехі радыкальных пераўтварэнняў, якія ў гістарычна найкарацейшы тэрмін у корані змянілі аблічча нашай Айчыны.

Некалі адсталая Расія ператварылася ў магутную сацыялістычную дзяржаву з магутным эканамічным і навукова-тэхнічным патэнцыялам.

Ажыццёўлен пераварот сусветна-гістарычнага значэння — пакончана з векавым панаваннем прыватнай уласнасці, *эксплуатацыяй чалавека чалавекам*. Усталяваліся прынцыпова новыя асновы сацыяльнага быцця, з якіх назаўсёды выгнаны беспрацоўе, галеча, дыскрымінацыя, непісьменнасць.

Забяспечана роўнае і гарантаванае права на працу і адпачынак, на жыллё, на карыстанне такімі дабротамі, як бясплатныя медыцынскае абслугоўванне, адукацыя. Дзяржава ўзяла на сябе клопаты аб мацярынстве і дзяцінстве, аб састарэлых грамадзянах. Савецкі чалавек жыве ва ўмовах надзейнай сацыяльнай абароненасці.

Устаноўлена і актыўна развіваецца сапраўдная дэмакратыя — улада, ажыццяўляемая для народа і самім народам. Рэальным зместам напоўнены ідэі свабоды, роўнасці, правоў чалавека, годнасці асобы.

Вынік Кастрычніка — нараджэнне Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, які ўвасабляе дзяржаўнае адзінства савецкага народа, згуртоўвае ўсе нацыі і народнасці. Мы ганарымся тым, што адным з заснавальнікаў СССР з'явілася Савецкая Беларусь. На базе агульных інтарэсаў рабочага класа, калгаснага сялянства, народнай інтэлігенцыі, працоўных усіх нацыянальнасцей склалася сацыяльна-палітычнае і ідэйнае адзінства савецкага грамадства.

Вялікі Кастрычнік забяспечыў доступ найшырэйшых мас працоўных да ведаў, да ўсіх багаццяў духоўнай культуры, да дасягненняў чалавечага генію. Пануючай у грамадскай свядомасці стала марксісцка-ленінская ідэалогія. Склаўся сацыялістычны лад жыцця.

Найвялікшая заваёва Кастрычніка — усталяваныя ўпершыню ў гісторыі чалавецтва *роўнасць і брацтва ўсіх нацый і народнасцей Айчыны*. Нормай грамадскага быцця, рухаючай сілай умацавання і ўдасканалення сацыялізму сталі брацкая дружба спаяных адзінай мэтай народаў, савецкі патрыятызм і інтэрнацыяналізм.

Кожны год, кожнае дзесяцігоддзе, што мінулі з тых легендарных дзён, усё паўней раскрываюць непераходзячае значэнне Кастрычніка ў лёсах не толькі савецкіх людзей, але і ў лёсах усяго свету. Выкліканая ім хваля рэвалюцыйнага абнаўлення істотна змяніла сацыяльна-палітычнае аблічча планеты. Звыш трэці чалавецтва скінула з сябе ярмо эксплуатацыі і прыгнёту. Узнікла сусветная сацыялістычная сістэма, якая стала важнейшым фактарам сучаснай цывілізацыі. Сусветны размах набыў міжнародны камуністычны і рабочы рух. Ва ўроках Вялікага Кастрычніка рабочы клас, дэмакратычныя сілы ўсіх кантынентаў знаходзяць бясцэнны вопыт вырашэння наспеўшых праблем грамадскага развіцця, актывізацыі барацьбы за мір і сацыяльны прагрэс.

Шлях першапраходцаў заўсёды нялёгкі. Вы, таварышы, ведаеце, што ўмовы сацыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне былі і складаныя, і суровыя. Савецкі народ зведаў на сабе ўсе формы процідзеяння старога свету — узброеную інтэрвенцыю і грамадзянскую вайну, эканамічную блакаду і ідэалагічны націск.

Яшчэ жывыя людзі, якія помняць, як у неверагодных цяжкасцях, нягледзячы на дыверсіі і сабатаж ворагаў сацыялізму, у розных канцах велізарнай краіны ствараліся фарпосты сацыялістычнай індустрыі, праводзілася калектывізацыя сельскай гаспадаркі.

Найцяжэйшым выпрабаваннем жыццёвасці новага грамадскага ладу, моцнасці многанацыянальнай сацыялістычнай дзяржавы, сілы патрыятычнага духу народаў Краіны Саветаў стала Вялікая Айчынная вайна.

На абарону Радзімы, сацыялізму, справы Кастрычніка падняліся ўсе савецкія людзі.

Нязгаснучай славай пакрылі сябе воіны Чырвонай Арміі, якія праявілі на палях бітваў бяспрыкладную мужнасць, непахісную стойкасць, небывалы гераізм у імя свабоды і незалежнасці Айчыны.

Нестойлівая, самаадданая барацьба з фашысцкімі захопнікамі разгарнулася за лініяй фронту. Сотні тысяч савецкіх людзей — старых і моладзі, мужчын і жанчын уліліся ў рады народных мсціўцаў, якія грамілі агрэсара ўдзень і ўначы.

Нястомнай, на мяжы чалавечых сіл, працай кавалася перамога ў тыле — на фабрыках і заводах, палях і фермах, у навуковых лабараторыях і канструктарскіх бюро.

Плячо ў плячо са слаўнымі сынамі і дочкамі ўсіх народаў Айчыны змагаліся з каварным ворагам у радах Чырвонай Арміі звыш мільёна ўраджэнцаў нашай рэспублікі. Больш як 1100 дзён і начэй палала полымя партызанскай вайны на тэрыторыі акупіраванай, але непакоранай Беларусі.

Дарагой цаной дасталася нам перамога. Толькі наша рэспубліка страціла кожнага чацвёртага жыхара. Гітлераўцы знішчылі або вывезлі матэрыяльных каштоўнасцей на суму, роўную 35 бюджэтам БССР 1940 года.

Вялікая Айчынная вайна паказала, што нельга перамагчы народ, які заваяваў Савецкую ўладу і зведаў свабоду, стаў гаспадаром свайго лёсу. Увесь свет пераканаўся ў трываласці сацыялізму, магутнасці савецкай эканомікі, сіле марксісцка-ленінскай ідэалогіі, несакрушальнасці дружбы нашых народаў.

Савецкім людзям прыходзілася працаваць і жыць, адмаўляючы сабе ў самым неабходным, але яны не сагнуліся, не зламаліся, яны не толькі выстаялі і перамаглі, але і стварылі сучаснае савецкае грамадства, прадэманстраваўшы ўсяму свету сілу характару, непахісную адданасць ідэалам камунізму.

Як адзначыў Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў, *нам выпала* вытрымаць працяглую і настойлівую барацьбу, пераажыць гістарычныя працэсы паваротнага, рэвалюцыйнага характару. І яны ў многім змянялі абставіны, умовы нашага руху наперад. Яны змянялі і нас саміх — загартоўвалі, узбагачалі вопытам, ведамі, усялялі яшчэ большую ўпэўненасць у поспеху справы рэвалюцыі. Ацэньваючы ў сусветна-гістарычным маштабе пройдзены намі шлях, зноў і зноў пераконваешся: за кароткі тэрмін мы зрабілі тое, на што іншым спатрэбіліся стагоддзі.

Найвялікшы ўклад ва ўсталяванне заваёў Кастрычніка ўнеслі прадстаўнікі легендарных пакаленняў — ветэраны партыі і рэвалюцыі, вайны і працы.

Сярод тых, хто закладваў краевугольныя камяні сацыялізму, тварыў вялікую гістарычную справу — ствараў новае грамадства, абараняў заваёвы Кастрычніка:

Аляксандр Сцяпанавіч Касценка—член КПСС з 1912 года, старшыня Рэчыцкага камітэта РСДРП(б) у 1917—1918 гг., камандзір Рэчыцкага чырвонагвардзейскага атрада, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, ганаровы грамадзянін г. Рэчыца;

Арцём Піліпавіч Батура — удзельнік кастрычніцкага ўзброенага паўстання ў Петраградзе, у гады грамадзянскай вайны змагаўся з белапалякамі на тэрыторыі Беларусі;

Кандрат Кандратавіч Атраховіч (Кандрат Крапіва) — камандзір Чырвонай Арміі ў гады грамадзянскай вайны, народны пісьменнік Беларусі, Герой Сацыялістычнай Працы;

Тацця́на Васільеўна Бірыч — член-карэспандэнт Акадэміі навук БССР, Герой Сацыялістычнай Працы, заслужаны дзеяч навукі, заслужаны ўрач БССР;

Мікалай Іванавіч Біялт — механізатар калгаса «Бальшавік» Зэльвенскага раёна, кавалер чатырох ордэнаў Славы;

Аляксандра Фёдараўна Занько — настаўніца сярэдняй школы № 2 г. Лепеля, Герой Сацыялістычнай Працы, заслужаны настаўнік БССР;

Аляксандра Іванаўна Клімава — таленавіты *майстар беларускай сцэны*, народная артыстка СССР;

Раман Наўмавіч Мачульскі — праслаўлены партызанскі камандзір, а затым арганізатар аднаўлення і развіцця народнай гаспадаркі рэспублікі;

Уладзімір Уладзіміравіч Алоўнікаў — кампазітар, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, народны артыст БССР, ганаровы грамадзянін горада-героя Мінска;

Мікалай Сямёнавіч Арэхва — удзельнік грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў, камуністычнага падполля ў Заходняй Беларусі;

Барыс Іванавіч Сцяпанаў — акадэмік Акадэміі навук БССР, Герой Сацыялістычнай Працы, заслужаны дзеяч навукі БССР;

Аляксандр Сямёнавіч Хваткоў — былы машыніст паравоза, актыўны ўдзельнік сацыялістычнай індустрыялізацыі, ударнік даваенных і пасляваенных пяцігодак.

Немагчыма назваць усіх, чыёй працай, ведамі, воляй стваралася і абаранялася наша сацыялістычная Айчына. У гэты ўрачысты час мы звяртаемся да вас: «Дарагія нашы бацькі і дзяды! Браты і сёстры! Мы захапляемся вашай сілай духу, прыгажосцю і высакароднасцю вашых думак і здзяйсненняў! Падрастаючае пакаленне бярэ з вас прыклад, вучыцца ў вас жыць і будаваць. Вялікае дзякуй вам за ўсё, што вы зрабілі і робіце сёння на карысць нашай Айчыны. Моцнага вам здароўя, доўгіх гадоў жыцця, шчасця і дабрабыту!»

На сямідзесяцігадовым шляху былі, як вядома, і збоі, і памылкі. Бо ніхто не даваў нам гатовых чарцяжоў будаўніцтва новага грамадства. Мы нямала страцілі з-за парушэнняў ленінскіх прынцыпаў і запаветаў, дэмакратычных норм жыцця ў партыі і грамадстве, з-за валюнтарысцкіх перагібаў і дагматызму.

Але несумненна адно: вытокі ўзнікшых цяжкасцей не ў прыродзе сацыялізму, а ў адступленнях ад яго. Цэнтральны Камітэт КПСС, уся наша партыя робяць з гэтага неабходныя вывады. Гэта ў поўнай меры адпавядае ленінскай думцы аб тым, што партыя моцная ўменнем бачыць уласныя памылкі і атрымліваць з іх правільныя ўрокі.

## II.

Таварышы! З'яўляючыся часткай адзінага народнагаспадарчага комплексу сацыялістычнай Айчыны, трывала апіраючыся на эканамічную магутнасць усёй краіны, на брацкую дружбу і супрацоўніцтва ўсіх савецкіх народаў, развітой індустрыяльна-аграрнай рэспублікай стала Савецкая Беларусь. За гады Савецкай улады аб'ём прамысловай вытворчасці ўзрос у нас у 326 разоў, валавая прадукцыя сельскай гаспадаркі — у 4,3 раза.

Звыш трэці прамысловага патэнцыялу складаюць машынабудаванне, электроніка і радыёэлектроніка, станкабудаванне. Шырока развіваюцца хімія і нафтахімія, іншыя сучасныя галіны вытворчасці. Больш тысячы відаў вырабаў з маркай беларускіх прадпрыемстваў экспартуецца ў сто краін свету.

(Працяг на стар. 4).

# ДАРОГАЙ КАСТРЫЧНІКА— ДАРОГАЙ ПОШУКУ, ЗДЗЯЙСНЕННЯЎ, ПРАГРЭСУ

**(Працяг. Пачатак на стар. 3).**

У высокамеханізаваную галіну ператварылася сельская гаспадарка. Толькі за апошнія 25 гадоў энергаўзброенасць працы на палях і фермах павялічылася амаль у 9 разоў. Узрасла культура земляробства. Павысілася ўрадлівасць глеб. У бягучым годзе ў разліку на душу насельніцтва ў рэспубліцы атрымана 910 кілаграмаў збожжа, 1280 бульбы, 111 кілаграмаў мяса, 717 кілаграмаў малака і больш як 340 яец. Калі ў 1940 годзе з гектара ворнай зямлі атрымлівалі 8 цэнтнераў кармавых адзінак, то цяпер — больш як 40.

Яркай старонкай у гісторыі земляробства стала буйнамаштабная меліярацыя зямель. Яна дазволіла не толькі павялічыць вытворчасць сельскагаспадарчай прадукцыі, але і карэнным чынам змяніць сацыяльна-эканамічнае аблічча такога буйнога рэгіёна, як Палессе. Сёння — гэта высокарэнтэбельныя калгасы і саўгасы, сучасныя высокамеханізаваныя жывёлагадоўчыя комплексы, новыя добраўпарадкаваныя пасёлкі.

Беларусь — рэспубліка лясная. Але ёсць у нас яшчэ адны «лясы», якія сталі характэрнай прыметай паслякастрычніцкага перыяду. Гэта рыштаванні навабудоўляў. Аб маштабах расшырэння будаўніцтва сведчаць такія даныя. Калі ў 1950 годзе ў сярэднім за дзень асвойвалася 800 тысяч рублёў капітальных укладанняў, то ў гэтым — 18 млн.

Абагульняючы паказчык, які характарызуе павышэнне жыццёвага ўзроўню працоўных, — нацыянальны даход — узрос за апошнія чвэрць стагоддзя ў 5,5 раза, у 3 разы павялічыліся за гэты ж час рэальныя даходы нашых людзей.

У аснове такога росту — павышэнне заработнай платы, а таксама атрымліваемых насельніцтвам выплат і льгот з грамадскіх фондаў спажывання. Калі ў 1960 годзе яны складалі 95 рублёў на душу насельніцтва, то цяпер 538 рублёў. У мінулым годзе ў рэспубліцы пабудавана 92 тысячы кватэр.

У краіне і за рубяжом высока цэняць дасягненні нашых вучоных, добра ведаюць багатую і самабытную беларускую культуру, сацыялістычную па зместу, нацыянальную па форме, інтэрнацыяналістычную па духу.

У Беларусі 167 навуковых устаноў. Штогод выпускаецца больш як 30 тысяч спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй, 47 тысяч — з сярэдняй, 90 тысяч — рабочых масавых прафесій. Кожны другі жыхар рэспублікі мае вышэйшую або сярэднюю адукацыю.

Сёння ўсё гэта ўспрымаецца як належнае, як звычайныя прыметы нашых будняў. Але, успрымаючы іх іменна так, мы павінны памятаць: крыніца, якая з году ў год памнажае наш агульнанародны набытак, пераўтварае наша жыццё, пачынаецца з кастрычніка 1917-га, з прыроды самага перадавога грамадскага ладу — сацыялістычнага.

Сямідзесяцігоддзе Вялікага Кастрычніка — гэта рубеж, з вышыні якога добра відаць і вынікі, і ўрокі пройдзенага шляху, а таксама задачы, якія стаяць на цяперашнім, надзвычайна важным этапе развіцця савецкага грамадства.

Так, зроблена многае. Аднак створаны на беларускай зямлі магутны эканамічны і маральны патэнцыял выкарыстоўваецца далёка не ў поўнай меры. Эканоміка марудна пераводзіцца на рэйкі інтэнсіфікацыі. Ад велізарных капіталаўкладанняў у прамысловасць, сельскагаспадарчую вытворчасць, іншыя галіны народнай гаспадаркі мы не заўсёды і не ўсюды атрымліваем патрэбную аддачу. Не адпавядаюць ні ўзрослым магчымасцям, ні тым больш патрабаванням сённяшняга дня тэмпы навукова-тэхнічнага прагрэсу. Не пераадолены недахопы ў сферы абслугоўвання. Усё яшчэ дае аб сабе знаць некрытычнае асэнсаванне дасягнутага, неарганізаванасць, недаацэнка эканамічных метадаў кіравання — словам, усё тое, што складае механізм тармажэння.

Неабходнасць злому ўсяго старога, аджыўшага, стварэнне механізма паскарэння патрабуе новых падыходаў, больш эфектыўных форм і метадаў работы партыйных арганізацый, працоўных калектываў.

Распрацаваны партыяй даўгачасны стратэгічны курс на дасягненне новага якаснага стану грамадства праз паскарэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця і перабудову ўсёй сістэмы грамадскіх адносін знайшоў у працоўных гарачы водгук і адабрэнне. Яны разглядаюць яго як прадметны і аб'ектыўна неабходны адказ на выклік эпохі, на выклік гісторыі, як прамое прадаўжэнне і прымнажэнне справы першапраходцаў рэвалюцыі і сацыялізму.

Перабудова — важнейшы этап у нашым паступальным руху, які надасць сацыялізму новую якасць, самыя сучасныя формы, адпавядаючыя ўмовам і патрэбнасцям навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, інтэлектуальнаму прагрэсу савецкага грамадства.

Пры гэтым, падкрэслівалася на ўрачыстым пасяджэнні ў Маскве, прыярытэт — за чалавекам працы з яго ідэаламі, інтарэсамі, за гуманістычнымі каштоўнасцямі ў эканоміцы, сацыяльных і палітычных адносінах, культуры. Велізарны патэнцыял сацыялізму павінен раскрывацца праз актывізацыю асобы, чалавечага фактара.

Атрымаўшы ідэйную і маральную перамогу, перабудова паслядоўна паглыбляецца і нарастае, набываючы ўсё больш канкрэтныя формы, убіраючы ў сябе ўсё больш шырокі круг праблем.

Перабудоўваецца сістэма кіравання эканомікай, расшыраюцца правы прадпрыемстваў. Адкрываюцца заслоны перад развіццём кааператываў і індывідуальнай працоўнай дзейнасцю. Разгортваецца актыўная барацьба з непрацоўнымі даходамі, п'янствам, злачыннасцю. Аб'яўлен бескампрамісны бой бюракратызму, коснасці, руціне.

Час выявіў і цяжкасці перабудовы. Яна ўваходзіць у наша жыццё не проста, не парадна, а ў змаганнях думкі, у сутыкненнях ідэй і поглядаў. Яна ўзнімае не толькі цяжкія, але часам і балючыя пытанні.

Сёння на першы план выходзіць супярэчнасць паміж, з аднаго боку, патрабаваннямі абнаўлення, творчасці, ініцыятыўных адносін да справы, з другога — інерцыяй, кансерватызмам, карыслівымі інтарэсамі. Вось чаму галоўнае заключаецца ў тым, каб усямерна нарошчваць тэмпы пераўтварэнняў, уключыць у іх ажыццяўленне ўсіх і кожнага.

Жывая творчасць мас — вось тая невычэрпная крыніца, якая здольна жывіць перабудову, надаць ёй дынамізм і незваротнасць. А каб гэта крыніца заўсёды была поўнай і жыватворнай, партыя ўзяла курс на шырокае і паслядоўнае развіццё ўласцівых сацыялізму дэмакратычных форм.

Час патрабуе — максімум дэмакратызму! І гэта не проста лозунг, а глыбінная сутнасць перабудовы, магутны паскаральнік абнаўлення.

Дэмакратыя — непрымірымы вораг безадказнасці, дэмагогіі, анархіі. Яна не процілегласць парадку, а, наадварот, парадак больш высокага ўзроўню, заснаваны на свядомым, паўнакроўным, ініцыятыўным удзеле ўсіх членаў калектыву, грамадства ў справах свайго прадпрыемства, у справах сваёй дзяржавы.

Дэмакратызацыя, зразумела, працэс паступовы, шматгранны. Пакуль ён вядзецца на многіх участках з аглядкай, прывычнымі, старымі метадамі і формамі работы. Тым не менш дэмакратызацыя, публічнасць ужо многае высвецілі, расставілі на свае месцы. Стала лепш відаць, хто ёсць хто і хто на што здольны.

Нават у абстаноўцы юбілейнай урачыстасці не магу не заўважыць, што частка работнікаў хораша і правільна гаворыць, умела пераказвае тыя або іншыя рашэнні, задачы, а як справа даходзіць да выканання,— тут жа дае задні ход або шукае розныя «аб'ектыўныя» прычыны. І адбываецца такое часта не таму, што людзі не ўмеюць або не хочуць працаваць па-новаму, а таму, што занадта прывыклі да наезджанай каляіны, дзейнічаць з аглядкай, не праяўляюць самастойнасці і адказнасці ў падыходзе да вялікіх і малых спраў.

Вось чаму партыйная арганізацыя рэспублікі надае першараднае значэнне паслядоўнаму і няўхільнаму ўсталяванню дэмакратыі як палітычнай і маральнай каштоўнасці, як ключавому напрамку перабудовы. У адпаведнасці з патрабаваннямі студзеньскага (1987 г.) Пленума ЦК КПСС партыйныя камітэты і арганізацыі імкнуцца напоўніць работу ўсіх звенняў палітычнай сістэмы грамадства, працоўных калектываў глыбокім дэмакратычным зместам.

Мяняецца, становіцца больш прадметнай дзейнасць Саветаў народных дэпутатаў — народжанай рэвалюцыйнай творчасцю мас палітычнай асновы нашай дзяржавы. Іменна праз іх развіваецца самакіраванне народа. Павышаюцца самастойнасць і актыўнасць мясцовых органаў дзяржаўнай улады, узмацняюцца іх клопаты аб патрэбах і запатрабаваннях працоўных.

Дэмакратызацыя ўсіх бакоў нашага жыцця дае магчымасць найлепшым чынам уключыць у перабудову стваральную энергію прафсаюзаў, камсамола, Усесаюзнага савета ветэранаў вайны і працы, іншых грамадскіх фарміраванняў.

Паўней улічваецца голас грамадскай думкі. Публічнасць дае магчымасць кожнаму чалавеку праяўляць сваю грамадзянскую пазіцыю, прымаць актыўны ўдзел у абмеркаванні жыццёва важных праблем грамадства, рабіць уплыў на іх вырашэнне. На гэтай аснове адбываецца перабудова грамадскай свядомасці, расце ініцыятыва людзей.

## III.

Першараднай справай становіцца развіццё дэмакратыі на вытворчасці. Іменна на гэта накіравана адобраная чэрвеньскім (1987 г.) Пленумам ЦК КПСС радыкальная рэформа кіравання эканомікай. Яе мэта — пераарыентаваць эканамічны рост з прамежкавых на канчатковыя, сацыяльна значныя вынікі, ператварыць навукова-тэхнічны прагрэс у галоўны фактар паскарэння развіцця грамадства, стварыць надзейна дзеючы працізатратны механізм.

Цяпер надышоў час практычнага ажыццяўлення прынятых рашэнняў. У гэтай рабоце рэспубліка апіраецца на першыя вынікі перабудовы ў галіне эканомікі, на ўзрослы дынамізм яе развіцця. У ходзе праведзеных эксперыментаў набыт пэўны вопыт дзейнасці ва ўмовах расшырэння самастойнасці прадпрыемстваў, укаранення брыгаднага падраду, умацавання гаспадарчага разліку.

Нашы кадры — ад кіраўнікоў да радавых работнікаў — сталі глыбей унікаць у пытанні эканомікі, больш актыўна шукаць шляхі павышэння эфектыўнасці вытворчасці. Аналіз работы прадпрыемстваў, якія перайшлі на поўны гаспадарчы разлік і самафінансаванне — а яны выпускаюць больш трэці прамысловай прадукцыі, — паказвае, што працоўным на справе забяспечваецца становішча сапраўднага гаспадара на сваім участку, у працоўным калектыве. Яны праяўляюць значна большую цікавасць да фінансава-эканамічных вынікаў работы, глыбей супастаўляюць затраты і вынікі, больш настойліва шукаюць найбольш эфектыўныя шляхі вырашэння праблем.

З будучага года ўступіць у сілу Закон аб дзяржаўным прадпрыемстве (аб'яднанні) — аснова новай сістэмы кіравання. Наша задача: глыбока асвоіць яго палажэнні, дабіцца, каб ён стаў дзейсным інструментам развіцця ініцыятывы людзей, інтэнсіфікацыі вытворчасці.

Трэба помніць і тое, што ніякі гаспадарчы механізм сам па сабе не дасць патрэбнага эфекту, калі ім не авалодаюць кадры. А для гэтага важна ўзняць узровень эканамічнай, прафесіянальнай падрыхтоўкі людзей, не страчваць ні аднай крупінкі вопыту работы ў новых умовах.

Важнейшы напрамак нашых намаганняў — прарыў у галіне навукова-тэхнічнага прагрэсу, глыбокая рэканструкцыя ўсёй народнай гаспадаркі. Ужо ў бягучай пяцігодцы асноўныя вытворчыя фонды прамысловасці трэба будзе абнавіць на 40 працэнтаў, у два разы павялічыць выпуск прадукцыі вышэйшай катэгорыі якасці, у тры-чатыры разы скараціць тэрміны распрацоўкі і асваення новых машын і механізмаў.

Максімум увагі Кампартыя Беларусі ўдзяляе развіццю вядучай галіны прамысловасці — машынабудаванню. Тут і тэмпы росту плануюцца вышэйшыя, і пераўзбраенне павінна ісці хутчэй, і праблемы якасці стаяць з асаблівай вастрынёй. У бягучай пяцігодцы на развіццё машынабудаўнічага комплексу рэспублікі выдзяляецца капітальных укладанняў у паўтара раза больш, чым асвоена за мінулую. Прыбаўка прадукцыі будзе ўдвая вышэйшай, чым у цэлым па прамысловасці.

К канцу пяцігодкі да 95 працэнтаў важнейшых відаў машынабудаўнічых вырабаў намечана вывесці на сусветны ўзровень. Прадугледжана распрацаваць і ўкараніць сотні сістэм аўтаматызаванага праектавання, кіравання тэхналагічнымі працэсамі, вытворчымі комплексамі, цэхамі і ўчасткамі.

Выйсці на гэтыя рубяжы — значыць паскорыць інтэнсіфікацыю індустрыі. У вырашэнні гэтай задачы ёсць і першыя станоўчыя вынікі, і засмучальныя пралікі, недахопы. У прыватнасці, не могуць задаволіць ні тэмпы, ні якасць пераўзбраення народнай гаспадаркі. Некаторыя праекты рэканструкцыі змяшчаюць устарэлыя тэхнічныя рашэнні. Часам пад маркай тэхнічнага пераўзбраення плануецца простае расшырэнне вытворчасці.

Такі падыход супярэчыць самой сутнасці перабудовы, перашкаджае павышэнню якасці прадукцыі, вываду яе на ўзровень лепшых сусветных узораў. Выбарачныя праверкі тэхнічнага ўзроўню новаасвойваемых вырабаў паказваюць, што толькі трэць з іх адпавядае сучасным патрабаванням.

Каб забяспечыць тут пералом, неабходны больш апоры на навуку, мацнейшы саюз з ёй. Трэба ўсім кадрам узняцца на ўзровень ведаў, умення, адказнасці, дыктуемы навукова-тэхнічнай рэвалюцыяй.

Ва ўмовах паскарэння навукова-тэхнічнага прагрэсу, які аказвае магутнае ўздзеянне на ўсю сістэму грамадскіх адносін, на самога чалавека і асяроддзе яго пражывання, важна пераарыентаваць кожнае прадпрыемства, кожную галіну на поўнае і першачарговае выкарыстанне якасных фактараў эканамічнага росту.

Як вы ведаеце, зыходзячы з рашэнняў XXVII з'езда партыі, к канцу стагоддзя рэспубліцы трэба будзе павялічыць нацыянальны даход амаль у два разы пры падваенні вытворчага патэнцыялу і яго якасным пераўтварэнні. Прадукцыйнасць працы трэба павысіць у 2,1 раза, энергаёмістасць нацыянальнага даходу знізіць у 1,4 раза, металаёмістасць — амаль у 1,7 раза.

Задачы складаныя. І сапраўдны гарант іх паспяховай рэалізацыі — самаадданасць, арганізаванасць, прафесіянальнае майстэрства, ідэйная перакананасць работнікаў індустрыі, і перш за ўсё рабочага класа. Мы можам з поўнай падставай сказаць, што ён з'яўляецца дзецішчам Кастрычніка, дзецішчам тых рэвалюцыйных пераўтварэнняў, якія ажыццёўлены ў рэспубліцы за гады Савецкай улады.

Цяпер яго колькасць перавысіла 3 млн. чалавек, а ўдзельная вага ў сацыяльнай структуры за апошнюю чвэрць стагоддзя ўзрасла ў паўтара раза і складае звыш 60 працэнтаў.

Сёння мы выказваем сардэчную падзяку рабочаму класу рэспублікі, усім, хто самааддданай працай умацоўвае яе індустрыяльную магутнасць!

Мы ўпэўнены, што ён будзе і ў далейшым высока несці сцяг Кастрычніка, ісці ў першых радах тварцоў навукова-тэхнічнага прагрэсу, актыўна змагацца за павышэнне эфектыўнасці грамадскай вытворчасці, за ажыццяўленне перабудовы!

Вялікія задачы вырашаюць працаўнікі аграпрамысловага комплексу. Іх галоўныя намаганні накіраваны на тое, каб у кароткі тэрмін забяспечыць насельніцтва разнастайнымі і высакаякаснымі прадуктамі харчавання.

Намеціліся істотныя змяненні ў развіцці сельскагаспадарчай вытворчасці: павышаецца яе эфектыўнасць, выконваюцца планы, нарошчваюцца тэмпы. Вы, відавочна, ведаеце, што ў бягучым годзе ўраджайнасць збожжавых склала 34,6 цэнтнера, а валавы збор перавысіў 9 мільёнаў тон—на 2 мільёны больш, чым было сабрана ў мінулым годзе. Хлебаробы Нясвіжскага і Гродзенскага раёнаў атрымалі больш чым па 50, племзавода «Чырвоная зорка» Клецкага і калгаса імя Гастэлы Мінскага раёнаў — больш чым па 70 цэнтнераў збожжа з гектара. Ураджайнасць бульбы ў сярэднім па рэспубліцы склала 204 цэнтнеры.

Набірае сілу жывёлагадоўчы цэх Беларусі. Вытворчасць малака за дзевяць месяцаў у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года ўзрасла на 7 працэнтаў, мяса — на 9.

Рэспубліка паспяхова спраўляецца з заданнямі па нарыхтоўках усіх відаў

сельскагаспадарчай прадукцыі і пастаўках яе ў саюзны фонд.

Складаемых дасягнутага многа. Гэта і ўзмацнелая за апошнія гады матэрыяльна-тэхнічная база калгасаў і саўгасаў. Гэта і павышэнне культуры земляробства і жывёлагадоўлі, укараненне інтэнсіўных тэхналогій, дасягненняў навукі і перадавой практыкі. Але самае галоўнае — гэта новы чалавек у вёсцы, у якога сялянская любоў да зямлі арганічна спалучаецца з шырокімі ведамі, ініцыятывай, руплівасцю, гаспадарскім падыходам да справы. З кожным днём такіх людзей становіцца ўсё больш.

Сардэчнае дзякуй працаўнікам калгасна-саўгаснай вытворчасці, усім, хто не шкадуючы сіл і энергіі, працуе на палях і фермах, хто ўносіць важкі ўклад у вырашэнне харчовай праблемы!

Пазітыўныя зрухі ў аграрна-прамысловым комплексе далі магчымасць палепшыць забеспячэнне насельніцтва прадуктамі харчавання, і кожны з нас адчувае гэта на сабе. Аднак пытанне вырашана пакуль што не поўнасцю. Як падкрэслівалася на чэрвеньскім (1987 г.) Пленуме ЦК КПСС, патрэбны свайго роду рывок у нарошчванні вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі.

Нядаўна сход партыйна-гаспадарчага актыву рэспублікі зацвердзіў праграму паскоранага развіцця аграпрамысловага комплексу да 2000 года. Мы прыйшлі да аднадушнага вываду: галоўны шлях нарошчвання вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі — спецыялізацыя і канцэнтрацыя на аснове індустрыяльнай тэхналогіі і міжгаспадарчай кааперацыі, удасканаленне навуковага забеспячэння аграрнага сектара эканомікі, сацыяльная перабудова вёскі.

Дазвольце напомніць важнейшыя паказчыкі, якіх трэба будзе дасягнуць у бліжэйшы і больш аддалены час.

Ужо к канцу наступнай пяцігодкі ўраджайнасць збожжавых павінна скласці 40, а к 2000 году — 45—50, бульбы — 300—350 цэнтнераў. Вытворчасць мяса намечана павялічыць да 1995 года ў паўтара раза, к канцу стагоддзя — на 75 працэнтаў і давесці да 1 млн. 840 тыс. тон.

А вось рубяжы павышэння прадуктыўнасці дойнага статка: 3300—3500 кілаграмаў — да 1990 года, 4000 кілаграмаў — да 1995-га, 4500—5000 кілаграмаў — да 2000-га. Вытворчасць малака ўзрасце к канцу стагоддзя на 45—50 працэнтаў у параўнанні з 1985 годам і складзе 10—11 млн. тон.

Распрацаваны і ажыццяўляюцца меры па павелічэнню ўкладу ў вырашэнне харчовага пытання асабістых падсобных гаспадарак грамадзян, прадпрыемстваў і арганізацый, калектыўных садаводчых таварыстваў.

Поспех у любой сферы дзейнасці забяспечваюць, як вядома, людзі — рабочыя, калгаснікі, спецыялісты, іх кампетэнтнасць, арганізаванасць, дысцыпліна. Вось чаму мы павінны настойліва павышаць адказнасць кадраў, звяртацца да працоўнага гонару, прафесіянальнай гордасці нашых людзей, да іх розуму і вопыту, вучыць іх крытычна асэнсоўваць практыку абнаўлення, развіваць усё новае, перадавое.

## IV.

У цэнтры ўвагі партыі, нашай дзяржавы быў і застаецца дабрабыт савецкага *народа*. У імя *чалавека працы*, яго свабоднага і ўсебаковага развіцця здзейснена сацыялістычная рэвалюцыя. Гэта прынцыповае палажэнне вызначае ўвесь сэнс пераўтварэнняў і ў сацыяльнай сферы.

Партыя настойліва дабіваецца, каб савецкія людзі хутчэй адчулі перамены да лепшага. На ўмацаванне матэрыяльнай базы сацыяльнай сферы адшукваюцца дадатковыя сродкі звыш зацверджаных пяцігадовым планам.

Прадмет асаблівых нашых клопатаў — жыллёвае будаўніцтва. Усе дзеянні тут павінны вызначацца праграмнай мэтай — забяспечыць да 2000 года кожную сям'ю асобнай кватэрай або індывідуальным домам. У рэспубліцы плануецца за пяцігоддзе ўвесці за кошт усіх крыніц фінансавання больш як 420 тысяч кватэр. У наступных пяцігоддзях тэмпы жыллёвага будаўніцтва будуць нарастаць. Пры гэтым больш высокія патрабаванні прад'яўляюцца да паляпшэння архітэктурна-эстэтычных якасцей жылля, да рацыянальнай забудовы і добраўпарадкавання населеных пунктаў. Прынята рашэнне к канцу пяцігодкі заасфальтаваць вуліцы ва ўсіх населеных пунктах, дзе 20 і больш дамоў.

Трэба будзе значна палепшыць пастаноўку справы ў ахове здароўя, забяспечыць масавае развіццё фізічнай культуры і спорту, рэзка павялічыць аб'ёмы бытавых паслуг, павысіць іх якасць. Больш клопатаў будзе праяўляцца аб экалагічным асяроддзі.

Пазіцыя партыі ў сацыяльнай сферы гранічна ясная: без штодзённых і эфектыўных клопатаў аб людзях нельга разлічваць на поспех нашай пераўтваральнай работы. Недаацэнка сацыяльных пытанняў, грэбаванне імі — пралік палітычны, тормаз перабудовы і паскарэння.

Важнейшым партыйным клопатам з'яўляецца правядзенне ў жыццё прынцыпу сацыяльнай справядлівасці. Працуючыя сумленна, творча павінны заахвочвацца матэрыяльна і маральна. І наадварот, трэба ўсімі сродкамі змагацца з тымі, чые паводзіны супярэчаць працоўнай прыродзе нашага ладу. Больш ад чалавека, але і больш чалавеку, добрасумленнаму работніку — такой з'яўляецца жывая дыялектыка сацыялістычнага грамадства, дзе праца і дабрабыт чалавека зліты непарыўна.

Рэвалюцыйныя перамены, якія адбываюцца ў грамадстве, патрабуюць высокай культуры і адукаванасці. Мы высока цэнім, што наша інтэлігенцыя глыбока разумее і справай падтрымлівае курс партыі на перабудову і паскарэнне, развіццё атмасферы творчага пошуку ва ўсіх сферах жыцця.

На шляхах дэмакратызацыі, публічнасці прыметна абвастрылася цікавасць да мінулага, да гісторыі з боку шырокіх слаёў насельніцтва. Гэта заканамерная цікавасць. Наш сучаснік, асабліва малады, хоча глыбей зразумець, асэнсаваць, хто ён, адкуль родам і куды ідзе. Гэта патрабуе вельмі ўважлівых адносін да ўсяго, што фарміруе гістарычную свядомасць народа.

Нельга ўяўляць нашу гісторыю як ланцуг памылак і няправільных поглядаў. Савецкі народ прайшоў вялікі і слаўны шлях. Сёй-той, захапляючыся празмернай крытыкай застойных з'яў, забывае, што іменна ў гэты перыяд наша краіна зацвердзіла свой аўтарытэт вядучай касмічнай дзяржавы, вывела ў сусветны акіян атамныя ледаколы, апаясала тайгу і тундру нафтагазаправодамі і чыгуначнымі пуцямі.

Іменна ў гэты час Беларусь стала выпускаць камп'ютэры, стварыла магутную індустрыю, а яе палі і фермы дасягнулі такой прадуктыўнасці, аб якой дваццаць гадоў назад і не марылася. Сфарміраваліся новыя напрамкі навукі, якія вызначаюць навукова-тэхнічны прагрэс, выраслі ўсебакова падрыхтаваныя кадры, здольныя вырашаць самыя складаныя, самыя адказныя задачы.

У той жа час шкодныя лакіроўка, скажэнне гістарычных падзей. Вывучаючы айчынную гісторыю, ацэньваючы набыты вопыт, мы бяром у багаж перабудовы сапраўды вартае сацыялістычнай Айчыны.

Слаўныя сыны і дочкі нашага народа, камуністы і беспартыйныя, выхаванцы камсамола найлепшым чынам праявілі сябе на ўсіх этапах гісторыі дзяржавы. Поўныя высакародных здзяйсненняў і будні цяперашняй моладзі на заводах і фабрыках, палях і фермах. Мужнасць і гераізм праяўляюць савецкія юнакі пры выкананні інтэрнацыянальнага абавязку ў Афганістане.

Мы ўпэўнены, што камсамольцы, уся моладзь з яшчэ большым запалам будуць змагацца за перабудову, за паскарэнне навукова-тэхнічнага прагрэсу.

Актыўна садзейнічаюць фарміраванню духоўнага свету сучаснага чалавека творы літаратуры і мастацтва, асабліва тыя, у якіх глыбока асэнсоўваецца рэчаіснасць, узвышаюцца людзі працы, раскрываюцца іх палітычная культура, высокае маральнае аблічча. У пераломны перыяд жыцця грамадства патрэбнасць у такіх творах вялікая.

Рэспубліка мае вялікія творчыя сілы. Многіх нашых пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў, кінематаграфістаў ведаюць у краіне і ва ўсім свеце.

Няхай і далей слова мастака дапамагае святлей жыць і лепш працаваць, няхай паўней раскрывае натхняючыя ідэалы Кастрычніка!

Нашы сілы прымнажае непарушная дружба народаў-братоў Краіны Саветаў. *Адзінства поглядаў*, мэт, абмен вытворчым вопытам, навуковымі распрацоўкамі, культурнымі каштоўнасцямі, узаемадапамога і ўзаемавыручка добрай парадай, канкрэтным удзелам у перабудове розных участкаў гаспадарчага, эканамічнага, культурнага жыцця — усё гэта збліжае, родніць савецкіх людзей, павышае зацікаўленасць у агульных справах, стварае атмасферу, калі лепш адчуваюцца локаць адзін аднаго і ўзаемная адказнасць.

Кожны наш горад, вёска і прадпрыемства тысячамі ніцей — навуковых і эканамічных, культурных і сацыяльных — звязаны з усёй нашай вялікай Радзімай.

З брацкай дапамогай вялікага рускага народа, іншых народаў краіны аднаўлялася народная гаспадарка рэспублікі, ствараліся трактарны і аўтамабільныя заводы, індустрыяльныя комплексы ў Наваполацку, Салігорску, Бярозе, Жодзіне, Новалукомлі, ліквідоўваюцца вынікі аварыі ў Чарнобылі.

Захоўваючы як зрэнку вока брацтва, дружбу народаў нашай краіны, мы бачым свой абавязак у тым, каб актыўна нарошчваць уклад рэспублікі ў агульнанародны здабытак, развіваць і ўмацоўваць патрыятычную і інтэрнацыянальную свядомасць працоўных. Вельмі важна павышаць культуру міжнацыянальных зносін, фарміраваць дзейны інтэрнацыяналізм, гордасць за гонар быць грамадзянінам вялікай Радзімы — Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Поспех перабудовы ў канчатковым выніку *залежыць ад кожнага з нас* — камуніста, камсамольца, ад кожнага беспартыйнага бальшавіка, ад асабістых адносін да сваіх абавязкаў. Перабудове патрэбны людзі, якія хварэюць за справу, патрабавальныя, нецярпімыя да безгаспадарчасці, неарганізаванасці, расхлябанасці. Ёй патрэбны байцы, беззапаветна адданыя камуністычным ідэалам, умеючыя прымнажаць і абараняць нашы вялікія матэрыяльныя, сацыяльныя, маральныя і культурныя каштоўнасці.

Росту іх радоў павінна садзейнічаць удасканаленне ідэалагічнай работы. Трэба ўлічваць, што ў папярэднія гады сям-там прараслі спажывецтва, сацыяльнае ўтрыманства, кан'юнктуршчына. У некаторай меры дэвальваваліся такія ідэйна-маральныя каштоўнасці, як працоўны энтузіязм, прыярытэт грамадскіх інтарэсаў. Адбілася, што маральнае выхаванне часта зводзілася да сферы дзейнасці толькі ідэалагічных фактараў.

Між тым нельга не ўлічваць, што на *маральны тонус асобы*, яе маральнае аблічча робяць актыўны ўплыў уся вытворча-гаспадарчая і сацыяльна-эканамічная практыка, метады і формы работы партыйных, савецкіх і гаспадарчых органаў, арганізацыя быту і вольнага часу.

Перабудова ажыццяўляецца для дабрабыту ўсяго савецкага народа, у імя *кожнага чалавека*, і гэта ўсё ў большай меры вызначае жыццёвую пазіцыю нашых людзей, павышэнне іх грамадска-палітычнай і вытворчай актыўнасці.

Аб гэтым, у прыватнасці, сведчаць вынікі працоўнай вахты ў гонар 70-годдзя Вялікага Кастрычніка.

Паводле папярэдніх даных, за два гады пяцігодкі нацыянальны даход узрасце на 12 працэнтаў супраць 9,1 працэнта па плану. Амаль увесь яго прырост будзе атрыман за кошт павышэння прадукцыйнасці грамадскай працы. Работнікі індустрыі да 15 кастрычніка справіліся з заданнямі года і дзесяці месяцаў па аб'ёму вытворчасці. За два гады выпуск прамысловай прадукцыі павялічыцца на 13 працэнтаў замест 9,3 па плану.

Перавышаны заданні па росту валавой прадукцыі сельскай гаспадаркі. Рэспубліка датэрмінова выканала планы двух гадоў пяцігодкі па продажу дзяржаве жывёлагадоўчай і раслінаводчай прадукцыі. Паляпшаецца становішча спраў у капітальным будаўніцтве. Больш зладжана працуюць транспарт, гандаль, сувязь.

## V.

Таварышы! З вышыні 70-годдзя сацыялістычнай дзяржавы асабліва наглядна бачыцца і з гордасцю ўспрымаецца найвялікшая мудрасць і празорлівасць Камуністычнай партыі, яе тытанічная дзейнасць на славу Айчыны, у імя перамогі справы міру і сацыяльнага прагрэсу на Зямлі.

Пераадольваючы неймаверныя цяжкасці і складанасці, партыя, узброеная ленінскай навукай перамагаць, загартоўвала сябе ў барацьбе, узбагачалася новым тэарэтычным, палітычным і арганізатарскім вопытам.

На сучасным этапе партыя зноў пераканаўча прадэманстравала сваю вернасць творчаму духу марксісцка-ленінскага вучэння. Адхіляючы догмы, смела ламаючы стэрэатыпы, яна пераасэнсавала пройдзены шлях, у кароткі тэрмін распрацавала канцэпцыю перабудовы і паскарэння, на аснове якой цяпер базіруецца ўся наша практычная дзейнасць.

Сіла партыі камуністаў якраз у тым і заключаецца, што яна заўсёды актыўна шукала новыя падыходы ў адпаведнасці з новымі ўмовамі, ніколі не пазбягала смелых паваротаў і пераўтварэнняў. Больш таго, яна вырасла з ідэі перабудовы — перабудовы старога свету.

Узначаліўшы рэвалюцыйнае абнаўленне грамадства, КПСС запатрабавала ад кожнага камуніста, ад кожнай партыйнай арганізацыі цвёрда кіравацца ленінскімі запаветамі, традыцыямі Кастрычніка, працаваць больш энергічна, больш напорыста, павышаць ініцыятыву і самадзейнасць працоўных, паглыбляць дэмакратызацыю і расшыраць публічнасць, актыўна ўкараняць гаспадарчы разлік і калектыўны падрад, іншыя новыя формы арганізацыі і стымулявання працы.

Гэта яшчэ больш умацавала давер'е і павагу савецкіх людзей да партыі. На крутым гістарычным павароце яны, як і заўсёды, звязваюць з яе дзейнасцю свае запаветныя надзеі і спадзяванні, свой лёс.

Яны добра ведаюць, што і ў дні жорсткай схваткі са старым светам, і ў перыяд пабудовы сацыялізму, і ў гады вайны з фашысцкімі захопнікамі, і сёння, калі вырашаюцца такія складаныя задачы, галоўную адказнасць, асноўны цяжар партыя брала і бярэ на сябе.

Іменна тое, што КПСС — партыя не толькі кіруючая, але і працуючая, і *з'яўляецца галоўным фундаментам*, на якім мацнела і будзе мацнець непарушнае адзінства партыі і народа. Іменна гэта — тая спрыяльная глеба, на якой з кожным днём, з пакалення ў пакаленне множыцца аўтарытэт КПСС.

Крылатыя словы «Партыя — розум, гонар і сумленне нашай эпохі» заўсёды мелі і будуць мець для нас непераходзячую каштоўнасць, паколькі змяшчаюць у сабе меру патрабавальнасці і чыстату думак камуністаў.

Выступаючы генератарам і маторам перабудовы, як вобразна сказаў Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў, партыя асаблівую ўвагу ўдзяляе павышэнню ролі і баявітасці сваіх пярвічных арганізацый. Ад іх цвёрдай пазіцыі і практычнай работы ў многім будзе залежаць ход пераўтварэнняў, уменне мабілізаваць і натхніць людзей, замацаванне вынікаў перабудовы.

Ад партыйных камітэтаў усіх ступеней сёння патрабуецца паслядоўна ўдасканальваць стыль работы, усталёўваць палітычныя метады кіраўніцтва праз пярвічныя партарганізацыі, з апорай на працоўныя калектывы і грамадскія фарміраванні, праўдзіва і прынцыпова ацэньваць становішча спраў, вучыць кадры дзейнічаць па-новаму.

Калі мы хочам узняць нашу эканоміку, культуру, усё грамадскае жыццё на якасна новы ўзровень, — а гэта жаданне ўсіх савецкіх людзей, стратэгічная мэта партыі,— то перш за ўсё камуністам трэба падцягнуцца і грунтоўна прыбавіць у рабоце.

Калі мы хочам на справе паўсюдна ўсталяваць маральную чыстату ў працоўных калектывах, у сем'ях, ва ўсёй грамадскай атмасферы,— а без гэтага нашы задумы і планы застануцца *толькі* добрымі пажаданнямі,— то перш за ўсё нам, камуністам, трэба рашуча выкараняць, зжываць інертнасць і раўнадушнасць, разрыў паміж словам і справай.

Калі мы хочам сапраўднага поспеху перабудовы і паскарэння,— а мы гэтага, безумоўна, хочам,— то абавязаны і далей узнімаць творчы патэнцыял, баявітасць і аддачу ўсіх звенняў нашай амаль 700-тысячнай рэспубліканскай партыйнай арганізацыі, якая была, ёсць і будзе надзейным і выпрабаваным атрадам Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

Сур'ёзнаму паляпшэнню ўсёй шматграннай арганізатарскай і палітычнай дзейнасці будуць садзейнічаць пленумы партыйных камітэтаў і сходы камуністаў з абмеркаваннем справаздач выбарных органаў аб рабоце па кіраўніцтву перабудовай. Яны павінны стаць важным этапам падрыхтоўкі да будучай XIX Усесаюзнай партканферэнцыі.

Асаблівую адказнасць партыя ўскладае на кіруючыя кадры. Ад іх сёння патрабуецца, гаворачы словамі Уладзіміра Ільіча Леніна, без шуму і мітусні і насуперак шуму і мітусні наладжваць дружную, зладжаную работу. Галоўным крытэрыем ацэнкі кадраў выступаюць іх адносіны да перабудовы, яе практычнае ажыццяўленне, рух наперад на канкрэтных участках і напрамках.

У рэспубліцы растуць рады таленавітых арганізатараў прамысловай і сельскагаспадарчай вытворчасці. Узначальваемыя імі працоўныя калектывы ўжо многія гады ідуць у авангардзе сацыялістычнага спаборніцтва, падаюць прыклад таго, як трэба весці справу, выкарыстоўваць усе магчымасці для павышэння эфектыўнасці вытворчасці, стварэння ўмоў для ўсебаковага развіцця чалавека.

У ажыццяўленні разгорнутых у краіне пераўтварэнняў, павышэнні працоўнай актыўнасці людзей, росце іх палітычнай культуры, маральным аздараўленні грамадскага жыцця, як ніколі раней вялікая роля сродкаў масавай інфармацыі.

У друку шырока і свабодна супастаўляюцца розныя пункты погляду, фарміруецца культура стваральнай крытыкі, уменне весці дыскусіі. Прэса ва ўсё большай меры становіцца інструментам публічнасці і шырокага грамадска-палітычнага кантролю.

(Заканчэнне на стар. 6).

## Урачыстае пасяджэнне ў Мінску

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 3—5).

Гэту лінію трэба развіваць і далей, ператвараючы газетныя і часопісныя старонкі ў поле кваліфікаванага даследавання працэсаў, якія адбываюцца сёння ў жыцці, аналізу ходу рэалізацыі наватарскіх рашэнняў XXVII з'езда партыі, студзеньскага і чэрвеньскага (1987 г.) Пленумаў ЦК КПСС.

Прэса, тэлебачанне і радыё і далей павінны быць невычэрпным акумулятарам грамадскай думкі, палымяным прапагандыстам жывога вопыту работы ў новых умовах, самаадданай працы падзвіжнікаў перабудовы.

Таварышы! Наша партыя сфармулявала ідэю стварэння ўсеабдымнай сістэмы бяспекі, распрацавала філасофію бяз'ядзернага свету. Канкрэтным яе выражэннем стала смелая і рэалістычная праграма ліквідацыі к канцу цяперашняга стагоддзя ядзернай і ўсіх іншых відаў зброі масавага знішчэння, сфармуляваная Міхаілам Сяргеевічам Гарбачовым.

Краіна Саветаў прапануе наладзіць шырокае міжнароднае ўзаемадзеянне ва ўсіх сферах эканомікі, навукі, культуры, перш за усё ў мірным выкарыстанні касмічнай прасторы і сусветнага акіяна, у вырашэнні ў інтарэсах усяго чалавецтва такіх глабальных праблем, як энергетычная, сыравінная, харчовая, экалагічная.

Гісторыя цывілізацыі не ведае такой цэласнай і яснай, такой высакароднай і гуманнай праграмы, якая ахоплівае такое шырокае кола пытанняў, што закранаюць *інтарэсы і лёс усіх народаў* і краін, кожнага жыхара планеты. Гэта робіць гонар нашай Радзіме, узвышае аўтарытэт першай краіны сацыялізму.

Велізарнымі намаганнямі Савецкай дзяржавы дасягнута прынцыповая дагаворанасць з адміністрацыяй ЗША аб поўнай ліквідацыі ядзерных ракет сярэдняй і меншай дальнасці. Яна расцэнена ва ўсім свеце як абнадзейваючы крок у справе раззбраення, за якім павінны быць новыя крокі на шляху да ўстанаўлення такога міжнароднага парадку, пры якім панавала б не ваенная сіла, а розум, добрасуседства і супрацоўніцтва.

На дасягненне гэтых мэт звернут увесь *палітычны аўтарытэт*, увесь міжнародны ўплыў Саюза ССР. Савецкая дзяржава гатова з усімі краінамі развіваць шырокі ўзаемаабмен дасягненнямі навукі і тэхнікі, каштоўнасцямі культуры на карысць усіх народаў.

Мы за мір усім сэрцам і душой. Але пакуль міжнародная рэакцыя паскарае гонку ўзбраенняў, наша дзяржава вымушана падтрымліваць свае Узброеныя Сілы ў такім стане і на такім узроўні, каб быць гатовымі абараніць савецкі народ, народы сацыялістычнай садружнасці ад любога агрэсара.

Напярэдадні слаўнага юбілею мы выказваем салдатам і матросам, афіцэрам і генералам Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі, а ў іх асобе ўсім воінам доблесных Узброеных Сіл глыбокую падзяку за іх нялёгкую ратную працу і жадаем новых дасягненняў у павышэнні баявой і палітычнай падрыхтоўкі, ва ўмацаванні абараназдольнасці краіны.

●

Таварышы! Савецкае грамадства накіравана ў будучыню. Мы ганарымся тым, што наша Радзіма ідзе ў авангардзе барацьбы за ўсё самае светлае і прагрэсіўнае на планеце.

Нас натхняюць неўміручыя ідэалы марксізму-ленінізму.

Нас вядзе наперад ленінская партыя камуністаў.

Наш аптымізм, нашу ўпэўненасць у перамозе той справы, якая намечана Праграмай КПСС, стратэгіяй паскарэння, жывяць вялікія дасягненні сацыялізму, яго невычарпальныя матэрыяльныя і духоўныя магчымасці.

У партыі і народа — адна мэта.

У рабочага класа, калгаснага сялянства і інтэлігенцыі — адны інтарэсы.

Людзі ўсіх пакаленняў савецкага грамадства — ветэраны і моладзь — звязаны адным лёсам, адным жаданнем: зрабіць сваю рэспубліку, сваю вялікую краіну яшчэ больш прыгожай, яшчэ больш багатай.

Дык накіруем жа ўвесь свой розум, усю сваю волю, усю энергію на вырашэнне паўстаўшых перад намі натхняючых стваральных задач!

# УСЕ СІЛЫ—СПРАВЕ РЭВАЛЮЦЫЙНАГА АБНАЎЛЕННЯ

## Выступленне І. А. ЛАСКІНА

**(ветэран Камуністычнай партыі)**

Дарагія таварышы!

Яркі, пранікнёны даклад Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова перапаўняе добрымі пачуццямі сэрцы ветэранаў партыі. Гісторыя прадаставіла нам гонар закладваць фундамент новага грамадства. Гэта было, таварышы, неверагодна цяжкай справай. Тым больш радасна бачыць і ўсведамляць, што на гэтым фундаменце сёння трывала стаіць велічны будынак сацыялізму.

Даклад Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова быццам вярнуў нас да таго, што мы перажылі, пабудавалі, адстаялі, даў выверані аналіз нашага руху да сацыялізму. Пад яго ўражаннем мы як быццам нанава пражылі сваё жыццё з усімі яго радасцямі і няўдачамі.

Няма большага шчасця для камуніста, для кожнага савецкага чалавека, чым бачыць сваю Радзіму магутнай і квітнеючай, якая ўпэўнена ідзе па шляху, адкрытым Вялікім Кастрычнікам. Гэта сапраўды слаўны і гераічны шлях.

Мне, былому байцу Чырвонай Арміі, удзельніку грамадзянскай вайны, усяму нашаму пакаленню, што пачало жыццё ва ўмовах старой Расіі, лепш відаць, на якую велізарную вышыню паднялася Краіна Саветаў, якіх выдатных рубяжоў яна дасягнула. Працай і воляй партыі, савецкага народа пабудавана новае грамадства — грамадства, дзе няма эксплуатацыі чалавека чалавекам, грамадства, дзе створаны рэальныя асновы сапраўднай дэмакратычнай свабоды асобы.

Пабудаваць такое грамадства ў вельмі кароткі для гісторыі тэрмін пад сілу толькі народу, акрыленаму вялікай мэтай, які ўпэўнена ідзе за сваім выпрабаваным кіраўніком— Камуністычнай партыяй. І ў гэтым наша неадольная сіла, наша ўпэўненасць і гордасць.

Углядваючыся ў далёкія гады сваёй маладосці, мы, старыя бальшавікі, бачым, як мацнелі нашы сілы, мужнелі характары. Нам выпала вялікае *шчасце працаваць пад кіраўніцтвам* заснавальніка нашай партыі і дзяржавы У. І. Леніна. З яго імем і пад яго кіраўніцтвам мы зверглі стары эксплуататарскі строй. З яго імем мы адстаялі вялікія заваёвы Кастрычніка ў грознай барацьбе з унутранай і знешняй рэакцыяй.

Сённяшні юбілей — гэта трыумф ленінскай думкі, ленінскай стратэгіі перамагаць. Мы, ветэраны партыі, бясконца ганарымся тым, што дастойна прайшлі гэтыя дзесяцігоддзі разам з краінай, злучылі свае біяграфіі з яе біяграфіяй. Разам з тым у гэтыя дні мы не толькі аглядваемся на пражытое, але і думаем аб дні заўтрашнім.

І чым больш задумваешся аб сутнасці і сэнсе таго, што адбываецца ў краіне сёння, тым ясней разумееш — глыбока і крытычна, усебакова асэнсаваць мінулае неабходна. Не маем права мы забываць урокі мінулага. Урокі ў вялікім і малым, прайшоўшыя праз сэрца кожнага з нас. Хацеў бы падкрэсліць — пры асэнсаванні гісторыі нашай краіны неабходна рашуча адмятаць любыя спробы сказіць, ачарніць яе. Мы павінны аддзяляць у ацэнках *чужое нам* ад таго, што працуе на сацыялізм, на будучыню.

Амаль семдзесят гадоў я з'яўляюся членам ленінскай партыі, *якая заўсёды была*, ёсць і будзе вернай справе і інтарэсам працоўных. Лепшым пацвярджэннем гэтаму з'яўляецца карэнная перабудова і паскарэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны.

Ад імя ўсіх ветэранаў хачу выказаць гарачае адабрэнне сапраўды рэвалюцыйных змен, якія адбываюцца ў нашым жыцці. Па сваёй глыбіннай сутнасці, бальшавіцкай смеласці, гуманістычнай накіраванасці курс, узяты КПСС, — гэта прамое прадаўжэнне вялікіх здзяйсненняў, пачатых бальшавікамі ў кастрычніцкія дні 1917 года.

І не проста прадаўжэнне, але і развіццё, паглыбленне асноўных ідэй рэвалюцыі. Гэты курс выражае спадзяванні і інтарэсы нашага народа, і таму атрымлівае яго найшырэйшую падтрымку. У яго ажыццяўленні ўсё больш актыўна ўцягваюцца мільёны людзей.

З перабудовай, разгорнутай у краіне, мы, ветэраны, памаладзелі душой і сэрцам. І робім усё, каб заўсёды быць у радах яе найбольш актыўных байцоў.

Сваёй галоўнай задачай ленінская гвардыя, усе ветэраны рэвалюцыі, вайны і працы лічаць выхаванне маладога пакалення. Задача не простая. Сярод маладых многа такіх, хто дрэнна ведае мінулае. Стараемся гаварыць з юнакамі і дзяўчатамі сумленна, адкрыта, шчыра. Упэўнены, што наша змена свята зберажэ і прымножыць слаўныя традыцыі Камуністычнай партыі і савецкага народа.

Ад імя ветэранаў партыі, рэвалюцыі, вайны і працы дазвольце запэўніць родную Камуністычную партыю, Савецкі ўрад, што мы і ў далейшым будзем актыўна перадаваць рэвалюцыйны вопыт нашай моладзі, выхоўваць яе ў духу савецкага патрыятызму і сацыялістычнага інтэрнацыяналізму, любві да нашай вялікай Радзімы.

Мы будзем і ў далейшым уносіць дастойны ўклад у справу рэвалюцыйнага абнаўлення нашага грамадства, у справу сацыялізму. Пакуль б'юцца нашы сэрцы — мы на службе ў партыі, на службе ў народа!

Няхай жыве ленінізм!

## Выступленне Я. А. ШУЛЯКА

**(каваль-штампоўшчык Мінскага аўтамабільнага завода)**

Дарагія таварышы!

Мне выпаў вялікі гонар — ад імя рабочага класа ардэнаноснай Савецкай Беларусі вітаць вас, удзельнікаў урачыстага сходу, напярэдадні знамянальнага ўсенароднага свята — 70-годдзя Вялікага Кастрычніка.

Кастрычніцкая рэвалюцыя, якая адкрыла новую эру ў гісторыі чалавецтва, у корані змяніла лёсы народаў нашай многанацыянальнай Радзімы. У найкарацейшыя тэрміны была пройдзена адлегласць ад кувалды і сялянскай сахі да развітой індустрыі, без якой была б непазбежнай гібель новага грамадства. Аб гэтым з глыбокай перакананасцю сказана ў дакладзе Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова на ўрачыстым пасяджэнні ў Крамлі. У сузор'і брацкіх рэспублік расквітнела родная Беларусь. З адсталага, аграрнага краю яна ператварылася ў высокаразвітую рэспубліку, прадукцыя якой вядома цяпер на ўсіх кантынентах Зямлі.

Пад ленінскім рэвалюцыйным сцягам вырас і ўзмужнеў рабочы клас. Сёння ён самаадданa працуе на ўсіх участках гаспадарчага будаўніцтва, уносіць вялікі ўклад у стварэнне і прымнажэнне матэрыяльных і культурных багаццяў нашай краіны.

Мы здабываем нафту, плавім метал, збіраем магутныя аўтамабілі і трактары, робім сучасныя станкі, камп'ютэры і тавары для народа.

Мы ўдзельнічаем у вырашэнні важнейшых пытанняў агульнадзяржаўнай палітыкі, ганарымся тым, што нам, рабочым, даверана вядучая роля ў перабудове і абнаўленні савецкага грамадства. Поўнасцю адабраем і падтрымліваем лінію партыі на паскарэнне сацыяльна-эканамічнага і духоўнага развіцця краіны і сваёй добрасумленнай працай прымножым слаўныя традыцыі, народжаныя Кастрычнікам.

Сёння не на словах, а на справе расце роля працоўнага калектыву. Публічнасць, дэмакратыя, выбарнасць кадраў вяртаюць працоўным рэальнае пачуццё гаспадара на вытворчасці, у вырашэнні мясцовых спраў, рэспубліканскіх праблем.

Па-новаму раскрываюцца магчымасці рабочага класа — развіваецца ініцыятыва, умацоўваюцца яго дысцыпліна і арганізаванасць. Справе перабудовы надаецца рэвалюцыйная энергія і рашучасць.

У поўнай адпаведнасці з пяцігадовым планам прамысловасцю рэспублікі выконваюцца заданні па росту вытворчасці, прадукцыйнасці працы, павышэнню *якасці прадукцыі*.

Новымі дасягненнямі сустракае рабочы клас рэспублікі знамянальнае свята Кастрычніка. 3600 брыгад і больш як 100 тысяч работнікаў прамысловасці выканалі планы двух гадоў пяцігодкі і асабістыя сацыялістычныя абавязацельствы ў гонар слаўнага юбілею. З пачатку года краіне дадзена звыш устаноўленых заданняў прадукцыі на суму 470 млн. рублёў. Гэта, безумоўна, радуе.

Адзначаючы дасягнутае, мы не забываем, што прамысловы патэнцыял рэспублікі выкарыстоўваецца яшчэ не ў поўнай меры. Перашкодай на шляху *добрых спраў часта бываюць* нядбайныя адносіны часткі работнікаў да сваёй справы, абыякавасць, пасіўнасць, а часам і проста безадказнасць. Не ўсюды ўключаны ў дзеянне рычагі зацікаўленасці рабочых у дасягненні максімальных канчатковых вынікаў. Перашкаджаюць нам бюракратызм і валакіта, коснасць і руціна, замаруджаны адыход ад адміністравання і валявых метадаў кіравання.

Гавару аб гэтым не галаслоўна. Мяркую па нашаму Мінскаму аўтазаводу. Са студзеня гэтага года прадпрыемства працуе ва ўмовах поўнага гаспадарчага разліку, аднак істотных перамен мы пакуль не адчулі. *Па-ранейшаму* «кульгае» матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне, не стала законам і для нас, і для сумежнікаў поўнае выкананне дагаворных абавязацельстваў.

На жаль, і ў галіновых, і ў рэспубліканскіх, і ў мясцовых органах некаторыя таварышы *перабудову ўспрымаюць толькі* як больш стараннае выкананне старых інструкцый і настаўленняў, не задумваючыся, што многія з іх даўно зжылі сябе. Новыя вялікія справы патрабуюць не проста новага мыслення, але і смеласці, умення ўзяць на сябе адказнасць за вырашэнне пытанняў.

Іменна такога падыходу патрабуе Закон аб дзяржаўным прадпрыемстве (аб'яднанні), уступленне ў жыццё якога мы вельмі чакаем і з якім звязваем вялікія надзеі.

Дазвольце запэўніць удзельнікаў урачыстага сходу ў тым, што рабочы клас рэспублікі і ў далейшым будзе ісці ў авангардзе перабудовы нашага грамадства, практычнымі справамі дакажа сваю вернасць партыі, народу, слаўным традыцыям Вялікага Кастрычніка!

# Выступленне У. П. ПЛАТОНАВА

**(прэзідэнт Акадэміі навук БССР)**

Дарагія таварышы!

Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, здзейсненая пад кіраўніцтвам У. І. Леніна, азнаменавала сабой пачатак якасна новага этапу ў развіцці чалавечага грамадства. Упершыню на велізарнай частцы Зямлі была ажыццёўлена векавая мара аб народаўладдзі, упершыню прынцыпы свабоды, роўнасці атрымалі сваё рэальнае ўвасабленне ў такім маштабе. Вялікі Кастрычнік абудзіў у душах людзей дзівосную энергію, адкрыў беларускаму народу, як і іншым савецкім народам, дарогу да свабоды і шчасця. Беларусь упершыню ў сваёй гісторыі атрымала дзяржаўнасць і на роўных з іншымі народамі правах увайшла ў Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. У параўнальна кароткі тэрмін нязмерна вырасла культура беларускага народа, сацыялістычная па зместу і нацыянальная па форме.

У рэспубліцы пачалі працаваць вышэйшыя навучальныя ўстановы, была створана Акадэмія навук, адкрыты тэатры, музеі, многія іншыя культурныя і навуковыя ўстановы. На беларускай мове сталі выходзіць газеты, часопісы, кнігі.

Сёння ў рэспубліцы 6 тысяч агульнаадукацыйных школ, у якіх вучыцца больш за паўтара мільёна дзяцей. Ёсць 139 сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў. У 33 вышэйшых навучальных установах набываюць самыя розныя спецыяльнасці 180 тысяч студэнтаў.

Калі да рэвалюцыі ў Беларусі не было ні адной навучальнай установы, то цяпер іх больш чым 150, у тым ліку больш як 70 навукова-даследчых інстытутаў. Агульная колькасць навуковых работнікаў (уключаючы навукова-педагагічныя кадры ВНУ) складае больш за 43 тысячы, з іх звыш 1000 дактароў і 13 тысяч кандыдатаў навук.

Галоўным навуковым цэнтрам рэспублікі па праву з'яўляецца Акадэмія навук. У яе паспяховае развіццё ўкладзена вялікая доля працы відных вучоных з Масквы, Ленінграда і іншых навуковых цэнтраў краіны.

Вучоныя Беларусі за мінулы перыяд унеслі прыметны ўклад у развіццё навукі нашай краіны. Найбольш істотныя поспехі дасягнуты ў такіх важных галінах навукі, як матэматыка, оптыка і спектраскапія, матэрыялазнаўства, машынабудаванне і прыборабудаванне, хімія, фізіялогія, экалогія.

Ёсць значныя работы па гісторыі беларускай літаратуры, мовы, развіцця тэатра, жывапісу, музыкі, зборы фальклору і г. д.

Усё намі дасягнутае непарыўна звязана з імем У. І. Леніна. Ён заўсёды падкрэсліваў праблему сацыяльнага прызначэння навукі. Важнейшай умовай сацыялістычнага будаўніцтва Ленін лічыў «...пераарганізацыю народнай працы па апошняму слову навукі і тэхнікі». Ажыццяўляючы запаветы Ільіча, Савецкая Беларусь у кароткі тэрмін ператварылася ў высокаразвітую індустрыяльную рэспубліку, якая мае сур'ёзны навукова-тэхнічны патэнцыял. Пры гэтым неабходна падкрэсліць, што галоўную ролю ў прамысловасці рэспублікі адыгрываюць такія яе ключавыя галіны, як машынабудаўнічая, электронная, радыётэхнічная, ад якіх у рашаючай ступені залежыць прагрэс народнай гаспадаркі ў цэлым. А дасягненні беларускай сельскай гаспадаркі ў апошнія гады аказаліся настолькі ўражальнымі, што нават тэлевізійны «Пражэктар перабудовы» змяніў сваё крытычнае вастрыё на оду ў гонар працаўнікоў беларускай вёскі.

Вось вам найярчэйшае сведчанне таго, як творчыя сілы народа, якія дзесяцігоддзямі або нават стагоддзямі падаўляліся, будучы вызваленымі Вялікім Кастрычнікам, з небывалай сілай вырваліся на прастор стварэння і паказалі ўсяму свету, які таленавіты і духоўна багаты наш народ.

Сёння трэба адкрыта прызнаць, што мы, вучоныя, дзеячы культуры рэспублікі — у адчувальным даўгу перад нашым цудоўным народам. Пэўныя негатыўныя тэндэнцыі праявіліся ў апошнія гады як у развіцці навукі, так і культуры рэспублікі. Нас чакае нялёгкая барацьба з драбнатэмнасцю, суб'ектывізмам і павярхоўным падыходам.

Навука павінна больш канструктыўна і мэтанакіравана рабіць уплыў на развіццё асноўных галін прамысловасці і сельскай гаспадаркі рэспублікі.

Для Акадэміі навук БССР стратэгічнай задачай з'яўляецца дасягненне ў галоўных напрамках даследаванняў вынікаў сусветнага ўзроўню. Цяпер у адпаведнасці з рашэннямі XXVII з'езда партыі і наступных Пленумаў ЦК КПСС актыўна разгортваецца работа па перабудове дзейнасці ўсіх навукова-даследчых арганізацый, вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў, устаноў культуры і мастацтва рэспублікі.

Мы ўжо вызначылі прыярытэтныя напрамкі навуковых даследаванняў, якія маюць вялікае тэарэтычнае і народнагаспадарчае значэнне. Мы павінны глыбей вывучыць патрэбнасці народнай гаспадаркі рэспублікі і ў бліжэйшы час сфарміраваць прапановы па распрацоўцы найбольш прагрэсіўнай тэхнікі і тэхналогіі. Трэба мацаваць навуковыя сувязі з вышэйшымі навучальнымі установамі і галіновымі інстытутамі, накіроўваючы намаганні многіх навуковых калектываў да адзінай мэты.

Таварышы!

Сёння навука — гэта жыватворная крыніца тэхніка-эканамічнага і сацыяльнага прагрэсу, росту духоўнай культуры народа, яго дабрабыту. Таму інтэлектуальны патэнцыял набывае ўсё большае значэнне ў жыцці савецкага грамадства. Партыя чакае ад вучоных, дзеячаў культуры новых смелых творчых пошукаў, узлётаў і адкрыццяў.

У дакладзе на ўрачыстым пасяджэнні ў Маскве 2 лістапада М. С. Гарбачоў адзначыў: «Павышаць сацыяльную адказнасць і прафесіянальную кампетэнтнасць, творчую аддачу — такі сёння абавязак інжынераў і вучоных, урачоў і настаўнікаў, дзеячаў літаратуры і мастацтва».

У гэты радасны, урачысты дзень дазвольце выказаць глыбокую ўдзячнасць Камуністычнай партыі і Савецкаму ўраду за вялікія клопаты аб нас, работніках навукі і культуры, і запэўніць, што мы аддадзім увесь свой талент і веды, усе сілы справе рэвалюцыйнага абнаўлення грамадства, служэнню свайму народу.

# Выступленне І. І. ПЛАЎСКАГА

**(дырэктар племзавода «Чырвоная зорка» Клецкага раёна)**

Таварышы!

Ёсць глыбокая сімволіка ў тым, што два такія блізкія кожнаму чалавеку працы паняцці, як мір і зямля, у першыя гадзіны Савецкай улады ленінскай рукой былі звязаны разам. Бо няма ў людзей клопату вышэйшага, чым клопат аб хлебе і міры. Дзяржава рабочых і сялян, якая адлюстравала на сваім сцягу серп і молат, а ў гербе — каласы збожжа, упершыню ў гісторыі ўвасобіла ў рэальнасць спрадвечную мару чалавецтва.

З вышыні сённяшніх дзён асабліва выразна відаць тыя жыватворныя перамены, якія адбыліся ў беларускай вёсцы. Незваротна адышлі ў мінулае яе беднасць і беспрасветнасць.

Да рэвалюцыі ў нас звыш 80 працэнтаў сялян не ўмелі ні пісаць, ні чытаць. Нават назвы вёсак — Бясхлебіцы, Махаеды, Галодзічы — падкрэслівалі іх вечную нястачу. Горкая доля гнала людзей на чужыну ў пошуках лепшага жыцця, кавалка хлеба.

Тое, што мы сёння маем, дае поўнае права сказаць: нашы дасягненні ў аграрным сектары сапраўды ўражальныя. Ад сахі і матыкі — да індустрыяльных тэхналогій. Ад ленінскай мары аб ста тысячах трактароў — да шырокай механізацыі працы на палях і фермах. Ад убогіх хацін — да сучасных аграгарадкоў.

Вялікі і складаны шлях прайшла наша сельская гаспадарка. Рознае здаралася на гэтым шляху — і перагібы, і забяганні наперад. Не заўсёды ўмелі і хацелі прыслухацца да думкі людзей. Было нямала розных навацый, далёкіх ад навукі, інтарэсаў справы. Але галоўны вынік бясспрэчны: сельская гаспадарка сёння стабільна развіваецца, набіраючы новую сілу для поўнага росквіту.

Галоўная наша заваёва — чалавек. Селянін, які калісьці жыў у галечы і бяспраўі, стаў уладаром сваёй зямлі, свайго лёсу. Цяперашні хлебароб — працаўнік - калектывіст, граматны і дбайны гаспадар, гарачы патрыёт.

Думаю, аб многім гаворыць той факт, што, творча выкарыстоўваючы вопыт перадавых гаспадарак — такіх, як калгасы «Прагрэс» Гродзенскага, імя Гастэлы Мінскага, «Ленінскі шлях» Слуцкага раёнаў, у гэтым годзе хлебаробы нашай гаспадаркі атрымалі па 72 цэнтнеры збожжа з гектара. А ўсяго ў рэспубліцы звыш ста калгасаў і саўгасаў сабралі на круг па 50 і больш цэнтнераў збожжа. Як ніколі раней важкі наш агульны каравай—на два мільёны тон ён пацяжэў у параўнанні з мінулым годам.

Па закупках малака рэспубліка перавысіла, а па продажу мяса наблізілася да ўзроўню, намечанага Харчовай праграмай на 1990 год.

Мы ўпэўнена глядзім у будучыню. І гэта ўпэўненасць заснавана на стваральнай сіле выпрацаванага партыяй аграрнага курсу, які творча развівае ідэі ленінскага кааператыўнага плана. Ажыццяўленне яго надасць патрэбнае паскарэнне сацыяльна-эканамічнаму развіццю вёскі.

Наглядны прыклад таму — наша гаспадарка. Грамадскі жыллёвы фонд яе складаюць дабротныя дамы з усімі камунальнымі выгодамі. Да паслуг земляробаў — тыпавая школа, выдатны Палац культуры, гандлёвы цэнтр, адкрыт музей гаспадаркі. Ёсць усе ўмовы для плённай працы і паўнацэннага адпачынку.

І такіх гаспадарак становіцца ўсё больш. У гэтым мы пераканаліся ў ходзе рэспубліканскага семінара, праведзенага нядаўна на Брэстчыне.

Словам, і ў нас у саўгасе, і ў рэспубліцы зроблена нямала. Але нікуды не дзенешся ад таго факта, што мы, работнікі аграпрамысловага комплексу, пакуль яшчэ ў вялікім даўгу перад народам. Нам нярэдка яшчэ не хапае ўмення граматна весці справу на базе інтэнсіўных тэхналогій і новых форм гаспадарання. Вельмі важна лепш спалучаць інтарэсы ўсіх удзельнікаў аграпрамысловай вытворчасці з выхадам на канчатковы высокі вынік.

Мы бачым свой абавязак у тым, каб паскорыць рух наперад, падцягнуць тых, хто яшчэ адстае, дрэнна выкарыстоўвае рэзервы і магчымасці.

Перад намі пастаўлена дакладная задача: забяспечыць краіну прадуктамі харчавання. І вырашыць яе — справа нашага гонару, справа дзяржаўнай важнасці.

Сёння ў паскарэнні развіцця аграпрамысловага комплексу бачыцца прамая сувязь з усталяваннем ва ўмовах перабудовы новых форм гаспадарання, рашэннямі партыі па ўдасканаленню механізма кіравання, перапрацоўчай прамысловасці, па асабістых падсобных гаспадарках і іншымі. Яны здымаюць путы шаблоннасці, раскоўваюць ініцыятыву, вяртаюць селяніну пачуццё самастойнага і адказнага гаспадара.

Таварышы! Спрадвеку нялёгкая праца хлебароба, усе яго думкі звязаны з мірам на Зямлі. Таму мы ўсім сэрцам падтрымліваем нястомныя намаганні Камуністычнай партыі і Савецкай дзяржавы, накіраваныя на ўтаймаванне ядзернага вар'яцтва, умацаванне аўтарытэту і магутнасці нашай Айчыны.

У імя высакародных ідэалаў Кастрычніка, у імя міру на Зямлі мы гатовы працаваць самааддана, з поўным напружаннем сіл.

# Выступленне Ю. А. КОШАЛЕВА

**(гвардыі падпалкоўнік Савецкай Арміі)**

Дарагія таварышы!

У гэту, па-асабліваму ўрачыстую гадзіну мы, воіны-ракетчыкі і танкісты, мотастралкі і артылерысты, авіятары і зенітчыкі, сапёры і сувязісты Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі, шлём вам—удзельнікам урачыстага пасяджэння, працоўным Беларусі і яе сталіцы горада-героя Мінска, сваё армейскае баявое прывітанне.

Слаўны юбілей — 70-годдзе Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, якая адкрыла новую эру ў гісторыі чалавецтва,— гераічны савецкі народ адзначае самааддананай працай і прыметнымі дасягненнямі на шляхах перабудовы, рэвалюцыйных пераўтварэнняў усіх сфер грамадскага жыцця.

Савецкія воіны горача адабраюць і поўнасцю падтрымліваюць палітычныя ўстаноўкі і вывады, выкладзеныя ў дакладзе Генеральнага сакратара ЦК КПСС таварыша М. С. Гарбачова на ўрачыстым сходзе ў г. Маскве.

Ад сівых Карпат да Курыльскай грады, ад Паўночнага Ледавітага акіяна да Цянь-Шаньскіх гор і Паміра многанацыянальны народ Краіны Саветаў самааддана змагаецца за выкананне гістарычных рашэнняў XXVII з'езда партыі, студзеньскага і чэрвеньскага (1987 г.) Пленумаў ЦК КПСС.

Няўхільна расце эканамічная і абаронная магутнасць нашай Радзімы. Паляпшаецца народны дабрабыт. Умацоўваецца маральна-палітычнае адзінства савецкіх людзей, іх згуртаванасць вакол ленінскай Камуністычнай партыі Савецкага Саюза. Усё гэта — пераканаўчае сведчанне рэвалюцыйнага працягу... даўжэння справы Вялікага Кастрычніка.

Як роўны сярод роўных разам з усімі іншымі нацыямі і народнасцямі нашай краіны вялікімі дасягненнямі ў працы сустракае знамянальнае свята беларускі народ. Мы — воіны Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі — ганарымся яго гераічнымі рэвалюцыйнымі і баявымі традыцыямі і слаўнымі сённяшнімі працоўнымі здзяйсненнямі.

Навечна ў памяці народнай непахісная стойкасць і мужнасць савецкіх воінаў, партызан і падпольшчыкаў у барацьбе з фашысцкімі захопнікамі. Жорсткая барацьба з ворагам зацвердзіла за Беларуссю славу партызанскай рэспублікі, а за яе сталіцай — славу непакоранага горада, які ўдзячная Радзіма ўвянчала Зоркай Героя.

Калектыўнымі намаганнямі брацкіх народаў горад-салдат, горад-працаўнік ператвораны ў адзін з буйнейшых эканамічных, навуковых і культурных цэнтраў краіны.

Воінская служба на тэрыторыі слаўнай Беларусі ганаровая для кожнага воіна нашай акругі. Але яна і адказная. У цяперашняй складанай і напружанай ваенна-палітычнай абстаноўцы воіны пільна і надзейна стаяць на варце заходніх рубяжоў Краіны Саветаў.

І як у кроплі расы адбіваецца сонца, так і ў жыцці нашых воінскіх калектываў адлюстравана ідэйнае адзінства і брацтва народаў СССР.

У палку, якім я камандую, як і ў іншых воінскіх часцях акругі, нясуць сваю нялёгкую службу прадстаўнікі многіх нацыянальнасцей краіны. Розныя па армейскаму вопыту, тэмпераменту і характару, яны аб'яднаны агульнасцю духоўных інтарэсаў, мэт і задач, якія стаяць перад узброенымі абаронцамі Радзімы.

Салдацкая дружба і таварыскасць дапамагаюць воінам дабівацца высокіх вынікаў у баявой і палітычнай падрыхтоўцы. Мы рады далажыць, што асабовы састаў войск акругі з гонарам выканаў высокія юбілейныя сацыялістычныя абавязацельствы. На прайшоўшых тактычных вучэннях і стрэльбах, на падагульняючай праверцы ён прадэманстраваў узрослае майстэрства, трывалую ідэйную і псіхалагічную загартоўку.

Верныя запаветам У. І. Леніна, свята выконваючы наказ партыі, воіны Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі настойліва спасцігаюць навуку перамагаць, гатовы даць сакрушальны адпор любому агрэсару.

На бацькоўскую любоў народа, нястомныя клопаты партыі і ўрада аб нас — узброеных абаронцах Радзімы — мы адказваем: «Служым Савецкаму Саюзу!»

Няхай жыве 70-годдзе Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі!

Няхай жыве гераічны савецкі народ і яго выпрабаваны авангард — ленінская Камуністычная партыя Савецкага Саюза!

## *Урачыстае пасяджэнне ў Мінску*

# ВЕРНАСЦЬ ВЯЛІКАЙ СПРАВЕ ЛЕНІНА

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1).**

Лепшым з лепшых працаўнікоў даверана ўнесці іх. Гэта каваль-штампоўшчык Мінскага аўтамабільнага завода, член ЦК КПСС, дэпутат Вярхоўнага Савета СССР, Герой Сацыялістычнай Працы **Я. А. Шуляк**, настаўніца СШ № 2 Лепеля, Герой Сацыялістычнай Працы, заслужаны настаўнік БССР **А. Ф. Занько**, старшыня калгаса імя Горкага Пінскага раёна, Герой Сацыялістычнай Працы **В. М. Гарошка**, брыгадзір будтрэста № 12 Магілёва, Герой Сацыялістычнай Працы, заслужаны будаўнік БССР **А. П. Старавойтаў**, даярка саўгаса «Брылёва» Гомельскага раёна, Герой Сацыялістычнай Працы **З. Д. Мохарава**, галоўурач Высачанскай участковай бальніцы Лёзненскага раёна, Герой Сацыялістычнай Працы **А. Г. Антонаў**, апаратчык вытворчага аб'яднання «Азот» імя С. О. Прытыцкага, Герой Сацыялістычнай Працы **М. Б. Дукшта**, аператар машыннага даення племзавода «Прамень» Бярозаўскага раёна, поўны кавалер ордэна Працоўнай Славы **Я. У. Якушык**, брыгадзір слесараў-рамонтнікаў інструментальнага цэха № 1 вытворчага аб'яднання «Гомсельмаш», Герой Сацыялістычнай Працы, заслужаны машынабудаўнік БССР **П. К. Кавалёў**, вадзіцель аўтапарка № 3 Брэста, Герой Сацыялістычнай Працы **В. І. Грэсь**, слесар Свіслацкага райсельгасэнерга, кавалер ордэна Чырвонай Зоркі **Р. М. Смактуновіч**, ткачыха Магілёўскай стужкаткацкай фабрыкі, поўны кавалер ордэна Працоўнай Славы **Н. І. Дзенісенка**, трактарыст калгаса «Беларусь» Любанскага раёна, Герой Сацыялістычнай Працы **У. Ц. Астрэйка**, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, поўны кавалер ордэна Славы трох ступеней **М. Н. Кобзеў**, памочнік брыгадзіра паляводчай брыгады саўгаса «Падбярэззе» Валожынскага раёна, Герой Сацыялістычнай Працы **З. М. Задора**, звеннявы механізаванага звяна па вырошчванню бульбы калгаса «Чырвоная зорка» Стаўбцоўскага раёна, Герой Сацыялістычнай Працы **Р. Л. Ванькові́ч**, галоўурач абласнога дзіцячага санаторыя «Пухавічы», кавалер ордэнаў Леніна і «Знак Пашаны», заслужаны ўрач БССР **А. М. Усціновіч**, генеральны дырэктар Мінскага вытворчага аб'яднання па птушкагадоўлі, Герой Сацыялістычнай Працы, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР **К. М. Дубоўскі**, мадэльшчык вытворчага аб'яднання «Мінскі трактарны завод імя У. І. Леніна», поўны кавалер ордэна Працоўнай Славы **Ю. М. Вахромін**, брыгадзір комплекснай брыгады будтрэста № 1, Герой Сацыялістычнай Працы, заслужаны будаўнік БССР, ганаровы грамадзянін горада-героя Мінска **А. М. Громаў**, акадэмік АН БССР, дырэктар Інстытута генетыкі і цыталогіі Акадэміі навук БССР, кавалер ордэнаў Леніна, Працоўнага Чырвонага Сцяга, заслужаны дзеяч навукі БССР **Л. У. Хатылёва**, фрэзероўшчык Мінскага вытворчага аб'яднання імя У. І. Леніна, Герой Сацыялістычнай Працы **А. І. Гарошка**, асістэнт Мінскага радыётэхнічнага інстытута, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР **Г. У. Ерамееў**, маляр Мінскага завода халадзільнікаў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР **В. Ц. Ляпешка**, фрэзероўшчык Мінскага мотавелазавода, поўны кавалер ордэна Працоўнай Славы, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР **Г. Г. Сташкевіч**, брыгадзір комплекснай брыгады вытворчага будаўніча-мантажнага аб'яднання «Мінскпрамбуд», Герой Сацыялістычнай Працы **Л. А. Тозік**, актрыса Беларускага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы, народная артыстка БССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР, дэлегат XXVII з'езда КПСС **М. Г. Захарэвіч**, падпалкоўнік **М. М. Астапенка**, падпалкоўнік **М. Л. Курачкін**, падпалкоўнік **А. І. Дароненка**.

Сцягі ўстанаўліваюцца на сцэне, ля іх выстройваецца ганаровая варта. Сцяганосцы займаюць месца ў прэзідыуме.

Старшынствуючы Г. С. Таразевіч дае слова для даклада першаму сакратару ЦК КП Беларусі **Я. Я. Сакалову**.

Даклад Я. Я. Сакалова быў выслухан з вялікай увагай і неаднаразова перапыняўся апладысментамі.

У рабоце ўрачыстага пасяджэння прымаюць удзел прадстаўнікі таго пакалення савецкіх людзей, якое непасрэдна змагалася за ўстанаўленне і ўмацаванне Савецкай улады, абараняла заваёвы сацыялізму ад знешніх і ўнутраных ворагаў. Ад ветэранаў старшынствуючы дае слова члену КПСС з 1920 года, актыўнаму ўдзельніку грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў, старшыні Савета ветэранаў партыі Першамайскага раёна Мінска **І. А. Ласкіну**. Яго выступленне было цёпла сустрэта прысутнымі. Ад прадстаўнікоў мнагатысячнага атрада рабочага класа выступіў член ЦК КПСС, дэпутат Вярхоўнага Савета СССР, Герой Сацыялістычнай Працы, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР, каваль-штампоўшчык Мінскага аўтамабільнага завода **Я. А. Шуляк**.

Выступае кіраўнік дэлегацыі Плоцкага ваяводства Польскай Народнай Рэспублікі, старшыня ваяводскай кантрольна-рэвізійнай камісіі Польскай аб'яднанай рабочай партыі **А. Урубель**:

— Ад імя партыйнай арганізацыі, кіраўніцтва, працоўных Плоцкага ваяводства сардэчна дзякую за запрашэнне прыняць удзел у вашым свяце, прысвечаным гадавіне падзеі, якая змяніла ход гісторыі.

Камунізм—гэта наша мэта, і ў імя руху да гэтай мэты, у адпаведнасці з ідэямі Леніна, у інтарэсах працоўных, ажыццяўляем мы рэформы і перабудову ў нашай краіне.

Смелыя і дальнабачныя ініцыятывы Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова натхняюць на актыўныя дзеянні ў імя вызвалення чалавецтва ад ядзернай пагрозы. З глыбокім задавальненнем мы вітаем маючае адбыцца падпісанне Савецка-амерыканскага пагаднення аб ліквідацыі ракет сярэдняй і меншай дальнасці.

Мы з'яўляемся сведкамі і *творцамі новага тыпу савецка-польскага супрацоўніцтва*. Сёння, калі тут, у Мінску, мы гаворым аб дружбе, у нас у Плоцку праходзяць шматлікія мерапрыемствы ў рамках Дзён дружбы. Мы прымаем вашу афіцыяльную дэлегацыю і калектывы, *папулярызуючыя дасягненні Мінскай вобласці*. Расшыраецца гандлёвы абмен, умацоўваюцца прамыя сувязі паміж прадпрыемствамі. Усё больш значныя становяцца матэрыяльныя эфекты супрацоўніцтва. Гэта—доказы ўмацавання дружбы паміж нашымі народамі. Гэта—сучасны, практычны доказ жыццёвасці ідэй Леніна. Гэта—доказ таго, што мы ідзём правільным шляхам.

Пасля перапынку старшынствуючы — другі сакратар ЦК КПБ М. С. Ігруноў паведаміў, што ў рабоце ўрачыстага пасяджэння прымае ўдзел вялікая дэлегацыя народнай інтэлігенцыі. Слова атрымлівае член ЦК Кампартыі Беларусі, член Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, лаўрэат Ленінскай прэміі, прэзідэнт Акадэміі навук БССР **У. П. Платонаў**.

Разам з рабочым класам, інтэлігенцыяй на пярэднім краі барацьбы за перабудову ідуць працаўнікі аграрамысловага комплексу рэспублікі. Ад іх імя прысутных вітае член ЦК Кампартыі Беларусі, Герой Сацыялістычнай Працы, дырэктар дзяржплемзавода «Чырвоная зорка» Клецкага раёна **І. І. Плаўскі**.

На ўрачыстае пасяджэнне прыбылі воіны Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі. Гучыць мелодыя марша. Усе ўстаюць. Пад апладысменты ў залу з разгорнутымі баявымі сцягамі ўваходзяць воіны — *прадстаўнікі часцей акругі*. З прывітаннем выступіў камандзір палка **Ю. А. Кошалеў**.

Старшынствуючы дае слова кіраўніку дэлегацыі акругі Патсдам Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, другому сакратару Патсдамскага акруговага камітэта Сацыялістычнай адзінай партыі Германіі **У. Шлаак**у:

— Ад імя грамадзян Патсдамскай акругі Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, ад больш чым ста пяці тысяч *камуністаў акруговай арганізацыі* Сацыялістычнай адзінай партыі Германіі передаю вам гарачае прывітанне і брацкае віншаванне з выпадку 70-годдзя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

ГДР, першая сацыялістычная германская дзяржава рабочых і сялян, з'яўляецца таксама дзецішчам Кастрычніка. У свядомасці працоўных Патсдамскай акругі назаўсёды захоўваецца тое, што разгром гітлераўскага фашызму, які запатрабаваў ад Савецкага Саюза, і *асабліва ад народа Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі*, велізарных ахвяр, даў гістарычны шанц пачаць будаўніцтва на нямецкай зямлі новага сацыялістычнага грамадства. З брацкай дапамогай КПСС і савецкага народа мы *рэалізавалі гэты шанц*. Пастаянная дружба з Савецкім Саюзам з'яўляецца адным з нашых вялікіх дасягненняў і адной з рашаючых асноў дасягнутых і будучых поспехаў. Яна — у працоўным жыцці і ў быце працоўных Патсдамскай акругі, звязанай разнастайнымі, трывалымі вузамі дружбы з вашым працвітаючым горадам і Мінскай вобласцю.

Слова атрымлівае кіраўнік дэлегацыі правінцыі Кунар Дэмакратычнай Рэспублікі Афганістан, загадчык аддзела правінцыяльнага *камітэта партыі* таварыш **Мафад**:

— Дарагія таварышы! Сябры!

Народы Афганістана ўспрынялі перамогу Кастрычніцкай рэвалюцыі як вялікую падзею. *Ваша краіна і правадыр рэвалюцыі* У. І. Ленін першымі афіцыяльна прызналі Афганістан свабодным. У гісторыі нашай дружбы не было рознагалоссяў, яна моцная, як сталь, і высокая, як вяршыні гор. Ніхто не зможа разбурыць яе, бо яна будуецца на аснове ўзаемаразумення. Савецкі Саюз заўсёды дапамагаў і дапамагае афганскаму народу ў гэтыя цяжкія дні. Мы ніколі не забудзем імёны герояў-інтэрнацыяналістаў, якія не шкадуючы свайго жыцця забяспечваюць мірную працоўную дзейнасць рабочых і сялян нашай рэспублікі, нармальнае навучанне дзяцей у школах.

Карыстаючыся выпадкам, дазвольце ад імя насельніцтва правінцыі Кунар і Лагман падзякаваць працоўным Мінскай і Гродзенскай абласцей за бязвыплатна аказваемую дапамогу ў развіцці сельскай гаспадаркі, будаўніцтва, аховы здароўя, народнай асветы, культуры і іншых галін.

Удзельнікаў урачыстага пасяджэння вітаюць камсамольцы і піянеры, юнакі і дзяўчаты сталіцы рэспублікі. З «Песняй аб трывожнай маладосці» яны ўносяць у залу сцягі рэспубліканскай камсамольскай і піянерскай арганізацый.

Ад імя рабочай, калгаснай і навуковай моладзі Беларусі выступілі брыгадзір слесараў Мінскага аўтазавода **Васіль Кулажэнка**, аператар машыннага даення калгаса імя Гастэлы *Мінскага раёна* **Людміла Віторская**, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута фізікі АН БССР **Валерый Козіч**.

У тэатралізаваным тэматычным прадстаўленні удзельнічаюць маладзёжныя і дзіцячыя музычныя і танцавальныя ансамблі Мінска. *Як клятва на вернасць Радзіме, як сыноўская ўдзячнасць бацькам і дзядам прагучала ў выкананні былога воіна-інтэрнацыяналіста*, студэнта Беларускага інстытута народнай гаспадаркі Віктара Барылы напісаная ім песня «*Дзякуй вам, ветэраны!*»

З заключным словам выступае першы сакратар Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі **Я. Я. Сакалоў**. Ён гаворыць:

— Дарагія таварышы!

Наша ўрачыстае пасяджэнне, прысвечанае 70-годдзю Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, з'явілася пераканаўчым сведчаннем вернасці камуністаў, усіх працоўных Савецкай Беларусі справе Кастрычніка, запаветам вялікага Леніна. Яно прадэманстравала іх маналітную згуртаванасць вакол Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

Яно стала новым яркім пацвярджэннем таго, што працаўнікі гарадоў і вёсак рэспублікі аднадушна падтрымліваюць стратэгічны курс XXVII з'езда КПСС на рэвалюцыйнае абнаўленне савецкага грамадства, паскарэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны, на стварэнне ўсеабдымнай сістэмы міжнароднай бяспекі, умацаванне міру ва ўсім свеце.

Усіх нас да глыбіні душы ўсхвалявалі пранікнёныя, поўныя аптымізму выступленні прадстаўнікоў слаўных ветэранаў партыі і рэвалюцыі, вайны і працы, гераічнага рабочага класа і калгаснага сялянства, народнай інтэлігенцыі, доблесных Узброеных Сіл, нашай выдатнай моладзі.

У гэтых выступленнях выказана гордасць за велізарныя дасягненні сацыялізму, у поўную сілу прагучала рашучасць працоўных рэспублікі паскараць рэвалюцыйны поступ Радзімы Кастрычніка, памнажаць уклад у перабудову і паскарэнне.

Сардэчнае дзякуй вам, дарагія таварышы, а ў вашай асобе ўсім рабочым і сялянам, інтэлігенцыі і воінам Савецкай Арміі, мужчынам і жанчынам, юнакам і дзяўчатам, і за зробленае на карысць Айчыны, і за выказаную тут мабілізуючую ўпэўненасць у поспеху нашай агульнай рэвалюцыйнай справы.

Ад усёй душы мы дзякуем дарагім зарубежным гасцям за цёплыя віншаванні і добрыя пажаданні працоўным Беларусі ў дасягненні новых вышынь у эканамічным, сацыяльным і духоўным развіцці. Мы жадаем нашым сябрам па класу вялікіх поспехаў і здзяйсненняў у справе пабудовы новага грамадства.

Самая трывалая гарантыя поспеху праходзячых у краіне рэвалюцыйных пераўтварэнняў — жывая творчасць мас, актывізацыя асобы, чалавечага фактара, дэмакратызацыя грамадскага жыцця, сацыялістычнае самакіраванне, раскрыццё велізарных сацыяльных рэсурсаў сацыялізму.

Дастойна працягваць справу Кастрычніка — значыць павышаць асабістую адказнасць за даручаны ўчастак работы, сканцэнтраваць намаганні ўсіх і кожнага на важнейшых напрамках перабудовы, на безумоўным выкананні і перавыкананні планаў эканамічнага і сацыяльнага развіцця ў імя *далейшага працвітання нашай* многанацыянальнай Радзімы.

Дастойна працягваць справу Кастрычніка — значыць паглыбляць і развіваць сацыялістычную дэмакратыю, яшчэ больш актыўна прыцягваць людзей да кіравання вытворчымі і грамадскімі працэсамі, умацоўваць духоўны і маральны патэнцыял савецкага грамадства, берагчы, як зрэнку вока, наш найвялікшы здабытак — дружбу народаў Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Дастойна працягваць справу Кастрычніка — значыць памнажаць перамены ў эканоміцы, настойліва пераўтвараць сістэму кіравання ёю, увесь гаспадарчы механізм, расшыраць самастойнасць аб'яднанняў і прадпрыемстваў, узмацняць увагу да калектыўных форм арганізацыі працы, яе матэрыяльных, сацыяльна-культурных і маральна-псіхалагічных стымулаў.

Дастойна працягваць справу Кастрычніка — значыць заўсёды і ва ўсім кіравацца галоўным прынцыпам сацыялізму: «*Усё ў імя чалавека, усё для шчасця чалавека*».

Мэты партыі, савецкага народа, якія ідуць па шляху рэвалюцыйнай перабудовы, смелыя.

Але мы верым: яны абавязкова ажыццёвяцца, як сталі рэальнасцю мары бальшавікоў-ленінцаў, узняўшых пралетарыят, працоўных Расіі на барацьбу са старым светам у кастрычніку 1917-га.

Надзейным маяком, крыніцай сіл і натхнення будзе служыць для ўсіх нас нягаснучае свята Кастрычніка, невычэрпная энергія ленінскай думкі, нястомная дзейнасць Камуністычнай партыі!

Няхай жыве Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя!

Няхай жыве гераічны савецкі народ і яго ленінская Камуністычная партыя!

●

Урачыстае пасяджэнне Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі, Вярхоўнага Савета БССР, Мінскіх абкома і гаркома партыі, абласнога і гарадскога Саветаў народных дэпутатаў, прысвечанае 70-й гадавіне Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, аб'яўляецца закрытым. Зала стоячы выконвае партыйны гімн «Інтэрнацыянал».

У заключэнне адбыўся вялікі святочны канцэрт майстроў мастацтваў Беларусі.

**БЕЛТА.**




# Іван ШАМЯКІН: «ЧЫТАЮ ЛЕНІНА...»



**НАПЯРЭДАДНІ СЯМІДЗЕСЯЦІГАДОВАГА ЮБІЛЕЮ ВЯЛІКАГА КАСТРЫЧНІКА НАШ КАРЭСПАНДЭНТ ГУТАРЫЎ З НАРОДНЫМ ПІСЬМЕННІКАМ БЕЛАРУСІ, ГЕРОЕМ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ ПРАЦЫ ІВАНАМ ПЯТРОВІЧАМ ШАМЯКІНЫМ, ПРАЗ ТВОРЧАСЦЬ ЯКОГА ВЫРАЗНА ПРАХОДЗІЦЬ ЛЕНІНСКАЯ ТЭМА, ТЭМА РЭВАЛЮЦЫІ.**

**— Адна з характэрных адзнак нашага часу — выбух цікавасці да гісторыі дзяржавы, падзей Кастрычніцкай рэвалюцыі, станаўлення Савецкай улады. Гісторыяй гэтай мы законна ганарымся. Але было на пройдзеным шляху і такое, што выклікае боль. Боль гэты гоіць толькі праўда. Уся. Трэба яе ведаць, каб не паўтараць трагічных памылак мінулага.**

**Свой раман «Петраград — Брэст» вы, Іван Пятровіч, пачалі пісаць тады, калі многія падзеі Кастрычніцкай рэвалюцыі, грамадзянскай вайны айчыннай гістарыяграфіяй былі сфальсіфікаваны, скажоны, у той час, як сапраўдныя дакументы — сведкі рэвалюцыйных падзей былі схаваны ад «пабочнага» вока за сямю пячаткамі.**

— Працуючы над раманам «Петраград — Брэст» і гістарычнай драмай аб распрацоўцы Леніным у жніўні — кастрычніку 1917 года стратэгіі ўзброенага паўстання, я неаднойчы прыходзіў да думкі, як мала і слаба мы вучылі гісторыю, як скажона многія падзеі Кастрычніка нам выкладалі некаторыя «масцітыя» вучоныя-гісторыкі. Засілле іх прац пры адначасовай забароне доступу да матэрыялаў, дакументаў, якія непасрэдна адлюстроўвалі падзеі рэвалюцыі, і вяло да прымітыўных, наіўных поглядаў на многія гістарычныя падзеі. Я вельмі здзівіўся, напрыклад, калі сутыкнуўся з такім фактам. Каб пазнаёміцца з падшыўкай «Правды» за 1918 год, год заключэння Брэсцкага міру, трэба было дабівацца ў розных інстанцыях дазволу карыстацца матэрыяламі архіваў. Я так і не разумею, навошта было хаваць «Правду», нашу бальшавіцкую «Правду»? Мо з-за таго, што там былі надрукаваны артыкулы не толькі Леніна, але і Бухарына, Урыцкага, Ломава, Калантай, Радэка, якія выступалі супраць заключэння Брэсцкага міру?

У сачыненнях У. І. Леніна можна знайсці сюжэты напружанай барацьбы з таварышамі па партыі, якія тады памыляліся, а ў падручніках, шматлікіх даследаваннях пра гэта няма ні слова. Успамінаю спрэчку з некаторымі рэдактарамі майго рамана «Петраград — Брэст», якія настойвалі, каб я не пісаў пра памылковую пазіцыю такіх выдатных дзеячаў Камуністычнай партыі, як Ф. Э. Дзяржынскі і М. С. Урыцкі, у адносінах да заключэння Брэсцкага міру. Маўляў, навошта кідаць на іх цень. Але чаму, скажыце, цень? Яны былі сумленнымі камуністамі і шчыра выказвалі сваё разуменне тагачаснай абстаноўкі ў краіне і ў свеце. Ім здавалася, што пасля трыумфальнага шэсця Кастрычніка ў краіне трыумф чакае рэвалюцыю і па ўсёй Еўропе. Памыляліся? Так. Выказваліся супраць пазіцыі Леніна? Так. Але ж і пасля гэтага заставаліся бліжэйшымі саратнікамі Ільіча.

**— Хачу закрануць адно складанае, я б сказаў, тонкае і далікатнае пытанне — адлюстраванне вобраза Леніна ў нашай літаратуры, у розных жанрах мастацтва. Ці не здаецца вам, Іван Пятровіч, што многія аўтары ленінскай тэмы ідуць па шляху, так сказаць, кананізацыі фігуры правадыра рэвалюцыі? Успомнім хоць бы некаторыя скульптурныя партрэты Леніна. Зроблены яны пераважна па аднаму шаблону. Мне часам здаецца, што некаторыя скульптары быццам знарок пазбаўляюць вобраз правадыра адзнак жывога, з плоці і крыві, чалавека. Калі я бачу такую скульптуру, перад маім паглядам адразу ўзнікаюць малюнкі з адлюстраваннем Ільіча (яны неаднойчы публікаваліся), зробленыя пры яго жыцці з натуры. Якую гаму пачуццяў выказвае тут твар Леніна! І які ён тут непадобны на нешта аднамернае, што выдаецца за вобраз правадыра ў многіх творах літаратуры і мастацтва. Дарэчы, нядаўна ў «Московских новостях» быў змешчаны артыкул вядомага кінадраматурга Я. Габрыловіча, аўтара, між іншым, вялікай кіналенініяны, які са смуткам пісаў, што «...існуе нейкі стэрэатып вобраза Леніна, які выпрацаваўся па цэлым шэрагу прычын... На самай справе, гэта, па маім разуменні, быў чалавек зусім іншы. Як і ўсякі чалавек, ён быў больш шматаблічны, больш супярэчлівы, чым гэты кананічны вобраз. Самае дрэннае, што зрабіла наша мастацтва,— гэта кананізацыя вялікіх людзей, калі ігнаруецца самае цікавае, дзіўнае, супярэчлівае, чалавечае ў іх, ствараецца нешта іконападобнае».**

— Пытанне вельмі складанае. Вядома, кожнаму мастаку, які ўзяў на сябе вялікую адказнасць пісаць пра Леніна, пра рэвалюцыю, хочацца стварыць шматмерны, жывы вобраз. Але тут яго падсцерагае небяспека дадумвання розных калізій і абставін, у якіх змог бы праявіцца характар Ільіча. Калі гэта тычыцца любой іншай гістарычнай асобы, асабліва аддаленай ад нас па часе, я дапускаю такую, так сказаць, вольнасць, без яе не можа абысціся гістарычны раман. Але гаворка ідзе пра Леніна, тут патрабуецца, на маю думку, максімум дакладнасці, такту, далікатнасці.

Я лічу, што ў мастака, які прысвяціў сябе ленінскай тэме, галоўная крыніца натхнення — творы правадыра. Такая, напрыклад, перадгісторыя аповесці «Эшалон прайшоў». У 50-ым томе Збору твораў У. І. Леніна прачытаў такую тэлеграму: «Орша. Камісару станцыі Орша Івашчанку. Дзякую за пропуск 36-ці вагонаў у Германію. Гэта для нашых пакутуючых ваеннапалонных. Прашу абвергнуць увесь гнюсны паклёп і помніць, што мы павінны дапамагаць нашым ваеннапалонным з усіх сіл». Гэтай тэлеграме, адпраўленай 4 ліпеня 1918 года, папярэднічалі драматычныя падзеі (пра іх я даведаўся, прачытаўшы пасля многія дакументы). У Германіі заставалася каля 2-х мільёнаў рускіх палонных, якія фактычна былі асуджаны на галодную смерць. Па ініцыятыве Ільіча і быў пасланы эшалон з хлебам гэтым ваеннапалонным. У Оршы эсэры спрабавалі затрымаць эшалон пад фальшывым аргументам, што, маўляў, хлеб не дойдзе да ваеннапалонных, а будзе скарыстаны немцамі. Але камісар станцыі, дубровенскі хлопец, бальшавік Івашчанка зрабіў усё неабходнае, каб эшалон быў адпраўлены па прызначэнні. У гэтай аповесці было некалькі сцэн з вобразам Уладзіміра Ільіча.

**— Прыклад сапраўды цікавы, але, на жаль, не ўсе ленінскія дакументы ўвайшлі ў поўны збор яго твораў. Людзі, якім у свой час было даручана складанне поўнага збору твораў, відаць, па загадзе НЕКАГА прасейвалі ленінскія дакументы праз спецыяльнае рэшата.**

**Іван Пятровіч, як я разумею, распрацоўваючы тэму рэвалюцыі, ленінскую тэму, вы карысталіся і мемуарнай літаратурай відных бальшавікоў. Па гэтых успамінах, відаць, сапраўды можна было скласці больш поўнае ўяўленне аб асобе Леніна, аб яго чалавечай сутнасці.**

— Так, мне пашчасціла перачытаць некаторыя ўспаміны старых рэвалюцыянераў. Я пазнаёміўся з дачкой такога вядомага дзеяча Кастрычніка, як Падвойскі. Яна дала мне прачытаць яго ўспаміны. Праўда, заўважыўшы, што гэтыя ўспаміны, у свой час надрукаваныя ў адным з часопісаў, вельмі адрозніваліся ад прадстаўленага арыгінала. Трэба сказаць, што ўспаміны многіх старых бальшавікоў таксама не былі асабліва даступнымі. Я лічу, што ў наш час, час галоснасці трэба адкрыць усе дакументы, звязаныя з гісторыяй Кастрычніцкай рэвалюцыі, калектывізацыі, культам асобы, масавымі рэпрэсіямі. Ды і дакументы Вялікай Айчыннай вайны час ужо рассакрэчваць. У нашай гісторыі не павінна быць белых плям.

Наогул, я хачу сказаць, што мы мала пісалі і пішам пра рэвалюцыю, грамадзянскую вайну, першыя гады станаўлення Савецкай улады ў Беларусі. Праўда, у 20-ыя гады такія кнігі з'яўляліся. Узяць хоць бы творы Гарэцкага, Чарота, Купалы, Коласа... Але паступова тэма гэтая пачала ўсё менш цікавіць літаратараў. Пасля Айчыннай вайны, у якой удзельнічала большасць тагачаснай пісьменніцкай арганізацыі, творчасць літаратараў, натуральна, была скіравана на паказ гераічнай барацьбы савецкага народа супраць гітлераўскай Германіі. Але ж пасля вайны прайшло ўжо больш як сорак гадоў. Час вымагае азірнуцца на гістарычны шлях краіны, звярнуцца да нашых рэвалюцыйных вытокаў. Тым больш, што Беларусь была ў цэнтры рэвалюцыйных падзей. Тут праходзіў Заходні фронт, стаялі рэвалюцыйныя і контррэвалюцыйныя вайсковыя часці, у прыватнасці, казацкія. Менавіта мясцовым бальшавікам давялося правесці вялікую работу, каб не дапусціць адпраўкі казакаў па загадзе Керанскага ў Петраград для падаўлення рэвалюцыі.

Хачу падкрэсліць, што зварот да тэмы Кастрычніка, да вобраза Леніна надзвычай узбагаціў мяне. Тэм, сюжэтаў, якія даюць творы Ільіча, дакументы рэвалюцыі, хапіла б не на адзін раман.

У мяне ёсць задума сустрэцца з нашымі маладымі літаратарамі і заклікаць іх да актыўнай распрацоўкі тэмы Кастрычніка. Тэмы высакароднай і ўдзячнай.

**Гутарыў М. ЗАМСКІ.**

ПЛЁН РАЗВІЦЦЯ нашай літаратуры за амаль 70-гадовы перыяд — такі ж рэальны, як нашыя новыя клопаты, а — галоўнае—ён надзвычай багаты, хоць і бачыцца не толькі на скрыжалях часу, поўнага энтузіязму народа-працаўніка, гераізму народа-воіна, але і пазначанага шэрагам зігзагаў на яго шляху, аплачаных не толькі мазалём і потам, а і трагічнасцю ахвяраў. І тое, што сёння бачыцца з вышыні 70-годдзя Кастрычніка, бачыцца не тое што з птушынага лёту,—бачыцца ва ўсёй гістарычнай маштабнасці, складанасці, рэльефнасці, завершанасці ці незавершанасці, абарванасці, вяртаннях на кругі свае на вышэйшым узроўні развіцця грамадства, літаратуры.

У беларускай літаратуры, як і ў кожнай з іншых літаратур нашай шматнацыянальнай краіны, былі свае гістарычныя подступы да Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, сваё яднанне з ёю у часе — у сваім мужненні як адной з маладых літаратур на літаратурнай карце свету, у сваім ідэйна-мастацкім росце, у сваім выхадзе на сусветную арэну, якім беларуская літаратура абавязана перш за ўсё Вялікаму Кастрычніку.

У дарэвалюцыйнай творчасці Янкі Купалы матыў «І беларус можа змясціцца ў сям'і нялічанай славян» быў адным з дамінуючых, быў у Купалавай ідэйна-эстэтычнай праграме не толькі *патэтычным, але і палітычным*, праграмным выяўленнем яго сацыяльнай рэвалюцыйнасці і нацыянальна-вызва*ленчай накіраванасці*. І быў гэты матыў, па-першае, антыабласным, накіраваным супраць тых варожых беларускаму народу і яго новай літаратуры сіл, якія ў самой новай літаратуры на беларускай гаворцы, як яны кваліфікавалі беларускую мову, бачылі не больш як з'яву абласную, перыферыйную, цікавую хіба што з гісторыка-філалагічнага боку як паказчык забытай даўніны, праславяншчыны. Менавіта дзеля будучых вучоных - філолагаў, славістаў занатоўваў і выдаваў свае кнігі з беларускімі народнымі песнямі Ян Чачот, і яго погляд на беларускую мову аказаўся настолькі жывучы, што пераадольваць яго давялося Францішку Багушэвічу і асабліва Янку Купалу. Прычым гэты погляд падзялялі не толькі махровыя рэакцыянеры ад палітыкі, царскія чыноўнікі-службісты, выхадцы з мясцовага беларускага асяроддзя — адрачэнцы, але і некаторыя прадстаўнікі перадавой славістыкі, як, напрыклад, акадэмік Я. Ф. Карскі, які яшчэ на чацвёртым годзе перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі сумняваўся, што беларуская мова можа стаць развітой мовай літаратуры, навукі, грамадскасці. Якраз гэтыя свае сумненні Я. Ф. Карскі выказваў у прадмове да сваёй фундаментальнай працы «Беларусы», відаць, больш гледзячы на яе як на эпітафію па беларусах, чым як на глебу для далейшага развіцця іх літаратуры, культуры, гісторыі.

Стаўленне да мовы нашага народа Яна Чачота і акадэміка Я. Ф. Карскага з гісторыі не апусціш, тым больш, што гэта іх адмоўная пастава была звязана з самай пільнай увагай і павагай да беларусаў, да іх літаратуры і культуры. Абодва дзеячы былі вялікія сябры нашага народа, абодва паспрыялі справе і ўзнікнення, як Ян Чачот, і шырокага станаўлення, як акадэмік Я. Ф. Карскі, ужо ў савецкі час, не толькі беларускай літаратуры, але і беларускай савецкай філалогіі, культуры ўвогуле. Ды, вядома ж, і не без пэўных падстаў менавіта так, а не іначай думалі пра лёс нашай мовы і літаратуры і Ян Чачот і акадэмік Я. Ф. Карскі. Янка Купала не мог не ведаць пра падобныя сумненні:

**Спалі вас, песні, дым чырвоны,**
**Чым мае лёс такі спаткаць!**

Вялікі Кастрычнік аказаўся вялікім саюзнікам усіх маладых перадавых сіл прыгнечаных народаў былой царскай Расіі, у тым ліку саюзнікам і беларускай літаратуры, якая натхнёным словам сваіх рэвалюцыйна-дэмакратычных паэтаў, сваёй рэвалюцыйнай і народнай інтэлігенцыі рыхтавала свой народ да рэвалюцыі, набліжала яго да яе, уздымала з прадвечнага сну, з патрыярхальнасці, з сацыяльнай непісьменнасці, грамадскай аморфнасці.

У гэтым сэнсе перадавая беларуская літаратура дакастрычніцкага перыяду, асабліва пачатку XX стагоддзя, і бачыцца ў ясным святле пярэдадня Кастрычніка, на хвалях гісторыі і палітычных настрояў, што папярэджвалі яго, былі яго непасрэдным прадвеснем, былі каля яго перадвытокаў і непасрэдных вытокаў. Бо новая беларуская літаратура ў міжрэвалюцыйныя гады свайго развіцця — між рэвалюцыяй 1905—1907 гадоў і Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыяй 1917 года, проста ўжо нават з тае прычыны, што яна развівалася ў прамежку паміж Рэвалюцыямі, не магла быць пазбаўленай рэвалюцыйнасці, не магла, вылоньваючыся з рэвалюцыі, не марыць аб яе перамозе.

У новую рэвалюцыю, па зямлю, волю, бацькаўшчыну, маладую Беларусь клікалі свой народ Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч. Пясняркa рэвалюцыйнай героікі 1905 — 1907 гадоў паэтэса Цётка таксама *прадаўжала клікаць* яго сваімі вершамі «Мора» («рэвалюцыя народная»), «Хрэст на свабоду», як і зборнікамі, выдадзенымі ў *эміграцыі* каля Львова,— «Скрыпачкай беларускай» і «Хрэстам на свабоду». А ў 1912 годзе супрацоўнікам *ленінскай* «Праўды» становіцца беларускі паэт Цішка Гартны; а ў кастрычніку 1917 года сярод тых, хто штурмаваў Зімні палац у Пецярбурзе, аказваецца і беларускі паэт-нашанівец, марак Балтыйскага флоту Алесь Гурло.

**Нас нарадзіў Кастрычнік,**
**Снежань параднiў,—**

скажа праз гады народны паэт Беларусі Пімен Панчанка, маючы на ўвазе снежань 1922 года — года заснавання Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. І гэтым Вялікі Кастрычнік не толькі парадніў народы нашай сёння неабсяжнай сацыялістычнай Бацькаўшчыны,— ён увогуле ўзняў Янку Купалу, а з ім і ўсю беларускую літаратуру з узроўню агульнаславянскага на форум агульначалавечы. І калі славуты купалаўскі верш «Маладая Беларусь» у зборніку «Шляхам жыцця» (Пецярбург, 1913) гучаў у паэта апошнімі радкамі так:

**Занімай, Беларусь Маладая мая,**
**Свой пачэсны пасад між славянамі!,**

то цяпер ужо прыйшла гадзіна гучаць апошняму радку гэтага верша інакш:

**Занімай, Беларусь маладая мая,**
**Свой пачэсны пасад між народамі!**

Між народамі!..

У краіне рэспублік роўных з роўнымі Беларусь — роўная з роўнымі, а літаратура яе народа выходзіць на форум сусветнай публічнасці. Выходзіць дзякуючы Вялікаму Кастрычніку. Купалаўскае паэтычнае слова станавілася выявай сацыяльнай і палітычнай сапраўднасці —рэальнай перамогі ленінскай нацыянальнай палітыкі.

Перамога ленінскай нацыянальнай палітыкі давалася няпроста. Ды палітыка гэта не магла не перамагчы, бо яна — а не парушэнні яе — выяўляла праўду Кастрычніка, сацыяльную і нацыянальную справядлівасць, ім сцверджаныя — пры перакрэсліванні ўсіх сацыяльных і нацыянальных крыўдаў як гістарычных, так і сучасных — дзеля поўнай свабоды, роўнасці, братэрства наро-

## З ДАЛЁКІХ І БЛІЗКІХ ДАРОГ

# «РЭВАЛЮЦЫЙНЫ ТРЫМАЙЦЕ КРОК!»

**Інтэрнацыянальны рэйд паэзіі Кіеў — Адэса**

Генадзь ПАШКОЎ

**Маё першае падарожжа па Дняпры пачыналася з Купалавых мясцін пад Оршай — ад Ляўкоў. Там і раку Славуцічам не назавеш: не адметная ні шырынёй, ні норавам, коціць паволі люстранку смарагдавымі паплавамі пад воблачнай навіссю дубоў і ляшчынніку.**

**Пасля Рагачова, дзе Дняпро, зліўшыся з прыгажуняй Друццю, робіцца суднаходным, адпраўлялася група пісьменнікаў на невялічкім цеплаходзе «Уладзімір Маякоўскі» ў літаратурна-агітацыйны рэйс Міру. На маршруце Рагачоў — Жлобін — Рэчыца — Лоеў было багата запамінальных сустрэч з людзьмі прыдняпроўскіх гарадоў і вёсак.**

**І вось сёлета новае падарожжа. На гэты раз — ад Кіева да Адэсы, туды, дзе Дняпро аддае ваду і нашых беларускіх рэк і крыніц ласкаваму Чарнамор'ю.**

**На цеплаходзе «XXV з'езд КПСС», што адшвартаваўся ў Кіеўскім рачным порце, я і распачынаю вандроўны дзённік.**

**14 верасня.** Раніцай перабіраемся з гасцініцы на цеплаход. Сёння пачынаецца інтэрнацыянальны літаратурна-прапагандысцкі рэйд паэзіі «Рэвалюцыйны трымайце крок!»

Акрамя невялікай пісьменніцкай групы, цеплаход абжываюць амаль чатырыста турыстаў, якія адпраўляюцца ў круіз. У іх свая праграма, у нас — свая, жыць і працаваць будзем аўтаномна.

З цеплахода едзем у Дом настаўніка, дзе адбудзецца ўрачыстае адкрыццё рэйда...

Кіраўнік групы, украінскі паэт, сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў СССР Дзмітро Паўлычка вядзе сустрэчу, знаёміць нас і са слухачамі, і паміж сабой. Праўда, мы і самі напярэдадні пазнаёміліся ў гасцініцы, дзякуючы Віталю Крыкуненку, кансультанту па ўкраінскай літаратуры пры СП СССР. У нашай групе: масквічы — паэт і перакладчык, сакратар праўлення СП РСФСР Міхаіл Гадэнка, паэты Пётр Кошаль, Людміла Шчыпахіна, Лідзія Грыгор'ева. З Малдавіі прыехала Ларына Балцяну, з Латвіі — Петарыс Зірніціс, з Літвы — Міколас Карчаўскас, з Казахстана — Аскар Егеўбаеў, з Узбекістана — Раім Фархадзі, з Азербайджана — Абдула Абас. Найболей украінцаў: Дзмітро Іваноў, Мікола Лукіў, Леанід Горлач, Марыя Ўлад, Іван Забіяка. З Масквы прыляцелі і два замежныя паэты: в'етнамка Нгуен Кханг Ці і Аніль Джанвіджай з Індыі.

Нгуен Кханг Ці, што ў перакладзе азначае Зялёная Галінка, вучыцца ў Літаратурным інстытуце ў Маскве. Яна і праўда нагадвае веснавую галінку — маленькая, цененькая, у зялёнай кофтачцы, ажно боязна, каб вецер не садзьмуў з палубы.

Нгуен Кханг Ці паспытала ў дзяцінстве жахаў вайны, пабывала ў напалмавым пекле. Шукаючы ратунку, яе сям'я пакінула горад і перабралася ў правінцыю. Ад смерці ўратаваліся, але гора мелі многа. Можа, таму і вершы Зялёнай Галінкі перапоўненыя прагай жыцця, яны, як жывіцай, зіхацяць расянай вобразнасцю, свецяцца чысцінёй жывых фарбаў.

Паэтэсе было чатырнаццаць, калі выйшаў яе першы зборнік вершаў «Пісьмо, адасланае з ветрам». Балючы паэтычны ліст нібы перасылаўся праз вогненную мяжу з Паўночнага В'етнама ў Паўднёвы, дзе жыла бабуля юнай паэтэсы і якую яна ні разу ў жыцці не бачыла.

Дзмітро Іваноў, паэт з Чарнігава, мажны, плячысты хлопец, былы падводнік, адразу ўзяўся апекаваць кволую госцю, жартуючы, называе яе дачушкай, а яна, прыняўшы такую гульню, кліча яго татам.

Аніль Джанвіджай нарадзіўся ў даволі заможнай сям'і. Атрымаў адукацыю ў Дэлі. Гэта, па яго словах, шчасціць далёка не кожнаму. Потым Аніль працаваў рэпарцёрам у газеце, вёў аддзел навін. Ён шмат працуе, перакладае савецкіх паэтаў. Дзякуючы Анілю ў Індыі, на мове хіндзі, чытаюць сёння паэзію Максіма Танка. Дарэчы, індус расказаў, што ў іхняй краіне пісьменнік за творы не атрымлівае ганарару.

...Між тым надышоў час пакінуць бераг Кіеўскага рачнога порта.

Пасажыры дружна высыпалі на ўсе палубы цеплахода.

На беразе замітусіліся ў аранжавых выратавальных камізэльках матросы, аддаючы швартовыя. Загучаў па традыцыі марш «Развітанне славянкі»,і ўжо мы са светлым настроем моўчкі назіраем, як паступова аддаляецца бераг.

**Цеплаход праходзіць паўз маляўнічыя кіеўскія пагоркі, якія з надыходам вечара азарыліся гірляндамі ліхтароў, яшчэ выразней высвеціўшы ўрачыстую бронзу восеньскіх каштанаў.**

**У Кіеве я не ўпершыню, але кожны раз еду сюды, як у родны і блізкі мне горад. Колькі агульнага ў нашых народаў, з далёкіх часоў з'яднаных родавымі каранямі! І гэты Славуціч-Днепр трывала лучыў братоў.**

**Гляджу ў асветленую берагавымі агнямі ваду і ўспамінаю гісторыю аднаго пяшчотнага сяброўства. У сузор'і нашага братэрства яно было кароткім і чыстым, як след метэарыта.**

**Сяргей Мяржынскі — адзін з першых марксістаў на Беларусі — вучыўся ў Кіеўскім універсітэце, прапагандаваў рэвалюцыйныя ідэі сярод студэнтаў. Уваходзіў у Кіеўскі «Саюз барацьбы за вызваленне рабочага класа». Тут ён пазнаёміўся з Лесяй Украінкай. Пад уздзеяннем Мяржынскага паэтэса пачала вывучаць марксісцкую літаратуру. Гэта былі не проста аднадумцы, іх яднала нешта большае. Пасля два разы Леся прыязджала да Мяржынскага ў Мінск, апошні раз — за тыдзень да смерці рэвалюцыянера. Апошнія дні правяла каля ложка хворага. У дзень смерці Сяргея Леся напісала паэму «Апантаная».**

...Тым часам горад аддаляецца, але яшчэ доўга ў начы мы будзем бачыць асветленую, высокую постаць. Скульптурнае ўвасабленне Маці-Радзімы велічна ўздымаецца над адным з самых маляўнічых кіеўскіх пагоркаў.

**15 верасня.** Сёння Дняпра не пазнаць: разліўся — як ахапіць вокам! На далёкіх берагах шклянеюць у восеньскай дымцы далёкія лясы ды пасёлкі пад лапушыстымі дрэвамі. Паўз бакены, у межах якіх трымае курс цеплаход, — дзе чаратовыя, а дзе асачыныя астраўкі, ды між імі чарнее пнёўе. Адразу бачна — мелкаводдзе.

— Адсюль пачынаецца каскад Дняпроўскіх вадасховішчаў, — падказвае Віталь Крыкуненка і падае бінокль.

...Падыходзім да Чаркасаў. Проста да вады спускаецца новы мікрараён. Рыбакі вудзяць рыбу ледзьве не з балконаў.

Я ўжо ведаю, што такое імя горад займеў ад слова «чаркасы». Так раней называлі вайсковых людзей. Тут, на Дняпры, на паўднёвых рубяжах Кіеўскай Русі, некалі стаяла крэпасць.

З чаркаскай зямлёй звязаны імёны Багдана Хмяльніцкага, легендарнага палкаводца грамадзянскай вайны Аляксандра Пархоменкі, ну, і вядома ж, славутага Тараса Шаўчэнкі.

Канеў, дзе пахаваны Тарас Шаўчэнка, мы прайшлі ноччу і, на вялікі жаль, не змаглі пакласці кветак да магілы кабзара.

Сённяшнія Чаркасы — горад хімікаў. Тут — камбінат шаўковых тканін, вытворчае аб'яднанне «Азот», камбінат «Хімвалакно». Сярэднія і вышэйшыя навучальныя ўстановы найчасцей таксама з хімічным ухілам.

Агульнаадукацыйная школа № 3, у якой мы выступалі пасля азнаямлення з горадам, гэтаксама спецыялізуецца на хіміі. Яе выпускнікі, без папярэдняй падрыхтоўкі ў прафесійна - тэхнічных вучылішчах, могуць працаваць на тутэйшых заводах.

Выступілі мы і ў медыцынскім вучылішчы. Дырэктар яго Віктар Падгорны даволі малады чалавек, але тут аўтарытэтны, у самы крытычны перыяд ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі Віктар пакінуў педагагічную працу і паехаў у «зону» ў якасці хірурга.

У Чаркасах жыў выдатны ўкраінскі паэт, наш сучаснік Васіль Сіманенка. Лёс гэтага таленавітага хлопца дужа падобны на лёс рускага паэта Мікалая Рубцова і нашага Анатоля Сербантовіча. Васіля Сіманенкі не стала ў дваццаць сем гадоў. І прызнанне прыйшло толькі пасля смерці. Цяпер на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка, а на гарадскіх могілках — гранітны бюст з крылатымі радкамі паэта.

**16 верасня.** Наш маршрут размеркаваны такім чынам: цеплаход ідзе ноччу. Днём, пакуль турысты няспешна знаёмяцца з горадам, чакае да позняга вечара ля прычалу. Сённяшні дзень выключэнне. У Днепрапятроўск прыйдзем толькі пасля абеду.

Лаўлю сябе на думцы, што рака без акрэсленых берагоў — даволі сумнае відовішча, бо ўсе рэкі, вялікія і малыя, найперш адметныя берагамі. Памятаю, як нават у дождж мы не пакідалі палубы ў час рачнога паходу з Рагачова да Лоева. Кожная паваротка разгортвала жывыя і маляўнічыя палотны.

А тут Дняпро разліўся так шырока не па сваёй волі. Гэта мора рукатворнае. Для каскада электрастанцый і патрэб вялікіх прамысловых гарадоў не абысціся без запасаў вады. Праўда, як нам сказалі, не ўсё ў гэтай справе выйшла так, як планавалася. Ёсць нямала хібаў, якія цяпер паспрабуй выправіць!

...Нарэшце ён, Днепрапятроўск. Яго прамысловую волатнасць адчулі мы гадзіны за дзве да падыходу. Шматколерная дымавая шапка ўбачылася здалёку. Паэты, каб гэта было гадоў колькі назад, пачалі б, напэўна, шукаць узнёслыя рыфмы.

Нешта падобнае мы бачылі і над Днепрадзяржынскам, паўз які прайшлі, не спыняючыся.

І, мусіць, невыпадкова першае, аб чым нам паведамілі на беразе днепрапятроўскія пісьменнікі, дык гэта тое, што на сесіі абласнога Савета народных дэпутатаў разглядаецца пытанне аб ахове навакольнага асяроддзя. Дзіва што — тут каля 150 буйных прамысловых прадпрыемстваў, сярод іх паважнае месца належыць металургічнаму, трубапракатнаму, коксахімічнаму, сілікатнаму, розным электратэхнічным і машынабудаўнічым заводам.

### АЛЯКСАНДР СЯРГЕЕВІЧ І ЯФІМ РЫГОРАВІЧ

Абодва Пушкіны.

Апальны паэт трапіў сюды, у Екацярынаслаў, па дарозе ў паўднёвую ссылку. Прагульваючыся неяк гэтымі вуліцамі.

## «ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

# «СКАРБАМ» — БЫЦЬ!

**З пасяджэння секцыі перакладу СП БССР**

28 кастрычніка адбыўся сход секцыі мастацкага перакладу і літаратурных узаемасувязей СП БССР, на парадку дня якога была творчая дыскусія аб праспекце выдавецкай серыі «Скарбы сусветнай літаратуры».

Перад пачаткам дыскусіі прысутныя паглядзелі тэлевізійную перадачу «Літаратурная Беларусь», прысвечаную гэтаму пытанню. У ёй бралі ўдзел вядомыя вучоныя, перакладчыкі, пісьменнікі, крытыкі. У выступленнях некаторых удзельнікаў гэтай перадачы, у прыватнасці **В. Сёмухі і А. Сідарэвіча**, прагучала непрыхаваная трывога, каб скарбы, якія будуць прапанаваны беларускаму чытачу, не аказаліся штучнымі, паколькі ў рэспубліцы адчуваецца сур'ёзны недахоп высокапрафесійных перакладчыцкіх кадраў.

Тэлевізійная дыскусія дае падставу пагаварыць аб эстэтычным змесце выдання, сказаў ва ўступным слове старшыня секцыі мастацкага перакладу і літаратурных узаемасувязей **В. Рагойша.** Узнікаюць пытанні, як перакладаць: ці толькі з арыгінала, ці з рускай мовы, ці пры дапамозе падрадкоўнікаў, а таксама што перакладаць. У нас ужо ёсць канкрэтны план-праспект гэтага выдання і ўпершыню надараецца магчымасць такога шырокага абмеркавання гэтай выдавецкай серыі.

Многія глядзяць на гэтую серыю, як на паўтарэнне серыі «Библиотека всемирной литературы», але гэта зусім розныя серыі і розныя выданні, зазначыў загадчык рэдакцыі мастацкага перакладу выдавецтва «Мастацкая літаратура» **Б. Сачанка.** Задача ў нас куды сціплейшая. На беларускай мове няма сусветнай класікі, чаму б нам не выдаць для студэнтаў класічныя творы па-беларуску? З гэтай мэтай, абапіраючыся на розныя крыніцы, быў складзены пэўны праект, але ён не канчатковы, і да гэтага дня ідзе яго абмеркаванне. Мы выбралі 300 твораў, якія хацелі б бачыць на беларускай мове, і разбілі іх на тры серыі: «Бібліятэка замежнай прозы», «Паэзія народаў свету» і «Скарбы сусветнай літаратуры». Усе гэтыя серыі цалкам раўнапраўныя, падкрэсліў Б. Сачанка.

Нам усім трэба ўмацавацца ў ідэі і жаданні выдаваць гэтую серыю. Бо вельмі многа галасоў прагучала супраць. І што вельмі крыўдна — супраць выказваліся прафесіяналы, нашы выдатныя перакладчыкі, людзі дасведчаныя, далучыўся да гаворкі першы сакратар праўлення СП БССР **Н. Гілевіч.** Я неаднойчы выступаў па гэтым пытанні. І сёння паўтару яшчэ раз: або мы будзем існаваць як культурная нацыя і будзем мець творы сусветнай літаратуры на роднай мове, альбо не — і змірымся са сваім лёсам. Адкінем жа наш песімізм і сумненні. Выданне гэтае разлічана на многія гады. Галоўнае — паверыць у неабходнасць гэтай справы і не пахаваць яе напачатку. Ёсць канкрэтны план-праспект, але ён не догма. Нам у першую чаргу трэба зыходзіць з нашых рэальных сіл. Творы павінны, як мне здаецца, перакладацца толькі з арыгінала, для гэтага неабходна мабілізаваць усе перакладчыцкія сілы. Трэба рыхтаваць перакладчыкаў, шукаць і рыхтаваць аўтараў прадмоў і каментарыяў, падкрэсліў Н. Гілевіч.

За неабходнасць выдання серыі «Скарбы сусветнай літаратуры» выказалася загадчык кафедры замежнай літаратуры БДУ імя У. І. Леніна **І. Шаблоўская.** Яна адзначыла, што курс замежнай літаратуры на сёння практычна немагчыма чытаць па-беларуску, бо адсутнічаюць тэксты на беларускай мове і падручнікі для студэнтаў. І. Шаблоўская выказала заўвагі на адрас плана-праспекта, у прыватнасці, адзначыла абмежаваную колькасць перакладаў са славянскіх моў і прапанавала распачаць выданне на беларускай мове серыі «Бібліятэка філолага».

Я супраць песімізму, але поўнасцю за трывогу, якая прагучала ў тэлевізійным выступленні В. Сёмухі, сказаў народны пісьменнік Беларусі **Я. Брыль.** Давайце мы падумаем пра рэдактараў перакладаў, прадаўжаў пісьменнік, дзе ў нас тыя рэдактары, якія будуць рэдагаваць Гамера? Не можа не трывожыць і пытанне, хто будзе аўтарамі прадмоў і каментарыяў. Я лічу, што да выдання гэтай серыі трэба падыходзіць практычна, выкарыстоўваючы тое, што мы ўжо маем, наш залаты фонд. А пакуль давайце будзем вучыцца самі, вучыць нашых перакладчыкаў і нашых рэдактараў.

Загадчык рэдакцыі літаратуры народаў СССР выдавецтва «Мастацкая літаратура» **Г. Шаранговіч** выказала прапанову кожны год пасылаць чалавека ў саюзную рэспубліку на вучобу, каб у нас з'явілася патрэбная колькасць перакладчыкаў з моў народаў СССР.

Самы аптымальны варыянт, калі чалавек сам зацікаўлены ў гэтым, сказаў **В. Зуёнак.** Напэўна, і студэнтаў трэба пасылаць толькі тады, калі яны сябе выявілі. Так было, напрыклад, з У. Сіўчыкавым.

**К. Хромчанка** адзначыў, што ў плане-праспекце дрэнна прадстаўлена паэзія старажытнага Усходу, а таксама недастаткова прадстаўлена проза, навелістыка, украінская ў прыватнасці. Аднак ня-

# СВЯТЛО ЯБЛЫКА

**Ля карціны В. ГРАМЫКІ «Яблыкі ўраджаю сорак першага года»**



НА НАС—на мяне, на цябе, на яго—глядзяць іхнія вочы. Вы спыняецеся, крыху адыходзіце назад; вам хочацца зразумець, што ж так уладарна затрымала вашы крокі тут, ля жывапіснага палатна Віктара Грамыкі «Яблыкі ўраджаю сорак першага года». Тры твары. Тры пары вачэй... Яны глядзяць на нас з вамі? Гэта толькі здаецца нам, гэта толькі самае першае ўражанне. Наш позірк раптам ад твараў трох людзей цягнецца да цэнтра кампазіцыі—яблыкі. Нібы толькі што сарваныя з дрэва. «Нібы»—бо навокал смуга і першы холад зімы...

А ці—«зімы»? Мо гэта, наадварот, апошнія дні восені? І так можна падумаць.

**Супярэчлівае ўражанне выклікае гэты твор. Падкрэслены ў ім усе рысы строгага рэалістычнага адлюстравання рэчаіснасці. Як гэта часта бывае ў В. Грамыкі, ён і на гэтае палатно паклаў упэўненыя мазкі свайго чулага да спалучэнняў святла і ценю пэндзля, здатнага «затрымліваць» дзіўныя і дзівосныя пераходы ад святла да змроку, ад «гучнай» фарбы (чырвонай, напрыклад, або ліловай) да «няпэўнай» (смуга, якой ахутана ўся карціна, выглядае то прасветленым змрокам, то азмрочаным святлом). Мастак сюжэтна і кампазіцыйна робіць палатно завершаным па ўсіх вымярэннях. Нават на самым дальнім плане, дзе толькі ўгадваюцца абрысы ракі або возера, ёсць нейкая мяжа. Быццам аўтар падказвае нам: усё, што яго хвалявала і пра што ён збіраўся сказаць,—вось яно, на палатне. Больш мастаку нічога не трэба для ўдакладнення або для пашырэння свайёй задумы і ўздзеяння на гледача.**

Завершанасць... «Усё, што трэба...» Упэўнены пэндзаль... І — адначасова! — адчуванне пэўнай, ледзь улоўнай няўстойлівасці, нечага хісткага. Магчыма, тое адчуванне ад агульнага каларыту і ад сутнасці адлюстраванага. Вайна. На скрыжаванні выпадковых сцежак затрымаліся трое... Зноў — не трое ж, а чацвёра. Ды той чацвёрты персанаж—дзіця. Немаўля, яго твару мы не бачым. Не ведаем, дзяўчынка гэта ці хлопчык. Дзіця! І ўзіраючыся ў твар жанчыны, што прыціснула да грудзей гэтае новае жыццё, што ледзь нарадзілася і адразу ж трапіла ў свет, дзе пануе смерць, — вайна!—мы бачым нешта па-жаночы шчаслівае і разгубленае, самаўпэўненае і пакутлівае, засяроджана валявое і збянтэжанае. Маці, яна на ростанях, мабыць, развітваючыся з мужам, у душы адчувае штосьці, што і растлумачыць цяжка. Зіхаціць на яе твары прамень веры—дзіця будзе жыць, дзіця будзе сынам (ці—дачкой?) пераможцы.

Пераможцы... Мужчына ў ватоўцы. У паходнай форме ўжо не байца і не армейскага афіцэра, а партызана. Толькі вайсковая фуражка з зялёным акольшам—пагранічнік!—дае нам магчымасць уявіць сабе, хто ж ён такі. Мабыць, камандзір на заставе. Прыняў першы бой на досвітку 22 чэрвеня, потым адыходзіў на ўсход з войскамі, зведаў бязлітасную ярасць контратак і смяртэльных рукапашных паядынкаў. У яго руках зараз патроны. Аўтамат—побач. Ён—чалавек са зброяй. Магчыма, яшчэ ўвечары 21 чэрвеня ён дачытваў «Бывай, зброя!» Э. Хемінгуэя...

**Затрымаюся на гэтай літаратурнай асацыяцыі.**

**Чаму я, дылетант у жывапісным мастацтве, захацеў падзяліцца ўражаннем ад карціны В. Грамыкі? Яе персанажы і сюжэт пакідаюць вельмі яркае ўражанне, такое—быццам ты прачытаў раман. Ці, дакладней кажучы, ты мог бы па гэтым творы жывапісу сам скласці раман ці аповесць. І на гэты раз пазнаем таго В. Грамыку, што любіць выразна праграмныя сюжэты ў жывапісе. Нават у пейзажнай лірыцы. Такая ясная праграмнасць не замінае яму спакваля надаваць сваім палотнам метафарычнае гучанне, цішком будаваць сімвалічныя «мізансцэны» або вобразныя рытмічныя спалучэнні фарбаў і колеру. Мастак ведае, якім чынам абуджаюцца ў гледача асацыятыўны роздум і нечаканыя ўспаміны...**

Не буду расшыфроўваць, што менавіта мне (і—нам) нагадвае ўжо сама наяўнасць трох абліччаў на пярэднім плане, трох узростаў, трох пакаленняў. Але звярніце ўвагу на тыя яблыкі—гэта ж асобны, па-мастацку самастойны нацюрморт. Напісаны ён выдатна. Яблыкі можна, як кажуць кінематаграфісты, выкадраваць і паказваць незалежна ад усёй карціны. І як арганічна той нацюрморт упісаны ў палатно. Яблыкі свецяцца сярод смугі і прыцемкаў узлеску. Яны натоляць прагу людзей. Яны памогуць падсілкавацца людзям перад дальняй дарогай. Гэта—з іхняга сада яблыкі. Апошнія, што засталося ад мірнага часу. Тры гэтыя чалавекі ніколі ўжо не забудуць, нават і ў смертную сваю хвіліну, як квітнелі ружова-белай кіпенню яблыні той сонечнай парой сорак першага, калі Яна, гэтая жанчына, насіла яшчэ свой цяжар і жыла надзеяй на мір. А на граніцы здагадваліся, на граніцы ведалі: не сёння — дык заўтра пачнецца вайна... І Ён ведаў...

У яблыку—зерне, абяцанне новага жыцця, новай квецені, новага саду. У жанчыны на руках немаўля—абяцанне працягу жыцця, надзея, заклік. Дарэчы, жаночы твар у мастака атрымаўся нейкі надзвычай тонкі, інтэлігентны. Я нават і не ведаю, як дасягаецца такі эфект у жывапісе, калі звычайны прыгожы твар раптам набывае зусім акрэсленыя рысы добра выхаванай асобы, інтэлектуальна багатай. Мабыць, гэтая жонка афіцэра-пагранічніка па прафесіі школьная настаўніца. І тое, што я сказаў вышэй пра дзіця як пра абяцанне працягу жыцця, як надзею, як заклік,—гэта «прачыталася» мною па твары, намаляваным В. Грамыкам надзвычай тонка, выразна і адухоўлена. Вялікія вочы жанчыны—і ў іх пераплецены такія думкі, такія спадзяванні і такое прадчуванне, што яе ўнутраны свет і можа быць прадметам мастацкага даследавання для раманіста. Статычны—спынены!—позірк. А духоўны стан жанчыны — жывы, рухавы. Яна і развітваецца з мужам, і думае пра лёс дачкі, дзяўчынкі, што стаіць побач з ёй і крыху ззаду (малая памочніца, малая паплечніца маці!), і люляе на гэтым сцюдзёным досвітку немаўля, як сваю і ягоную—як іхнюю—надзею...

Ніхто з трох людзей, адчуваецца, не думае і не гаворыць пра магчымую гібель, пра смерць, што падпільноўвае кожнага з іх, магчыма, на ўскрайку таго возера, за лесам, недзе на гравійцы, па якой маці з дзецьмі пойдзе ў вёску шукаць сховішча і прытулку. Ды нейкае прадчуванне трывог і небяспекі пульсуе ў кожнага ў твары, у позірках і ў гэтых складках губ, у маўчанні іх вуснаў.

**Асабліва ў дзяўчынкі. Падлетак. Ёй сёння ісці б у школу і чытаць песенныя вершы, ёй танцаваць бы ў карагодзе на вялікім перапынку паміж урокамі... Яна ж рыхтуецца прамовіць праз камяк слёз развітальнае: «Бывай, тата... татачка... Татка, бывай!..» А мо і не скажа, не вымавіць ёй тых слоў... І таму ў яе такі не па-дзіцячы сур'ёзны выраз. Валявая засяроджанасць і адначасова летуценнасць у вачах. «Маміных»—такіх жа вялікіх і такіх жа разумных. І ён, яе тата, мабыць, часта казаў ёй: «У цябе вочы, дачушка,—як у нашай мамулі...» Казаў... У дзяўчынкі ўжо ёсць мінулае, ёсць біяграфія.**

Ён перабірае ў фуражцы патроны. Цягне час. А той час — няўмольны. І коні на другім плане карціны, як мы бачым, прадчуваюць ужо канец гэтага прыпынку ў лесе. На ростанях... Мужчына ўжо не адзін раз бываў у баі. Штосьці, як кажуць, абстралянае ёсць у постаці і ў абліччы гэтага мужнага і гордага чалавека. Сярод мітусні адступлення і паміж гэтых непазбежных сутычак з праціўнікам на шляхах і ў пушчах роднага краю ён знайшоў магчымасць прабіцца да родных, выратаваць, вывезці іх у адносна надзейнае месца. Застацца з імі? Хавацца, ратаваць сям'ю? Дык пагранічнік тое і робіць, калі ён абараняе родны край, калі б'е чужынцаў... Пачуццё і абавязак! Не, хістанняў ён не ведае, капітуляваць не збіраецца. Ды штосьці шчымлівае працінае гэты амаль што спакойна стрыманы твар. Можа быць, ён, развітаўшыся з жонкай і дзецьмі, махне ў адчаі рукой і вымавіць з горыччу моцныя слова, і праспявае праз слёзы тое, што заўзята спяваў на вучэбных плацах і ў парадным страі: «Броня крепка и танки наши быстры...». І жорстка будзе помсціць ворагу за парушаны мір, за разбураны родны край, за той гітлераўскі «новы парадак», што захопнікі ўсталёўваюць у гарадах і вёсках над Нёманам і над Бугам, над Бярозай і над Дзвіной...

Мужчына ўглядаецца ў самога сябе. Што ні кажы, яму выпадае пакінуць іх—сваю каханую, любоў сваю, і маленькую дачку сваю, і зусім малое немаўля. Пакінуць—невядома на які тэрмін. Невядома, на колькі тыдняў... месяцаў... А мо і гадоў?..

З-пад яблыневай шкуркі прамяніць нейкае жывое святло жыцця. І ён гоніць думку пра самае жудаснае і страшнае, але яно—нібы прывід: пры ім, побач, і ў ім... Застаецца пакуль адно: пералічыць патроны, каб страляць па ворагу дакладна і ашчадна...

Мне хочацца, каб пейзаж на палатне быў аршанскі, каб сам «сюжэт» быў з асабіста бачаных некалі на дарогах вайны маладым аршанскім падпольшчыкам, а пазней і партызанам Віктарам Грамыкам.

Кампазіцыя карціны амаль строга франтальная. Дарэчы, так пабудавана была і вядомая Грамыкава кампазіцыя «Салдаты». Гледачы, мабыць, помняць тыя ўражлівыя тры постаці ветэранаў вайны: жывыя і велічныя, да болю чулыя на крыўды і абразы і, адначасова, нязломныя, непахісныя... Можа, сярод іх—сівых, параненых не адзін раз, цудам уцалелых у вайну—і герой гэтай карціны, герой «Яблыкаў ураджаю сорак першага года»? Я не прыглядаўся і не параўноўваў гэтыя палотны, я толькі падштурхоўваю ўласную думку-ўражанне. Віктар Грамыка працягвае сваю жывапісную сагу пра чалавека на вайне.

Што ж датычыць франтальнай пабудовы кампазіцыі, то бачыш у ёй і пэўнае кола. Магчыма, такое адчуванне ад зместу палатна: сямейнае кола з яблыкамі ў цэнтры, нібы з вогнішчам-ачагом. І на дальнім плане сферычны абрыс узбярэжжа возера (ці ракі). Зноў жа Грамыкаў матыў: ён амаль абавязкова дае гледачу адчуць сферу, шар, круг—як самую дасканалую форму - фігуру. Больш таго, малюючы пейзаж, напрыклад, вядомую «Браслаўшчыну» 1963 года, В. Грамыка амаль што адкрыта намякае на пэўныя законы касмагоніі: уважлівы глядач здагадваецца, што сама «Браслаўшчына», як, дарэчы, і «Чырвоныя землі Полаччыны», для мастака своеасаблівы злепак, адбітак тае ж Зямлі (бо яна—шар, сфера, як і ўсе планеты, як і Сонца). Ён добра ведае і заўсёды помніць, што для людзей многае з дасканалага ў Сусвеце наогул і, у прыватнасці, на нашай грэшнай Зямлі — акругленае: сфера, кола, кольца, спіраль... Прырода любіць плаўныя пераходы, закругленыя звівы, парабалічныя арбіты, спіраль. Кольца і кола, сфера—найбольш гарманічная і ўстойлівая фігура, якая дорыць нам адчуванне правільнасці ў парадку і ў сістэме.

Вайна разбурае круг, кола, кольца. Разбурае сферу. Мір—гэта вяртанне да кола.

**Наўрад ці В. Грамыка нагадвае нам пра ўсё гэта рацыянальна, свядома і па разліку. Магчыма, сам ён будзе спрачацца са мной і скажа, што ніколі аніякі «акруглены аспект» у жывапісных пошуках яго асабіста як мастака і не цікавіць. Тады я запрашу мастака да такіх ягоных палотнаў, як тая ж «Браслаўшчына», да «Чырвоных земляў Полаччыны», да кампазіцыі «Жанчынам Вялікай Айчыннай прысвячаецца», да карціны «1941 год. Над Прыпяццю». Звярну ягоную ўвагу на тое, як пэндзаль В. Грамыкі прамалёўвае і выпісвае круглае сонца, акругленыя аблокі і хмары, сферычны абрыс азёрных даляглядаў або рачнога берагу. Папрашу ў яго прабачэння, але пакажу і акруглыя постаці коней («Жанчынам прысвячаецца...»). І гэты Замкавы пагорак-курган над Дзвіной паблізу Полацка—ён жа сферычны на фоне акруглага гарызонта азёр!..**

...Яблыкі сорак першага... Сямейнае кола каля гэтага грудка, што можа наталіць смагу, што пахне летам і садам, што нагадвае пра мірнае, такое дарагое ўсім гэтым людзям жыццё. Круглыя, па-сонечнаму светлыя яблыкі. І там, у сярэдзіне, спеюць яшчэ зерні. Будучыня—яна на руках у жанчыны: немаўля. Зерне будучыні — яны...

Барыс БУР'ЯН.

# «ЗОЛАТА»—БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ

**Фестывалі і конкурсы фальклору сталі добрай традыцыяй у многіх краінах свету. У Балгарыі і Чэхаславакіі, у Югаславіі і Фінляндыі, у Іспаніі і ў Савецкім Саюзе рэгулярна праводзяцца спаборніцтвы спевакоў і музыкантаў з народа. І аўдыторыя слухачоў заўсёды тут шматлікая і зацікаўленая, бо шчырае і немудрагелістае, ды разам з тым адмысловае, яркае і паўнакроўнае народнае мастацтва даспадобы людзям з самымі рознымі густамі. Захаванне фальклору, зварот да яго — гэта і вельмі своеасаблівая форма сувязі чалавека з прыродай, барацьбы за захаванне неабходнага жыццёвага асяроддзя.**

**Дадатковыя магчымасці для выяўлення выразнасці сродкаў народнай музыкі дае сучасная гукатэхніка. З гэтага зыходзілі і арганізатары Міжнароднага конкурсу магнітафонных запісаў «Прыз Браціславы». Упершыню ён праходзіў у 1970 годзе. Галоўная мэта конкурсу—параўнанне мастацкіх вынікаў розных радыёстанцый у галіне прапаганды музычнага фальклору. А ў ходзе падрыхтоўкі да яго ідзе пошук цікавых самабытных народных музыкантаў-выканаўцаў, наладжваюцца абмен, а значыць узаемнае ўзбагачэнне фальклорнымі каштоўнасцямі розных этнічных і рэгіянальных культур, супрацоўніцтва паміж радыёстанцыямі, папаўненне фанатэк.**

**«Прыз Браціславы» вельмі папулярны конкурс, і сёлета зноў пацвердзілася яго высокая міжнародная рэпутацыя. У журы ўваходзілі спецыялісты з Аўстрыі, Балгарыі, Венгрыі, ГДР, Грэцыі, Ірландыі, Італіі, Румыніі, СССР, Фінляндыі, ФРГ, Чэхаславакіі, Югаславіі. Прадстаўнічы быў конкурс і па складзе ўдзельнікаў: 34 радыёстанцыі з 14 еўрапейскіх краін адгукнуліся на запрашэнне арганізатараў і даслалі свае запісы для праслухоўвання. Наша краіна была прадстаўлена радыёстанцыямі Масквы, Кіева, Рыгі, Таліна, Мінска. Узровень патрабавальнасці на конкурсе вельмі высокі. Галасаванне праводзілася ў два этапы, у фінал выходзілі дзесяць лепшых запісаў, якія ацэньвала спецыяльнае журы.**

**Як праходзілі сёлетнія спаборніцтвы? Як звычайна, па трох катэгорыях: «А» — запіс народнай песні ў аранжыроўцы для жаночага ці мужчынскага сольнага выканання і інструментальнага суправаджэння; «Б» — запіс фальклорнай музыкі ў аранжыроўцы для сольнага струннага музычнага інструмента; «Ц» — запіс аўтэнтычнага фальклору ў выкананні мужчынскай пеўчай групы.**

**Наша рэспубліка прадставіла на сёлетні конкурс шэсць запісаў, і два з іх атрымалі высокія ўзнагароды.**

**У катэгорыі «Ц» бронзавым медалём адзначаны запіс балады паўднёвай Беларусі «А волы сівы» ў выкананні мужчынскага трыо з вёскі Мохаў Лоеўскага раёна Гомельскай вобласці. Пяюць у ансамблі старэйшыя жыхары вёскі, ім каля 75 гадоў. «Адкрылі» гэтае трыо сту-**

**НАШ КАЛЯНДАР**

# РАСЦЕ ЯГО КАШТАН...

Яму споўнілася б семдзесят.

Равеснік Кастрычніка, ён мог бы разам са знамянальнай гадавінай рэвалюцыі адзначаць і свой асабісты круглы юбілей — як выдатны паэт, як герой мінулай вайны, як...

Ён не дажыў да Перамогі, ён паў смерцю храбрых літаральна за некалькі дзён (20 красавіка), у некалькіх кіламетрах (пад самым Берлінам) да яе.

Ён — гэта мой блізкі зямляк Мікола Сурначоў...

Я ўсё марыў, усё збіраўся наведаць яго родную Слабаду. І толькі нядаўна, у канцы мінулага лета зрабіў гэта. Ад Мінска да Рагачова, ад Рагачова да родных Асмолавіч даехаў аўтобусам, а адсюль ужо, сонечным нядзельным днём, прадаўжаў падарожжа на веласіпедзе. Спачатку па добра ўезджанай прасёлачнай дарозе, далей па асфальце. Малашкавічы, Хмелянец, Юдзічы... І вось — Слабада.

Слабада. Слабодка. Слабаджанка... Вучоныя падлічылі, што на тэрыторыі Беларусі налічваецца каля 150 населеных пунктаў з такімі назвамі. І вось адзін з іх—малая радзіма Міколы Сурначова.

Вёска знаходзіцца ў пяці кіламетрах ад Варшаўскай шашы, у паўночна-заходнім кірунку ад яе. Помніце: «І луг мурожны, і прысады вакол варшаўскае шашы шапталі мне: «Цябе мы рады сустрэць ад шчырае душы». З поўдня і захаду вёска ахавана паўкальцом змешанага лесу. Да вайны ў Слабадзе было восемдзесят двароў, цяпер каля ста. Цэнтральная вуліца — працяг асфальтаванай дарогі,—робячы згібы, заканчваецца на малочна-таварным комплексе. Ад яе адыходзіць яшчэ адна, менш упарадкаваная, разбітая машынамі. Якраз у канцы гэтай вуліцы, каля самага лесу і стаіць пяцісценная хата, у якой семдзесят гадоў назад, у сям'і карэннага слабаджаніна Сурначова Мікалая Яфімавіча і нарадзіўся хлопчык, якога назвалі Колем.

Мяне сустрэла нявестка Сурначовых Раіса Акімаўна. Муж яе, стрыечны брат паэта, таксама Мікалай, заўчасна памёр. Цяпер яна жыве ў доме адна. Час ад часу наязджаюць з Мінска яе сын з жонкай і дзецьмі. Гаспадыня запрасіла мяне ў хату, даволі прасторную і ўтульную, з рэшткамі старой мэблі, пачаставала блінамі са шкваркай. Я пацікавіўся лёсам першых гаспадароў хаты. Бацькі паэта апошнія гады жылі ў Магілёве, там і пахаваны, у Магілёве жывуць яго сёстры і брат Іван. У няспешнай, узрушанай размове гартаем мы ў роднай хаце паэта старонкі яго жыццяпісу... Цікавая дэталь: менавіта ў гэтых сценах, пад гэтай столлю пачаў юны Міколка авалодваць ведамі, скончыў тры класы пачатковай школы. Справа ў тым, што ў Слабадзе спачатку не было будынка пад школу, і вось яна пэўны час кватаравала ў доме бацькі будучага паэта. З 4-га па 7-ы клас Мікола Сурначоў вучыўся ў Рагачове. Потым, як вядома, скончыў сельгастэхнікум і пачаў працаваць у аддзеле сельскай гаспадаркі Рагачоўскай раённай газеты. Гаворым мы з Раісай Акімаўнай і пра ўсю радаслоўную Сурначовых. Аказваецца, шырока раскінула свае галіны дрэва іх роду, самага моцнага і шматлікага ў Слабадзе. Насенне яго густа прарасло і пусціла глыбокія карані на Рагачоўшчыне і за яе межамі. Толькі ў сям'і Мікалая Яфімавіча вырасла сямёра дзяцей: чацвёра сыноў і тры дачкі. Жывуць Сурначовы ў Мінску, Гомелі, Магілёве, Маскве, Ліпецку, у Растоўскай вобласці, на Урале, на Далёкім Усходзе, у Літоўскай ССР. Пяць мужчын з гэтым прозвішчам загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны (акрамя Міколы, не вярнуліся з вайны яго родныя браты Яфім і Фёдар). Паказальны ў гэтым сэнсе наступны эпізод. «Як прозвішча?»—прагучаў з аконца голас касіркі чыгуначнага вакзала ў Рагачове. «Сурначоў» — пачулася ў адказ. Я стаяў у чарзе побач з яшчэ адным Сурначовым. Тут жа ў нас завязалася размова з ім. Ён аказаўся стрыечным братам Міколы Сурначова. Таксама нарадзіўся ў Слабадзе, на некалькі гадоў маладзейшы за паэта. Лёс склаўся так, што жыве далёка ад родных мясцін. Калі развітваліся, Рыгор Сурначоў прызнаўся з засмучэннем, што толькі вось зараз з размовы са мной даведаўся, кім быў яго брат. «Такія мы, беларусы, патрыёты», — сумна падумаў я...

**Успамяніце вы, з якімі**
**Мы не бачымся гадамі.**
**Нас хоць снамі залатымі**
**Успамяніце...**

Гэтыя радкі паэта прыходзяць на памяць, калі еду са Слабады ў Рагачоў. У вёсцы сёй-той, са старэйшых, напрыклад, аднакашніца паэта, зараз пенсіянерка Ф. Е. Шапавалава, успамінае, помніць. А як у Рагачове, першым горадзе паэта-франтавіка? Ці ўспамінаюць, ці ведаюць, ці ўшаноўваюць яго светлую памяць? Так. Ёсць вуліца Міколы Сурначова (былая Гуменная), ёсць мемарыяльная дошка. На душы робіцца лягчэй. «Снамі залатымі» ўспамінаюць толькі блізкія, родныя, а трэба ж, каб ведалі ўсе, асабліва на радзіме... Заходжу ў цэнтральную бібліятэку горада, гутару з дырэктарам Т. Любагошчавай, з загадчыцай аддзела абслугоўвання чытачоў Т. Ездачковай. Мне паказваюць выстаўку, прысвечаную паэтам-франтавікам Рагачоўшчыны і Гомельскай вобласці, расказваюць аб падрыхтоўцы да вечара, які будзе прысвечаны жыццю і творчасці Міколы Сурначова. У новай Рагачоўскай школе № 5 ствараецца літаратурны музей. Ініцыятар яго стварэння настаўніца беларускай мовы і літаратуры Тамара Мікалаеўна Данілава паведамляе мне, якія матэрыялы ўжо сабраны, што робіцца для таго, каб дзеці ведалі пра творчы і ратны подзвіг паэтаў-землякоў, у прыватнасці Міколы Сурначова. Тамара Мікалаеўна расказвае аб пошуках школьных следапытаў, аб тым, як яна са сваімі выхаванцамі ездзіла ў Мінск, каб пазнаёміцца з музеем «Да штыка прыраўнялі пяро», які існуе ў Мінскай сярэдняй школе № 150... Так, у справе ўшанавання нельга без энтузіязму, бескарыслівага служэння высакароднай ідэі.

Шматгранная і шматкаляровая палітра паэзіі Міколы Сурначова. Пранікнёна апяваецца ў ёй беларуская флора: ад бярозкі да каліны. Ды знайшлося ў ёй месца і дрэвам экзатычным, з далёкіх краёў—і піхце, і вінаграднай лазе, і... каштану. Каштан... Магутнае дрэва з раскошнай ярка-зялёнай кронай, непранікальнай ні для сонечных праменняў, ні для струменяў дажджу, узнялося высока над вуліцай, ля самай загарадзі бацькоўскай сялібы паэта. Не дрэва, а жывая легенда. «Гэты каштан пасадзіў наш Мікола»,—гавораць жыхары Слабады. Відаць, гэта сапраўды так. Мяркуючы па яго паэзіі, ён тонка адчуваў і любіў прыроду, яе харастово...

**Табою ўсё тут заварожана:**
**І падужэўшыя дубкі,**
**І сад з прысадамі прыгожымі**
**На беразе крутой ракі...**

Золатам гарыць, палае на асеннім сонцы, расце яго каштан. Які магутны, які, гляджу, малады ён яшчэ, хаця яму недзе пад шэсцьдзесят. Ён перажыў таго, кім быў пасаджаны, — каб разам з людзьмі быць на варце яго неўміручасці.

**І. ПЛАДУНОЎ,**
**наш няштатны карэспандэнт.**
Рагачоў — Мінск.

---

# Аляксей Аляксандравіч ЗАРЫЦКІ

**Беларуская літаратура панесла цяжкую страту. На 77-м годзе жыцця раптоўна памёр вядомы беларускі паэт і перакладчык, член КПСС з 1946 года Аляксей Зарыцкі.**

**Аляксей Аляксандравіч Зарыцкі нарадзіўся 22 сакавіка 1911 года ў пасёлку Хоцімск Клімавіцкага раёна Магілёўскай вобласці ў сям'і служачага.**

**Пасля заканчэння сярэдняй школы працаваў электраманцёрам на Бабруйскім дрэваапрацоўчым камбінаце. У 1936 годзе скончыў Маскоўскі інстытут замежных моў. З 1938 па 1946 год знаходзіўся ў Савецкай Арміі. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, прымаў удзел у баях пад Арлом і Масквой, у баявых аперацыях на Волхаўскім і Ленінградскім франтах.**

**З першымі вершамі выступіў у друку ў 1927 годзе, а ў 1932 годзе выйшаў першы зборнік вершаў паэта «Эпічныя фрагменты».**

**У пасляваенны час выдаў кнігі паэзіі «Дняпроўскае рэха», «Арліная крыніца», «Наш сын», «Світанскія сады», «Вершы і паэмы», «Залатое дно», «Праз бурныя парогі», «Пасылка ў рай», «Размова з сэрцам», «Вяртанне на зямлю», «Мая асяніна», «У дарогу», «Талоны на бяссмерце», «Пераклічка гадоў», «Каля вячэрняга кастра», «Трывожная госця».**

**У сваіх вершах і паэмах Аляксей Зарыцкі праслаўляў ратны подзвіг савецкага народа ў гады вайны, гераічную працу па аднаўленні разбуранай гаспадаркі, праўдзіва і ярка адлюстроўваў духоўны свет нашых сучаснікаў. Яго паэзіі ўласціва шчырая інтанацыя, мастацкая непасрэднасць.**

**Вершы і паэмы Аляксея Зарыцкага неаднаразова перакладаліся на рускую і іншыя мовы народаў СССР.**



**Пяру Аляксея Зарыцкага належыць зборнік успамінаў, крытычных артыкулаў і нарысаў «За словам-падарункам».**

**Вялікае месца ў творчасці паэта займала перакладчыцкая праца. Ён перакладаў з рускай, украінскай, літоўскай, нямецкай, польскай, сербалужыцкай моў.**

**А. А. Зарыцкі прымаў актыўны ўдзел у грамадскім жыцці. Ён выбіраўся членам праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, старшынёй рэвізійнай камісіі рэспубліканскай пісьменніцкай арганізацыі.**

**Аляксей Зарыцкі ўзнагароджаны двума ордэнамі Айчыннай вайны II ступені, медалямі, Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР.**

**Ён быў не толькі таленавітым паэтам, але і добрым, шчырым таварышам. Памяць пра Аляксея Аляксандравіча Зарыцкага назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.**

**В. А. ПЯЧЭННІКАЎ, Н. М. МАЗАЙ, Я. К. ВАЙТОВІЧ, С. Я. ПАЎЛАЎ, Я. І. СКУРКО (МАКСІМ ТАНК), М. І. ДЗЯЛЕЦ, К. К. АТРАХОВІЧ (КАНДРАТ КРАПІВА), В. У. АДАМЧЫК, Р. І. БАРАДУЛІН, І. А. БРЫЛЬ, Г. М. БУРАЎКІН, В. У. БЫКАЎ, А. І. ВЯРЦІНСКІ, Н. С. ГІЛЕВІЧ, А. С. ГРАЧАНІКАЎ, А. А. ЖУК, С. І. ЗАКОННІКАЎ, В. В. ЗУЁНАК, В. А. КАЗЬКО, Ц. В. КРЫСЬКО (ВАСІЛЬ ВІТКА), А. П. КУДРАВЕЦ, П. М. МАКАЛЬ, І. Я. НАВУМЕНКА, У. П. НЯКЛЯЕЎ, П. Е. ПАНЧАНКА, Н. Е. ПАШКЕВІЧ, І. Д. СІПАКОЎ, І. Г. ЧЫГРЫНАЎ, І. П. ШАМЯКІН, Я. І. ЯНІШЧЫЦ, В. С. ГІГЕВІЧ, З. І. АЗГУР, А. С. ВЯЛЮГІН, П. Б. ЗВОНАК.**

**Саюз пісьменнікаў БССР глыбока смуткуе з прычыны раптоўнай смерці паэта, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны, члена КПСС ЗАРЫЦКАГА Аляксея Аляксандравіча і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

---

**«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ**

# ВЕЧАРЫ, СУСТРЭЧЫ

**Ёсць творцы, значнасць зробленага якімі асабліва пазнаецца з часам. Да іх належыць і Сяргей Дзяргай, чыя паэзія — адна з самых яркіх старонак у сучаснай беларускай літаратуры.**

**Пра гэта гаварылася ў Доме літаратара на вечары, прысвечаным 80-годдзю з дня нараджэння С. Дзяргая, які вёў Б. Сачанка.**

**З успамінамі пра паэта выступілі Я. Брыль, Я. Сіпакоў, Я. Міклашэўскі, дацэнт Мінскага радыётэхнічнага інстытута В. Алефірэнка, пляменнік С. Дзяргая В. Карашкоў.**

●

**Там жа прайшоў вечар, прысвечаны 80-годдзю з дня нараджэння Рамана Сабаленкі. Пра творчы і жыццёвы шлях пісьменніка расказала Т. Шамякіна. З успамінамі пра Рамана Карпавіча выступілі Н. Пашкевіч, І. Шамякін, П. Прануза.**
**Вёў вечар А. Асіпенка.**

●

**Творчы вечар Мікалая Чаргінца, прымеркаваны да яго 50-годдзя, прайшоў у клубе імя Ф. Э. Дзяржынскага.**

**Народная артыстка БССР М. Захарэвіч прачытала ўрывак з аповесці М. Чаргінца «Загад № 1»—пра Міхаіла Васільевіча Фрунзе, які стаяў ля вытокаў мінскай міліцыі.**

**Многія творы пісьменніка расказваюць пра супрацоўнікаў крымінальнага вышуку рэспублікі, раскрываюць вобразы тых, хто вядзе бой за чалавека ў чалавеку. Пра гэта гаварылі на вечары І. Шамякін, В. Быкаў, У. Гніламёдаў, А. Кудравец, М. Матукоўскі, І. Чыгрынаў.**

**Павіншавалі М. Чаргінца з 50-годдзем і начальнік палітаддзела Міністэрства ўнутраных спраў БССР М. Жураўскі.**

●

**Цёпла прыняла публіка спектаклі «Карміна Бурана» К. Орфа, «Балеро» М. Равеля і «Вясна свяшчэнная» І. Стравінскага, пастаўленыя галоўным балетмайстрам Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР народным артыстам СССР Валянцінам Елізар'евым. Гэтыя балеты былі паказаны на вечары, прысвечаным 20-годдзю творчай дзейнасці харэографа. У спектаклях удзельнічалі салісты — народныя артысты рэспублікі Л. Бржазоўская, Ю. Траян, У. Камкоў, заслужаны артыст БССР У. Іваноў; І. Душкевіч, Н. Дадзішкіліяні, А. Карзянкоў, салісты - вакалісты Н. Губская, М. Жылюк, В. Стральчэня. Дырыжыравалі народны артыст СССР Я. Вашчак і І. Галаўчын. Вялікую цікавасць гледачоў выклікала таксама выстаўка ў фае, якая расказвае пра балетную трупу тэатра.**

●

**З планамі ў новым тэатральным сезоне пазнаёміў грамадскасць Мінска вечар-анонс у рэспубліканскім Доме работнікаў мастацтваў, які вяла народная артыстка БССР З. Браварская. Аб асноўных накірунках у дзейнасці творчых калектываў гаварылі рэжысёры В. Раеўскі, В. Маслюк, С. Штэйн. Крытык В. Каратай расказаў пра спектаклі, якія будуць пастаўлены ў тэатры музычнай камедыі. С. Клімковіч закранула праблемы малой сцэны опернага тэатра.**

---

**дэнты Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі ў адной з летніх фальклорных экспедыцый.**

**Асаблівы поспех выпаў на долю беларускай народнай песні «А ў нас сёння Купалачка» ў выкананні заслужанай артысткі БССР Валянціны Пархоменка і аркестра народных інструментаў Мінскага інстытута культуры. Апрацоўка Мікалая Сіраты. Запіс гэты ацэньваўся па катэгорыі «А» і атрымаў адразу дзве ўзнагароды. Залатога медаля ўдастоена спявачка за выканаўчае майстэрства і залатым медалём адзначана музычная рэдакцыя Беларускага радыё за падрыхтоўку і выбар запісу (гэтую работу правяла, арганізаваўшы запіс, старшы рэдактар Таццяна Песнякевіч).**

**— Вельмі прыемна, калі наша беларуская песня, гэтая простая сяляначка, атрымлівае такую высокую ўзнагароду, — гаворыць Валянціна Пархоменка. — Я сапраўды адчуваю, што гэта ўзнагарода не мне, а песні нашай — такой шчырай і такой стрыманай, па-жыццёваму мудрай, багатай і фарбамі, і вобразамі, уласцівымі толькі беларускай народнай песні.**

**Калі б была жывая мая бабуля, я адвезла б медаль ёй, бо менавіта дзякуючы ёй і дзякуючы маёй маці я палюбіла беларускую народную песню. Я, калі можна так сказаць, выйшла з яе, з гэтай песні. Яна мяне ўзгадавала, дала такія сілы, такое адчуванне свету і жыцця!.. Без народнай песні проста жыць не змагла б. Гэта як кісларод, патрэбны для дыхання, для нашага існавання.**

**Скончыліся конкурсныя хваляванні, але яшчэ не забылася тая асаблівая прыўзнятая атмасфера, якая пануе на музычных спаборніцтвах. Папоўнілася наша фанатэка запісамі народнай музыкі з многіх краін Еўропы. І нашы, беларускія запісы атрымалі пуцёўку ў жыццё: цяпер іх будуць уключаць у свае праграмы еўрапейскія радыёстанцыі — удзельніцы конкурсу.**

**Аляксандра МЕЛЬНІКАВА,**
**член журы Міжнароднага радыёконкурсу «Прыз Браціславы».**

